



# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

28 ЛІПЕНЯ 2000г. № 30/4062 КОШТ 95 РУБ.



**БЫЎ ЧАС, БЫЎ ВЕК, БЫЛА ЭПОХА**

*Старонкі з будучай кнігі Ніла ГІЛЕВІЧА*

**5, 14—15**

**СХАВАЎШЫСЯ ПАД ДАЖДЖОМ**

*Леанід ГАЛУБОВІЧ пра кнігу Валянціны АКСАК "Антычны дождж"*

**6—7**

**ЖАЛЕЗА**

*Раздзелы з новага твора Алеся РАЗАНАВА*

**8—9**

**ШТО МАЕМ — ТРЭБА БЕРАГЧЫ**

*Тадэвуш СТРУЖЭЦКІ: "Фестываль, які грунтуецца на родным нацыянальным мастацтве, на беларускім слове, узвышае годнасць людзей, іх свядомасць. Важна, каб зварухнулася штосьці ўнутры і ўспомніў чалавек, што ён — беларус і жыве ў еўрапейскай краіне, якая мае годнае мастацтва".*

**10—11**

**СУЦЯШЭННЕ ГІСТОРЫЯЙ**

*Роздум Сямёна ПАДОКШЫНА з нагоды выхаду ў свет "Гісторыі Беларусі. Ч. І. Са старажытных часоў да канца XVIII ст. Курс лекцый".*

**13**






# "Даратэя" і вакол яе



***23 ліпеня паказам камічнай оперы Ц. Хрэннікава "Даратэя" Беларускі дзяржаўны музычны тэатр урачыста развітаўся з мінскай публікай да восені. Спектакль прайшоў "на ўра", замацаваўшы за сабой славу адной з лепшых прэм'ер сёлетняга сталічнага канцэртна-тэатральнага сезона.***

Як жа хацелася яшчэ ўвесну, паглядзеўшы-паслухаўшы прэм'еру, хутчэй дабрацца да чыстага аркуша і распавесці пра ўсё дасціпнае, эпатажнае, "прыкольнае", што вымушала публіку заходзіцца смехам, збянтэжана шаптацца, адбіваць далоні!

Нарэшце, пяро ў руцэ: можна пачынаць. Пачынаю...

Але мінае гадзіна, другая — і пачынаю наноў. І зноў не атрымліваецца. У галаве круціцца легкадумны вясёленькі рэфрэн: "Трам-пам, табадабадам..." І яшчэ — першыя словы з тых папулярных куплетаў: у тэатры, маўляў, рознае мажліва...

Раптам чамусьці згадваецца Купалава:

*Праўду з няпраўдай,*
*Цноту з гарэзіяй*
*Вымешай спрытам, —*
*Будзе паэзія.*

І хочацца зусім не ў рыфму паправіць радок, прыплюсаваўшы да "паэзіі" "камедыю", а лепей — "музычную камедыю".

А вось чаго зусім не хочацца, дык гэта рэцэнзаваць спектакль, які нагадвае незвычайную лірыка-рамантычна-жартоўную песню, доўгую, але не занудную, — дзе ўдала сышліся музыка, тэкст, выкананне, акцёрская імправізацыя і глядацкае ўспрыманне. Песню гэтую пад назвай "Даратэя" трэба проста слухаць і глядзець. Бо ёсць што. Барані Божа "разбіраць" яе, прапускаць праз крытычную экзекуцыю, надаўшы ўласнай фізіяноміі сур'ёзны задуменна-заклапочаны выраз.

Тэатр меў рацыю, калі, сцвярджаючы свой новы статус — Дзяржаўнага музычнага — звярнуўся да камічнай оперы, якую наўрад ці ўзяў бы ў рэпертуар калектыў акадэмічны. (Дарэчы, падобны жанравы прэцэдэнт ужо быў: згадайма пастаноўку "Viva la Mamma!" Г. Даніцэці на гэтай жа сцэне — колішняга тэатра музычнай камедыі). Недачакаўшыся ад айчынных творцаў чаго-небудзь новенькага ды арыгінальнага (чаму беларускія кампазітары рэдка пішуць у гэтым жанры — пытанне для асобнай размовы), трыо Еўтэрпы, Мельпамены і Тэрпсіхоры знайшло для сябе "старую песню пра галоўнае" сярод падзабытых партытур аднаго са старэйшых савецкіх класікаў.

*(Працяг на стар. 2—3)*

АДГАЛОСКІ

# Вудсток на Беласточчыне

**Аматары беларускай рок-музыкі заўважылі як апошнім часам сусіўшылася канцэртнае жыццё ў сталіцы, у іншых гарадах Беларусі. І гэта не дзіўна: амаль усе лідэры нацыянальнага рок-руху, а таксама маладыя гурты, якія прайшлі адмысловы конкурс, рушылі ў Польшчу, на Беласточчыну, дзе на працягу ліпеньскага ўік-энду праводзіўся грандыёзны фэст маладой музыкі Беларусі "Басовішча-2000".**

Трэба заўважыць, што "Басовішча" — адзіны беларускі рок-фестываль, які моцна ўплывае на развіццё рока і ў Беларусі, і на Беласточчыне, а таксама спрыяе пашырэнню ведаў пра творчасць нашых музыкаў у Польшчы і ў Еўропе. Бо ўвага польскіх медыяў да такой з'явы, як беларускі рок-н-рол у гэты час узрастае да неверагодных памераў.

Акрамя творчага імпульсу, фестывальная калізія спрыяе значнаму павелічэнню прыбытку беластоцкіх бізнесоўцаў, якія ў сваю чаргу, ахвотна становяцца спонсарамі буйнейшай беларускай рок-тусоўкі. "Новым беларусам" у Беларусі — добры прыклад! Але для гэтага разумення патрэбны адпаведны стрій мыслення, а не галовы, забітыя немудрагелістымі "мелодыямі" Шуфуцінскага ды Кучына...

Сёлетняя асаблівасць "Басовішча" — правядзенне ў Мінску адборачнага тура фэсту. Пасля таго, як беларускамоўны лейбл БМА-груп стаў афіцыйным прадстаўніком імпрэзы ў Беларусі, было вырашана аб'явіць конкурс фанаграм і правесці выніковы канцэрт у клубе "Альтэрнатыва". У выніку гэтай працы на "Басовішча" паехалі шмат цікавых і перспектыўных каманд, якім можа быць у любы час складзена канкурэнцыя з ліку тых, хто не трапіў гэтым разам на фэст. Сярод маладых шчасліўчыкаў сёлетняга падарожжа на Беласточчыну — гурты "Сонца Мао", "Твар", "Млын"... Канкурэнцыю ім складалі мясцовыя зоркі, напрыклад, гурт "The Дзьверы" ды іншыя. У якасці хэдлайнераў былі запрошаны знакамітыя госці фэсту — "N.R.M.", "Крама", "Зьніч", "Deviation", "Exist", а таксама польскія гурты, якія, апроч іншага, выконвалі і беларускія песні. Сапраўдны фурор, хваля глядацкага захаплення выклікала выступленне гурта "Z" — новага праекта вакаліста "N.R.M." Л. Вольскага.

Рашэннем журы "Басовішча" Гран-пры фестываля і права бясплатнага запісу на адной з мясцовых студый было прысуджана гурту "Postscriptum", які выконвае folk-рок у спалучэнні са складанымі вакальнымі партыямі. Прызамі адзначаны таксама гурты "Сонца Мао", "Z" і інш.

Яшчэ адна асаблівасць "Басовішча-2000" у тым, што вельмі добры камерцыйны поспех мела тут беларуская фанаграфічная прадукцыя. Краму з беларускімі кампакт-дыскамі і касетамі, якая была разгорнута на фэсце, на працягу ўсіх фестывальных падзей пастаянна атакавалі як польскія ды беларускія слухачы, так і шматлікія турысты з еўрапейскіх краін, што пабывалі на фэсце. Спадзяёмся, гэта спрыяе таму, што пра беларускую рок-музыку, андэграунд хутка будуць ведаць больш, наша музыка будзе гучаць у Еўропе. Бо на свае радыё і тэлебачанне, FM-станцыі спадзявацца не выпадае!

І яшчэ адзін вынік, які падкрэсліве поспех фестывалю — пад уплывам яго розгаласу ў Польшчы ўсё больш настойліва схіляюцца да адраджэння легендарнага польскага рок-фестывалю ў Яроціне, які, у адрозненне ад "Басовішча", ужо не праводзіцца.

Відавочна, што задача наступнага "Басовішча-2001" — арганізацыя масавага выезду на яго канцэрты ў Польшчу аматараў рок-музыкі з Беларусі. Гэта будзе добрым прыкладам народнай рок-дыпламатыі!

**Ул. інф.**

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Спрыяе духоўнаму прасвятленню

Алег Хадоска — адзін з маладых маіх вучняў. Яго творчасць больш вядомая музыкантам-прафесіяналам, тэарэтыкам музыкі. Кампазітар напісаў тры сімфоніі, сімфанічную паэму "Сымон-музыка", кантату "Песні Белай Русі", "Літургію Іаана Залатавуста", вакальны цыкл "Беларускі альбом", музыку да балета "Залаты ключык", да кінафільмаў і спектакляў.

Амаль два дзесяцігоддзі мы падтрымліваем творчыя сувязі. Пад маім кіраўніцтвам Алег Хадоска займаўся ў кансерваторыі. Ён вельмі цікавіўся гісторыяй Беларусі, духоўнай спадчынай беларускага народа. І першыя яго кампазітарскія поспехі звязаны з глыбокім асэнсаваннем і таленавітым перастварэннем нацыянальнага меласу. Сведчаннем таму — вакальны цыкл "Беларускі альбом", які ў 1985 годзе адзначаны дыпломам на Усесаюзным конкурсе студэнтаў-кампазітараў у Маскве.

З цягам часу нашы адносіны напоўніліся новым зместам. Алег даверліва паведамляў пра свае задумы, іграў накіды сваіх твораў і чакаў маёй ацэнкі, парады. Мне падабалася яго сур'ёзнае стаўленне да працы, яго адказнасць за сваю кампазітарскую дзейнасць. Юнак выявіў прагу да напісання музычных твораў буйной формы і тут дасягнуў поспехаў. У кожным з іх выяўляліся яго панарамнае ўспрыманне рэчаіснасці, яго клопат за духоўны стан грамадства.

Другая палова 80-х гадоў — новы перыяд у развіцці нашай краіны. І малады кампазітар па-свойму адгукнуўся на сучасныя падзеі. Ён пачаў працаваць над сімфоніяй, якую назваў "Пакаянная" і прысвяціў памяці Пятра Чайкоўскага. Каб больш пераканальна перадаць музычна-вобразнымі сродкамі сутнасць быцця, дапамагчы сваім сучаснікам спасцігнуць яго таямніцы, пазбавіцца залішняй мітусні ў паўсядзённасці, малады кампазітар звярнуўся да класічных твораў, да духоўнай спадчыны. Ён вывучаў харавую музыку славянскіх народаў, праваслаўную літургічную музыку, узоры знаменнага распеву, прааналізаваў партытуры Пятра Чайкоўскага, Сяргея Рахманінава, Дзмітрыя Бартнянскага, Максіма Беразоўскага. У 1992 годзе праца над сімфоніяй N 1 "Пакаянная" для сімфанічнага аркестра, змяшанага хору і магнітафоннай стужкі была завершана.

Я пазнаёміўся з гэтым творам адзін з першых. Алег прыходзіў да мяне дамоў, дзяліўся сваімі праблемамі, уважліва выслухоўваў мае заўвагі. А праз пяць гадоў я слухаў гэты твор майго вучня ў Канцэртнай зале сталічнай філармоніі. Уражанне непаўторнае. У сімфоніі арганічна спалучыліся традыцыі знаменнага распеву, праваслаўнай духоўнай музыкі і сучасныя музычна-вобразныя сродкі. Вельмі ўпрыгожваюць твор, робяць яго адметным харавыя фрагменты, напісаныя на літургічныя тэксты "Приидите, поклонимся", "Аллилуйя", "Святый Боже, святый крепкий, помилуй нас".

Зварот да Божай моцы — асаблівага вымярэння, якога нам не дадзена цалкам уявіць, — заканамерны крок у дзейнасці кампазітара, які жадае сваёй творчасцю паспрыяць прасвятленню грамадства, яго духоўнаму ачышчэнню.

Вельмі рады, што сімфонія N 1 "Пакаянная" Алега Хадоскі вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Прыемна, што Саюз кампазітараў — творчае аб'яднанне строгіх калегаў, патрабавальных да якасці і характа музычных твораў, — аб'ектыўна ацэньвае здабыткі маладога кампазітара, падтрымлівае развіццё яго таленту і вызначае ўзровень яго прафесіяналізму. Хочацца верыць, што Алег Хадоска сваёй творчасцю, дбайнай дзейнасцю будзе таленавіта развіваць музычнае мастацтва Беларусі, становяча ўплываць на духоўны стан грамадства, спрыяць яго духоўнаму прасвятленню.

**Анатоль БАГАТЫРОЎ, кампазітар, прафесар Беларускай акадэміі музыкі, народны артыст Беларусі.**

руся, "рознае магчыма". Прынамсі, лібрэта Я. Халецкага пададзена ў літаратурна-сцэнічнай рэдакцыі І. Шыцікавай: пра гэта сведчыць праграмка спектакля, у якой чамусьці ўжо не знайшлося месца для спасылкі на першакрыніцу — Шэрыданаву "Дуэнью". (Злы лёс на тым не спыніўся: з адной газетнай рэцэнзіі "выпала" прозвішча кампазітара і "Даратэя" зрабілася операй... Б. Лагоды!)

Ды ўрэшце — прапаную педантычным тэатра-меламанам не марнаваць час на пошукі перакладаў легендарнай "Дуэньі", пракоф'еўскага лібрэта ці на аднаўленне ў памяці фабулы аднайменнага фільма. Варта дачакацца новага сезона, прыйсці ў тэатр і даверыцца атмасферы спектакля, які абавязвае нас, адпаведна вядомаму правілу, "судзіць мастака паводле законаў, ім жа самім устаноўленых".

Вы й не заўважыце, як апынецеся ў палоне вясёлай немудрагелістай qui pro quo, дзе рэй вядзе зусім і не старая, спрытная, кемлівая, вострая на язык і ўчэпістая, нават прыцягальная ў сваёй "адмоўнай абаяльнасці" дуэнья Даратэя (І. Заянчкоўская). Вакол яе круціцца карнавальны свет непаразумелацыў, сентыментальных пачуццяў, зямных жыццёвых слабасцяў, рамантычных памкненняў, цвярозых іранічных высноў і наіўных учынкаў. А ў гэтым свеце — самавіты "бацька сямейства" Джэрома, гняўлівы і міккасардэчны таўстун з дубальтоўкай (А. Касцецкі). І яго ўзнёслая і зямная, жвавая пястушка-дачка (І. Цярэнцева). І закаханы ў яе, Інесу, летуценнік Антонію (Д. Якубовіч). І ганарлівая прыгажуня Леанора (І. Шыцікава) з раўнівым Фернанда (А. Заянчкоўскі). І дзівакаваты дзядуля, гэткі прагавіты селадон Мендоса (В. Бажэнаў) са сваім куды больш дзівакаватым спадарожнікам, нафарбаваным і какетлівым, але зусім ужо абыякавым да персон супрацьлеглага полу, донам Карласам (В. Сердзюкоў). І "салодкая парачка" манахаў (А. Ранцанц, І. Скарабагатава). І ўвішныя слугі, і паслужлівыя кабальера, і гарэзлівыя насельнікі мужчынскага ды жаночага манастыроў...



нае п'янства праз частаванне публікі ў партэры сапраўднай "беленькай"? (Так, гарэліцу адкаркоўваюць, разліваюць, разносяць персанажы спектакля: прыёмчык, шыўра кажучы, пазамастацкі, нядорага каштуе, але ён вынікае з мізансцэны — "шлюбнай здзелкі" шчаслівага татулькі з будучым зяцем, і далучаецца да іх застолля тэатр не прымушае, усяго толькі хлебасольна прапануе).

Не варта спрачацца са скептыкамі, спасылаючыся на яшчэ сярэднявечныя традыцыі антыклерыкальнай сатыры, напрыклад, ці на іншы даўні, багаты і неадназначны досвед вялікай літаратуры і сусветнага тэатра. Чаго ў ім толькі не было! І колькі рознага магчыма...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: сцэны са спектакля.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

Што ж, у тэатры рознае магчыма, у тым ліку й прысутнасць на спектаклі чалавека, цалкам пазбаўленага пачуцця гумару. Прыйдзе вось такі, "з сур'ёзнымі намерамі", глядзець камічную оперу дый задумаецца не жартам: а як жа, маўляў, можна паказваць, што манахі п'юць, скачуць і нават... заляцаюцца? А як жа можна ўчыняць на сцэне мыццё салідных паноў у бочках з парай, венічкамі ды пекнымі "лазеншчыцамі"? А ці не двухсэнсоўная сітуацыя, калі ў сцэне з удзелам двух ці трох мужчын прадстаўніцы лепшай палова чалавецтва падаюцца проста лішнімі? А ці не ўзаконьваецца публіч-

АБСЯГІ

ГОМЕЛЬШЧЫНА...

## Летапісец Палесся

Вось ужо сорак год як удзельнічае ў выставах светлагорскі жывапісец Міхаіл Андык. Ягоныя работы ўпрыгожвалі шматлікія экспазіцыі ў Гомелі, Мінску, Маскве, прамысловых цэнтрах Урала, Сібіры, Далёкага Усходу і, натуральна, у родным горадзе. Нарадзіўся Андык у глыбі Палесся, у вёсцы Перароў Жыткавіцкага раёна на беразе Прыпяці, жыве ў Светлагорску з моманту яго заснавання. Менавіта прырода роднага краю і стала асновай ягонай творчасці. Пейзажы майстра заўжды радуюць мажорам, святлом і ўзнёсласцю... Міхаіл Пятровіч падрыхтаваў цыкл новых палотнаў для персанальнай выставы, якая неўзабаве адбудзецца ў Светлагорску.

## За вамі слова, скульптары!

Закончыўся першы тур адкрытага конкурсу па распрацоўцы лепшага праекта помніка выдатнаму славянскаму асветніку Кірылу Тураўскаму, які будзе ўстаноўлены ў Гомелі. Журы разгледзела кампазіцыі скульптараў з Гомеля, Мінска. А днямі абвешчаны другі тур, вынікі якога плануецца падвесці восенню. Адначасова гарвыканкам прыняў рашэнне правесці ў наступным годзе другі міжнародны пленэр скульптараў, у якім будуць браць удзел майстры разца з Беларусі, Расіі і Украіны.

## Фотападарожжа ў парк

У 1800 годзе ў правінцыйным гарадку Умані, што на Украіне, адкрыўся парк, які па прыгажосці не саступае лепшым паркам Еўропы. Натуральна, у наш нялёгкі час не ўсе яго могуць наведаць. А вось гамяльчанам пашанцавала: яны "падарожнічаюць" па парку, любуючыся здымкамі, якія зрабіў зямляк, сябра Расійскага саюза фотамастакоў Алег Белавусаў. Гэтымі днямі ў мастацкім аддзеле абласнога краязнаўчага музея адкрыта яго персанальная выстава.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

ГРОДЗЕНШЧЫНА...

## Вышываная паэзія

Больш за 160 вышываных карцін 55-ці аўтараў прадстаўлена на выставе "Паэзія ў нітках", якая адкрылася днямі ў выставачнай зале абласнога Саюза мастакоў. У экспазіцыі — работы майстроў студыі мастацкай вышыўкі "Чараўніцы" Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея (кіруе студыяй вядомая ў горадзе вышывальшчыца Аляўтына Кавалеўская). Сярод прадстаўленых твораў — вельмі цікавая серыя з выявамі гербаў беларускіх гарадоў: Мінска, Гродна, Віцебска, Слуцка, Пінска...

**Лілія НАВІЦКАЯ**

БРЭСТЧЫНА...

## Надпіс на камені

"Міхась Забэйда-Суміцкі (1900-1981). Вядомы ў Еўропе оперны спявак. Нарадзіўся ў вёсцы Шэйпічы Пружанскага раёна". Прыгожы камень-валун з такім надпісам устаноўлены ў гэтай невялічкай, але славутай вёсцы. На адкрыцці і асвячэнне памятнага знака, нягледзячы на дождж, сабралася нямала людзей. Цёпла ўспаміналі земляка ягоныя аднавяскоўцы і сябры Іосіф Казляк і Уладзімір Асеявец, пра значэнне творчасці Забэйды-Суміцкага для беларускай культуры гаварылі кандыдат гістарычных навук Леанід Несцярчук і старшыня Пружанскага райсавета Яўгенія Зеляновіч. А потым самадзейныя артысты спявалі народныя песні, якія любіў, апрацоўваў і самабытна выконваў Забэйда-Суміцкі. І надпіс на камені шмат каму падаўся не зусім дакладным і поўным...

## І ажыў старажытны дзядзінец

Каля дзесяці брэсцкіх грамадскіх арганізацый, аб'яднаных пагадненнем аб сумеснай дзейнасці, адзначылі мастацка-культурнай праграмай 590-гадовы юбілей Грунвальдскай бітвы. Імпрэза праходзіла на пляцоўцы перад музеем "Бярэсце", на старажытным гарадскім дзядзінцы. Ладзіліся краязнаўчыя віктарыны і конкурсы, гучалі бардаўскія песні, артысты тэатра драмы і музыкі паказалі ўрывак са спектакля паводле гістарычнай п'есы Аляксея Дударава "Купала". Так на некалькі гадзін адхінулася заслона часу, ажыў старажытны дзядзінец — месца, дзе напярэдадні бітвы ў 1409 годзе адбылася нарада вялікага князя Вітаўта і караля Ягайлы і адкуль праз год рушыла пад Грунвальд берасцейская харугва.

**Сымон АКСЕНІН**

ВІЦЕБШЧЫНА...

## Музей славутага роду

Выканкам Крынкаўскага сельсавета і Высачанская сярэдняя школа Лёзненскага раёна пачалі працу па стварэнні ў Высачанах музея, прысвечанага славутаму беларускаму шляхецкаму роду Гуркаў-Рамейкаў... Многія прадстаўнікі гэтага роду, прыкладна 10-11 пакаленняў якога на працягу амаль 350 гадоў жылі на Лёзненшчыне, пакінулі значны след у гісторыі. Сярод Гуркаў-Рамейкаў было 6 генералаў, фельдмаршал, вядомыя авіяканструктары, у тым ліку і адзін з распрацоўшчыкаў французскага самалёта "Канкорд", дзяржаўныя дзеячы. На жаль, аб усім гэтым у родных мясцінах Гурка-Рамейкаў цяпер ведаюць кепска. Стваральнікі музея стараюцца пераадолець гістарычнае беспамяцтва, зацікавіць моладзь слаўнымі справамі і учынкамі продкаў. Аргкамітэт устанаўлівае сувязі з сённяшнімі прадстаўнікамі роду Гуркаў-Рамейкаў, якія жывуць у Маскве і Парыжы, чакаюць з Балгарыі матэрыялы аб ролі фельдмаршала Іосіфа Гуркі ў вызваленні гэтай краіны ад 500-гадовага асманскага ўладарання. Распрацоўваецца канцэпцыя музея. У Высачанах і Крынках у наступным годзе пройдзе адпаведная навукова-практычная канферэнцыя. Дапамагчы ў яе арганізацыі паабяцалі Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны і Міністэрства адукацыі краіны.

**Вера КАДУШКА**

МАГІЛЁЎШЧЫНА...

## Выстава ў Асіповічах

У Асіповіцкім раёне прайшоў агляд-конкурс работ мясцовых фотамайстроў. Яго арганізавалі аддзел культуры райвыканкама і раённы Цэнтр народных рамёстваў. Фотавыстава зараз дэманструецца ў гарадской бібліятэцы.

## З Аўцюкоў — з перамогай

Ва Усебеларускім фестывалі народнага гумару прымалі ўдзел і калектывы з Магілёўшчыны: тэатр мініяцюр гарадскога Цэнтра культуры і вольнага часу і фальклорны ансамбль "Шчадрэц" з Краснаполля. Тэатр атрымаў Ганаровую грамату ад Камітэта міру, фальклорны ансамбль — дыплом.

## Конкурс прыпевак

У чацвёрты раз праходзіў конкурс народных прыпевак, арганізаваны ўпраўленнем культуры аблвыканкама і аддзелам культуры Слаўгарадскага райвыканкама. У конкурсе бралі ўдзел амаль 300 выканаўцаў з 18 раёнаў вобласці.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## Беларусы на Пушкінскіх днях паэзіі



**У Міхайлаўскім прайшлі традыцыйныя Пушкінскія дні паэзіі, на якіх пабывалі беларускія паэты Барыс Беліжэнка і Станіслаў Валодзька, дзе пакланіліся магіле вялікага рускага паэта, прысутнічалі на богаслужэнні ў Святагорскім манастыры, а таксама наведалі Дом-музей Пушкіна і Міхайлаўскую паляну, дзе разам з іншымі паэтамі з розных куткоў Расіі чыталі свае вершы.Старшыня Пскоўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі, сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі Аляксандр Болагаў выказаў спадзяванне, што беларускія паэты будуць удзельнічаць у Пушкінскім свяце і ў будучым.**

**Н. К.**

## Новыя выданні ТБМ




**Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выдала паштоўку з нагоды 160-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча, а таксама кішэнны каляндарык да 90-ай гадавіны паэткі Ларысы Геніюш.**




**Падрабязную інфармацыю пра гэтыя выданні можна атрымаць у сядзібе ТБМ у Мінску, вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11.**

ГАСЦЁЎНЯ

# Яўген ПЯСЕЦКІ: "Збіраю памяць пра людзей"

**— Яўген, мы знаёмыя не так даўно, і я ў некаторай разгубленасці: для гаворкі не знаходжу пачатку!**

— У маім выпадку напачатку было фота. Просценькі айчынны бацькаў "ФЭД" разам са стрэльбай вісеў у хаце на відным месцы. Бацька, самадзейны мастак, працаваў настаўнікам малявання ў школах Смалявіцкага раёна.

**— Чаму ў множным ліку — "школах"?**

— Таму што мы ўвесь час пераязджалі. Маці працавала інжынерам па торфаздабычы (тады гэта была вельмі перспектыўная для Беларусі галіна), і яе пераводзілі з месца на месца. Разам з ёю вандравала па вёсках і сям'я. Дарэчы, сярод жанчын маці першай у рэспубліцы атрымала вышэйшую адукацыю па гэтай спецыяльнасці. Па сутнасці — тэхнічная "эмансіпе".

**— І што, бацька дазваляў карыстацца фотаапаратам?**

— Толькі як падрос. А перш я захапляўся маляваннем. Не проста так пэцкаў — хацелася мець уласны эцюднік. Бацька мусіў прэзентаваць свой. Ён мяне заахвочваў, купляў фарбы... Усе хлопцы вакол займаліся гэтай справай, елкі ў снезе малявалі — з натуры... Шмат карцін вісела ў нашай хаце. Адна з бацькавых акварэляў і зараз перада мной, зірніце. Праўда, неблагая? Маці, аматарка мастацкай літаратуры, адна з першых у вёсцы купіла тэлевізар і глядзела па ім выключна аперэту. Пачуўшы першыя гукі, кідала ўсё... Я і сам, следам за ёю, пераймаў арыі з аперэт. І дасюль ведаю. "Містэра Ікс", напрыклад...

**— Калі ж мы дойдзем да фота?**

— Нецярплівая вы, аднак... Усё, пра што я сказаў, — аснова, падмурак фатаграфіі. Бо яна для мяне — зусім не тэхнічны сродак. Гэта тое, што дазваляла сабраць у адно ўсе мае захапленні — малюнак, любоў да прыроды, вандроўкі... Гэта і фіксацыя ўласнага задавальнення, уласнай радасці - каб захаваць яе і падзяліцца з людзьмі. Сінтэз усяго! А потым — і хлеб мой надзённы, адзіная прафесія. Праз месяц пасля заканчэння Зеленаборскай дзесяцігодкі мяне ўзялі ў штат смалявіцкай раёнкі ў якасці фотакарэспандэнта. Тады ж я прайшоў і школу рабселькораў.

**— Пачатак журналістыкі?**

— Так. Але экзамен на журфак я праспяхова праваліў (хаця вытрымаў творчы конкурс). Праз год паступіў туды завочна, аднак мяне звольнілі: частка студэнтаў склала петыцыю з патрабаваннем, каб нам асобныя дысцыпліны замянілі на іншыя, больш патрэбныя ў практыцы. Пасля арміі, дзе я супрацоўнічаў з вайсковай газетай, мяне запрасіла на дагавор "Звязда". Прымаў галоўны рэдактар, Мікалай Іванавіч Дзялец. З 1971 года я там.

**— Хутка юбілей?**

— Сапраўды, у наступным годзе — 30 год.

**— Ці шмат вакол вас людзей, што называецца, "для душы"?**

— У мяне няма падзелу на сяброў старых і новых. Бывае, што сябрам становіцца чалавек, з якім я кантактуюся паўгадзіны. Чэпкія, хітрыя, прыткія неяк не затрымліваюцца, а насычаны духам чалавек заўсёды пакідае ў жыцці светлы след. Я збіраю памяць пра ўсіх, хто мне блізкі. Не, не ў выглядзе здымкаў! Памятаю сустрэчы — знешнасць, асаблівасць характару, светапогляд, вучуся ў такіх людзей. І ўсе яны вельмі розныя...

**— Можна падумаць, што вы людзей калекцыяніруеце...**

— Часам я іх адкрываю — калі здымак праходзіць у газеце. Вось, напрыклад, адно з такіх адкрыццяў — Мікалай Захаранка са Швабаў (афіцыйная назва — Чырвоная Швабаўка). Мне і раней пра яго даводзілася чуць — што песні спявае, п'есы піша (яны нават на купалаўскай сцэне пастаўлены), літаратурны крытык. Аказалася, што ён завадатар, прызнаны лідэр: усю школу згуртаваў у фальклорна-этнаграфічны гуртok. Туды нават спартсмены ўваходзяць! Усе дзеці вакол яго, усе падзяляюць яго захапленне: вершы пішуць, народныя песні спяваюць... За гадзіну знаёмства ён стаў для мяне аднадумцам. Люблю сваю прафесію яшчэ і за тое, што дазваляе мне сустракаць такіх цікавых людзей.

**— Вы ўпамянулі пра вандроўкі. Што маецца на ўвазе?**

— Гэта ў мяне, мабыць, генетычнае — ад бацькі, які са стрэльбай абходзіў мясцовыя лясы. Па рабоце я меў шмат камандзіровак, у асноўным па Беларусі. У 70-ыя прабіўся ў маскоўскую прэсу і з пасведчаннем спецыяльнага карэспандэнта "Праўды" аб'ездзіў Савецкі Саюз: "Поўнач (Архангельск, Нар'ян-Мар), Камчатка, Амур, кітайская мяжа, Каракумы, Каспій, дзе з рыбакамі плаваў на сейнеры. І хоць на мяне спіхвалі чарнавую працу, я ўспрымаў гэта як падарунак. У 80-ых як кіраўнік секцыі фотакарэспандэнтаў пры Саюзе журналістаў меў магчымасць набываць пуцёўкі за мяжу. Такім чынам пабываў на ўсіх сацыялістычных краінах, а таксама ў ФРГ, Аўстрыі...

**— І ад кожнай пабачанай краіны засталося па альбому?**

— Альбом для мяне — зусім не сродак забавіць сяброў; гэта архіў альбо фототэка, дзе пазначаны нумары канвертаў з негатывамі і захоўваюцца публікацыі з паездак.

**— Вы адкрылі ў "Звяздзе" новую рубрыку — "Фотаслова", дзе побач са здымкам змяшчаецца ўласны верш. Новая форма, аўтарская знаходка, можна сказаць... Вершы даўно пачалі пісацца?**

— Тры гады таму. І неяк самі па сабе. Пачалося ўсё з жадання аздобіць здымак. Як бы не хапала нечага... Непадалёку ад свайго лецішча (а я заўсёды гуляю з фотаапаратам, чым здзіўляю родзічаў) пабачыў чалавека. Ідзе перада мной па полі. Толькі далёкая постаць сярод голай восені, калі ўжо ніякага характара не засталося. Тады і напісаўся першы верш.

*Хіба ж ты не блукаў*
*Бяздомнай птушкаю,*
*Як Божы дар прымаў —*
*Ваду з асушкаю?*
*Хіба ж ты не крылом*
*Гнаў гора горкае,*
*Што залецела ў дом*
*Палынам-зоркаю?*
*Йшоў папараць шукаць,*
*Ды ў багну завяло,*
*Хацеў братоў гукаць,*
*Ды мову адняло.*
*Каршук пад сэрца біў,*
*Каб сэрцу ўсё забыць...*
*Хіба ж не ты там быў —*
*А мне ў грудзях баліць...*

**— Што найбольш падабаецца здымаць?**

— Людскія твары. Не постаці, не рухі — менавіта твары. Кажуць, што ў мяне зашмат здымкаў, калі чалавек глядзіць у аб'ектыў. Лічыцца, што сапраўдны характар "схопліваецца" там, дзе няма кантакту з мастаком. А па мне дык найбольш інфармацыі, калі бачыш вочы. А з кветак мне асабліва падабаюцца валошкі. Любімы мой здымак — валошка, прыціснутая бурай.

**— На вашых здымках, Яўген, шмат крыжоў і цэркваў. А паколькі вы ўдзельнічаеце каторы год у экспедыцыі "Дарога да святыняў" з Непагаснай лампадай,- то пра антураж думаць не даводзіцца...**

— Не толькі ў маіх здымках — у душы крыж прысутнічае не як тэма ці проста сімвал. Я хацеў бы глядзець на свет вачамі веруючага чалавека, мець арганічнае адчуванне Бога. У праваслаўі бачу вышэйшы духоўны крытэрый, а не проста ратунак ад жыццёвых цяжкасцей. Яно адказвае на пытанні любога кшталту, змушае дзейнічаць так, а не інакш, рабіць гэта, а не тое. На сабе пераканаўся: калі чалавек згодны з хрысціянскімі запаветамі, тады літаральна ўсё ў яго праходзіць самацэнзуру, мяняецца самаацэнка і ўспрыманне свету. Часам здаецца, што калі б з сённяшнімі поглядамі мяне перакінуць у савецкі час, то я там не ўжыўся б. Бо змяніўся не толькі час — змяніўся я сам. "Адкажы, сам сабе адкажы, Ці не збрыдзела жыць па ілжы?" Памятаю, як мы выставы рыхтавалі да партыйных з'ездаў ці юбілейных дат. Усе мы выдатна ведалі, што трэба прапанаваць. Прадстаўнік з ЦК глядзеў, выносіў рэзюме: "Мала трактароў" (так мы дабаўлялі сабе велічнасці). І тады ўжо давай любы трактар — і ён пройдзе. Былі заўвагі па ўзроўні аптымізму: каб усмешкі на тварах, адзенне не абы-якое... Не дай Бог, каб які дзядзька вясковы абарваны трапіўся! А як намёк на "ню", то ўвогуле канец свету...



**— Ці ёсць у вас дзівацтвы?**

— Калекцыю падставак пад піўныя куфлі можна сюды аднесці?

**— А што болей любіце — падстаўкі ці само піва?**

— Пытанне правакацыйнае, але адкажу: пару разоў на тыдзень — лічу, нармальна.

**— Пра што мары?**

— Пра лета. Каб можна было працаваць з раніцы да цямна. Зіма фотамастацтву не спрыяе: асвятлення недастаткова, апарат стыне... Загадзя пачынаю рыхтавацца да чарговай паездкі з лампадаю, што прыпадае звычайна на пачатак верасня (да Дня беларускага пісьменства). Ад гэтых вандровак застаецца мноства ўражанняў і фотаматэрыялу. Шчыміць душа, як глядзіш на старых вяскоўцаў. Яны думаюць, што для шчасця дастаткова калодзежнай вады і чэрствага хлеба ў аўталаўцы. А з другога боку — зайздрошчу ім, бо ўмеюць проста глядзець на рэчы і проста выказвацца.

**Гутарыла Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**



*Бабулька з Юравічаў.* *Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.*

# Быў час, быў век, была эпоха

## СТАРОНКІ З БУДУЧАЙ КНІГІ

Ніл ГІЛЕВІЧ

### Расчараванне пачалося з... тоўстага карка Ландара

ЧАСОПІС "НЁМАН" у нумарах 9, 10 і 11 за мінулы год змясціў выбарку з "Дзённікаў" Іосіфа Голубева — сведкі і ўдзельніка такіх гістарычных падзей першай чвэрці XX стагоддзя, як лютаўская рэвалюцыя 1917-га, кастрычніцкі бальшавіцкі пераварот, грамадзянская вайна, пачатковы этап усталявання савецкай улады на Беларусі. Публікацыя цікавая не толькі як амаль дакументальнае занатаванне таго, што адбывалася ў нашай краіне на вялікім пераломе эпох, але і як старонкі біяграфіі чалавека, што з простых рабочых выйшаў у актыўныя змагары за новы сацыяльны лад, за камуністычныя ідэалы, якія так прывабілі і захапілі людзей наёмнай працы. Яна цікавая і ў чыста чалавечым плане — гранічнай шчырасцю роспаведу пра сябе, пра асабістае жыццё, пра досыць складаныя сямейныя калізіі. Адным словам, аўтар "Дзённікаў" — асоба неардынарная. Але я хачу вылучыць толькі адзін момант з ласнаручнага жыццяпісу І. П. Голубева: пачатак яго драматычнага расчаравання ў тых, каму так горача быў паверыў.

Рэч у тым, што аўтар дзённікавых запісак асабіста ведаў многіх актыўных бальшавікоў, якія захоплівалі і затым умацоўвалі сваю ўладу ў Мінску. Гэта — Фрунзе (пад псеўдзімам Міхайлаў), Мяснікоў, Ландар, Пазерн (між іншым: ніводнага беларуса, — да пытання, хто распараджаўся лёсам нашага народа). У РСДРП Голубеў уступіў ужо вясной 1917-га, застаючыся, аднак, чалавекам глыбока набожным (у яго разуменні гэта адно другому не пярэчыла: Бог жа таксама быў за бедных, за абяздоленых). Пэўны час ён быў супроць расколу ў лагеры мінскіх сацыял-дэмакратаў. "Гэта раўнасільна пагрозе нашай рэвалюцыі, г. зн. нашай свабодзе. Не дай Бог яшчэ такога паўтарэння Братазабойства, г. зн. Грамадзянскай вайны", — з засмучэннем піша ён пасля крывавых ліпеньскіх падзей у Петраградзе. Калі ж раскол усё-такі адбыўся, Голубеў у жніўні 1917-га далучыўся да бальшавіцкай фракцыі, стаў скарбнікам раённага Камітэта партыі, у канцы таго ж года нейкі час узначальваў Чырвоную Гвардыю Мінскіх майстэрняў Аляксандраўскай чыгункі і нават быў камісарам Мінскай чыгуначнай станцыі. А летам 1921-га напісаў заяву аб выхадзе з партыі — тады гэта рабілася проста, пераследу не ўчынялася. У запісе за 31 ліпеня 1921 года чытаем: "Годзе пераносіць несправядлівасці, ды яшчэ ад малакасосаў, камуністаў, якія ніякіх ахвяр не панеслі, а брахаць языком — гэта вельмі лёгка. (...) Да чаго старыя бальшавікі імкнуліся, таго не дасягнулі, а атрымалася штосьці іншае, што не адпавядае нашай праграме. Гэта вельмі горна. Вось і атрымалася расчараванне старых камуністаў-бальшавікоў". Праз паўтара года гэты ж настрой і гэтую ж думку ён паўторыць амаль даслоўна: "Да чаго мы імкнуліся, таго не дасягнулі, а толькі сябе закабалілі, увесь цяжар рэвалюцыі сабе на плечы ўзвалілі. Ах, як цяжка. У гадзіну дня прыйшоў дамоў. Мне было горка, што такое цяжкае становішча рабочых, калі гэта будзе лепш рабочаму? Бадай,толькі ў магіле набудзе ён сваё супакаенне. Як гэта сумна і крыўдна, што прапалі нашы труды ні за нюх табакі. Эх, няшчасны, няшчасны наш клас". (Запіс ад 5 снежня 1922 года).

А пачалося расчараванне Іосіфа Пятровіча ў бальшавіках, у новай уладзе яшчэ ў лістападзе 1917-га, і пачалося з... тоўстага карку Ландара. "...Пачынаю расчароўвацца ў паводзінах выканаўчага камітэта Савета рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. (...). Я прыглядзеўся, у асаблівасці да старшыні Савета тав. Ландара. У яго ад старшынства шыя настолькі зрабілася тоўстай, што на патыліцу стала падымацца. Вось гэта мне асабліва вельмі не падабаецца, не ведаю, як іншым. Нам нават хлеба не даюць дасыта паесці. А яны ад багацця дастаўляных ім прадуктаў толькі таўсцеюць. Вось гэта ўжо не адпавядае сацыялізму. Гэта тое самае, як раней нашы папы прапаведвалі. Нам пост і ўстрыманне, а самі ўпіваліся віном і жэрлі мяса ў вялікі пост. Так і нашы сацыялісты, прапаведуюць нам любоў і брацтва, а самі ў поўным сэнсе эгаісты. Вось тут і разбярыся" (Запіс ад 26 лістапада 1917 года).

Расчараванні ў рабочага-камуніста нарасталі і ў наступныя гады. "Хоць мне гэта і абыякава, ці буду я стаяць на станцыі Орша ці на станцыі Асінаўка, але гэтага хоча наша аддзяленне ЧК, якое знаходзіцца поўнасцю са сваімі сямействамі ў Асінаўцы. А таму і мне прыходзіцца быць там, пакуль выясніцца службовае становішча. Але як бы мне хацелася пакінуць гэту ўстанову, дзе пануе абман і інтрыга, і нават хабарніцтва. Але гэта робіцца групай вышэй за нас стаячай, і робяць гэта так асцярожна, што не падкапаешся. Толькі па тым прыкметна, як яны ядуць і гарэлачку выпіваюць..." (Запіс ад 21 жніўня 1919 года).

І яшчэ адно, ужо трохі іншага плана, цікавае і каштоўнае сведчанне — з тых, якія ігнараваліся гісторыкамі бальшавіцкай школы ў іх кнігах аб грамадзянскай вайне на Беларусі, аб адносінах беларускіх сялян да бальшавікоў, да савецкай улады ў першыя гады яе станаўлення. 20 жніўня 1919 года Голубеў, на станцыі Орша, запісвае: "Мяне адно пытанне даволі важнае бянтэжыць. Дзе б я ў правінцыі ні гутарыў з мясцовымі жыхарамі, то ўсюды натыкаюся на незадаволенасць савецкай уладай, усе чакаюць белых, як збавіцеля. Я не разумею сялян, чаго яшчэ ім не хапае, усяго ў іх дастаткова, а грошай проста няма куды дзяваць". Не толькі рабочы Голубеў не зразумеў сялян. Не зразумела сялянскую душу і ўчыніла над ёю гвалт уся новая ўлада, бальшавіцкая дыктатура, ад чаго і пачалася вялікая трагедыя і мільёнаў земляробаў, і самой зямлі, матухны-карміцелькі.

Колькі нам і ў школе і па-за школай убівалі ў галаву, што сялянства Беларусі амаль аднадушна прыняло савецкую ўладу, дыктатуру бальшавікоў. Але вось сведчанне, усумніцца ў якім немагчыма: яно належыць не белагвардзейцу, а чырвонаму камісару. Ні пра якае аднадушша ў настроях беларускіх сялян і гаварыць не даводзіцца. Баяліся яны бальшавіцкай дыктатуры, вельмі баяліся! Дык-такі і недарэмна. Не памыліліся ў сваіх прадчуваннях і прадбачаннях.

*2000.*

### У лемантары 1931-га года

НЕДЗЕ АДРАЗУ ж пасля вайны трапіўся мне якісьці падручнік па беларускай мове пачатку 30-ых гадоў (мяркуючы па змешчаных у ім вершах на тэмы індустрыялізацыі і калектывізацыі — з аднаго боку і па яшчэ не рэфармаваным, "тарашкевічаўскім" правапісе — з другога). Тады, у 1945-1946 гадах у школе зусім не было па чым вучыцца, і вось адзін мой сябрук на гарышчы дзедавай хаты апароў схаваныя там у пачатку вайны старыя школьныя падручнікі. Сёе-тое з яго знаходкі дасталося мне. Асабліва я быў узрадаваны падручнікам па беларускай мове, бо ў ім у якасці практыкаванняў было змешчана шмат вершаў, а чытаць паэзію было ўжо для мяне тады амаль прафесійнай патрэбай. Падручнік той пазней дзесьці згубіўся, але некаторыя радкі з надрукаваных у ім вершаў я помню ад таго часу дагэтуль. Напрыклад, з ужо добра вядомага мне тады К. Крапівы:

***Хто там чухаецца? Хто заснуў?***
***Хто ў паперкі задрэманым вокам тыцкае?***
***Не праспі мяне! Сустракай вясну!***
***Я прыйшла — Другая бальшавіцкая!***

Радкі былі разбітыя "лесвічкай" — пад Маякоўскага. Уразілі мяне, помніцца, энергія рытму, напружанасць размоўнай — запытальнай і загаднай — інтанацыі, прастамоўная, такая не паэтычная лексіка: чухаецца, тыцкае...

Верш М. Лужаніна, імя якога я ўжо сустракаў у часопісах і газетах, уразіў мяне іншым — метафарычна-сімвалічным малюнкам фабрычнай трубы, якая высока над горадам

***Піша у небе алоўкам рудым:***
***Мы пяцігодку ў чатыры гады!***

Тагачасны лозунг індустрыялізацыі краіны. Дарэчы, верш быў падбудаваны таксама "лесвічкай" — амаль кожнае слова на асобнай ступенцы.

Але самае моцнае ўражанне зрабіў на мяне верш "Не расіце слязамі..." паэта М. Чарота, імя якога я раней не чуў і ў друку не сустракаў.

***Не расіце слязамі вы брацкіх магіл!***
***Няхай шэпча халодная Лена...***

Пра расстрэл рабочых на ленскіх залатых прыісках у 1912 годзе я ўжо ведаў з падручніка па гісторыі. Менавіта гэтаму быў прысвечаны журботны, прачулы і гнеўны верш паэта.

Праз паўстагоддзя з гакам, не ведаю чаму, мне вельмі захацелася аднойчы знайсці тую кнігу, у якой змешчаны працытаваныя вышэй вершы, — каб зноў патрымаць яе ў руках, пагартаць, удыхнуць дух пажоўклых балонак, што называецца — спаткацца з ужо далёкім-далёкім сваім раннім юнацтвам і ўзнавіць у памяці перажытае. Гэта, бывае, вельмі трэба чалавеку. Назвы кнігі я не ведаў, бо яна была без вокладкі і тытульнага ліста, і я пачаў браць у нацыянальнай бібліятэцы ўсе падручнікі па беларускай мове 20-х — пачатку 30-х гадоў і перагортваць іх адзін за адным узапар. Падручніка, які я пазнаў бы па вершах Чарота, Крапівы і Лужаніна, у нашай галоўнай бібліятэцы, на жаль, не аказалася, і мая хэнць засталася незадаволенай. Але я зусім не шкадую патрачанага на пошукі часу. Я знайшоў у тагачасных падручніках сёе-тое іншае. Знайшоў такое брыдотнае, такое нялюдскае, такое пачварнае, што страшна было чытаць і прыходзілася ў поўным сэнсе слова хапацца за галаву, замружваць вочы і доўгі час не расплюшчваць — у спадзяванні, што гэта сон і няпраўда. Але гэта было праўдай, было на старонках кніг, больш таго — на старонках падручніка. Ну, напрыклад, вось такі "верш" бадай ці не самага баявітага і нашумелага "пралетарскага паэта" (менавіта так яго велічалі ў друку) Андрэя Александровіча.

***Слюняўся Езавітаў —***
***Ёсьць торф і фасфарыты.***
***Цьвікевіч кляўся богам —***
***Ёсьць гліна, шкло і дзёгаць.***
***Лёсік голасам маршалкі —***
***Ёсьць сярнічкі, ці запалкі.***
***Уласт-Ластоўскі ў грудзі стукаў —***
***Ёсьць сьпірытус, бульба, цукар.***
***Некрашэвіч сыпле ў жар —***
***Ёсьць крухмал і шкіпідар.***
***І Грамыка вершаплясам —***
***Ёсьць лясы: дубы і ясень...***
***І крычалі, і пісалі,***
***Чаргаваліся, лізалі***
***Генералам, дыфэнзывам,***
***Так пакорна, так лісьліва,***
***Краіну збыць яны хацелі,***
***Каб набыць сабе партфелі...***
***Але ў пару якраз***
***Рукой рабочай з вас***
***Сарвалі маскі.***
***І... калі ласка.***

Верш называўся "Аукцыён". Падручнік, дзе гэта мешаніна гнюсоты і графаманіі была надрукавана, называўся "Ударнік. Лемантар для гарадскіх школ граматы і груп малапісьменных". Выдадзены ён быў у 1931 годзе, — адразу ж за жахлівым пагромам, учыненым у Беларускай Акадэміі Навук. (Тады, на пачатку свайго існавання, яна называлася менавіта так: Беларуская Акадэмія Навук; гэта пазней, у 1936-ым, яе перарабілі на АН БССР; між іншым, усюды ў свеце паперадзе ідзе азначэнне: Расійская АН, Польская АН, Літоўская АН, Славенская АНіМ і г. д., і г. д.).

Услед за "вершам" А. Александровіча ішоў яшчэ больш страшны вершаваны опус М. Чарота "Суровы прыгавор падпісваю першы". Звяртаючыся да арыштаваных і сасланых "беларускіх нацдэмаў і контррэвалюцыянераў", слынны пралетарскі паэт пісаў:

***Як клясу зьнішчым вашу мы апору...***
***Суровы прыгавор, каб зьнішчыць***
***вас да званьня,***
***Над вамі я падпісваю першы.***

Пра якую "апору" гаворка — зразумела: пра кулакоў і ўвогуле больш заможных, а гэта значыць больш працавітых і дбайных сялян, уласнікаў культурных, на еўрапейскі лад, гаспадарак. А над кім "над вамі" прыгавор? А над выдатнымі дзеячамі беларускай навукі і культуры, над высланымі ў 1930 годзе з Беларусі на Салаўкі, у Прыўралле, у Казахстан, у Сярэднюю Азію акадэмікамі С. Некрашэвічам, Я. Лёсікам, В. Ластоўскім, Г. Гарэцкім, У. Пічэтам, над нядаўнімі сябрамі, паэтамі У. Дубоўкам, Я. Пушчам, У. Жылкам, А. Дударом, Н. Чарнушэвічам, над пісьменнікамі і навукоўцамі М. Гарэцкім, М. Грамыкам, Я. Дылам, А. Смолічам, А. Цвікевічам, А. Бабарэкам, В. Шашалевічам, Л. Родзевічам, Б. Эпімах-Шыпілам, М. Шчакаціхіным, М. Байковым, Ф. Купцэвічам, А. Шлюбскім, Я. Бялькевічам, М. Улашчыкам, М. Каспяровічам, У. Чаржынскім, А. Гародняй, С. Хурсікам, І. Цвікевічам, Я. Сушынскім, А. Адамовічам, А. Калубовічам, М. Мялешкам і іншымі.

Пры гэтым заўважце, якая лютасць: не проста знішчыць, а "знішчыць да звання", даастатку, каб ні следу, ні духу не засталося. І яшчэ заўважце: "падпісваю першы" — першы! — каб нікому іншаму не дастаўся гэты высокі гонар, каб нават Л. Бэнда са сваімі памагатымі не апярэдзіў...

Далей у лемантары, як бы спаборнічаючы ў паслугах катам беларускай літаратуры, навукі і культуры, зноў бярэ слова А. Александровіч.

***Злоўлены —***
***ў масках сучасных прыблуд —***
***Шкоднікі справы і слова.***
***Маскі далоў!***
***Рэвалюцыі суд***
***Бязлітасны і канчатковы!***

Гэта — пра тых жа акадэмікаў, літаратуразнаўцаў і мовазнаўцаў, пісьменнікаў і паэтаў. Пра цвет і гонар нацыі...

Праз пяць гадоў, у 1936-ым, тыя, каму так апантана пачалі слугаваць песняры, схапілі і расстралялі М. Чарота, а яшчэ праз два — у 1938-ым — арыштавалі і саслалі на катаргу А. Александровіча. Вярнуўся ён да творчай працы толькі праз дваццаць гадоў, быў ужо цяжка хворы і неўзабаве памёр.

Божа святы, прамілы! Можа, хоць ты ўразуміш сягоння тых, хто хоча вярнуць у жыццё рэжым, які нават паэтаў даводзіць да пачварнага падзення.

*2000.*

### Так і калечылі...

КАЛІ Я ПРАЦАВАЎ у Саюзе пісьменнікаў, да мяне на сустрэчу (па тэлефоне сказаў: на творчую сустрэчу) напрасіўся адзін вядомы майстар дакументальнага кіно. Сустрэча адбылася, тэма размовы аказалася даволі неспадзяванай. "Кіношнік" (мова ў сваіх інтарэсах спарадзіла такое зручнае слоўца) прапанаваў мне быць аўтарам літаратурнага сцэнарыя да яго фільма пра беларускі буквар. Задумаў таварыш — у мэтах прапаганды асветы і культуры — зрабіць такі фільм. І відаць было, што загарэўся гэтай задумай сур'ёзна. Убачыўшы, што я ўспрыняў прапанову без энтузіязму, кіношнік сказаў: "Не спяшайцеся адмаўляцца. Вось два выданні буквара, я іх пакіну вам, пагартайце, пагляддзіце, а можа, і з'явіцца жаданне. Яшчэ і складальніца іх жыве, ужо старая бабулька, яна будзе ў цэнтры фільма, сюжэтнай апорай яго канструкцыі..."

Старыя буквары пагартаць мне захацелася, і я сказаў: "Добра, пакіньце". Выданні аказаліся, што праўда, не вельмі даўнімі, пасляваеннымі: адно - 1950 года, гэта значыць сталінскіх часоў, другое — 1957-га, эпохі хрушчоўскай "адлігі". Складальніца — Н. І. Сіўко. Чытаў дзесь, што гэтае імя паўтаралася на тытульным лісце беларускага буквара на працягу гадоў трыццаці. Канкурэнтаў не было. А значыць і прэтэнзій да найпершай кнігі маленькіх школяроў з боку грамадскасці і настаўніцтва — не было. Гэта важна падкрэсліць: прэтэнзій не было, якасць буквара задавальняла.

Вечарам, па заканчэнні рабочага дня, я ўважліва і з цікавасцю перагартаў абодва прынесеныя выданні. Хоць адзін з буквароў "сталінскі", а другі "хрушчоўскі" — ніякай істотнай розніцы я не заўважыў. Усяго і толькі — імя Сталіна ў выданні 1957 года замянілі словам "партыя".

***Пра наша дзяцінства, што далі нам,***
***Вясёлая песня, звіні!***
***Мы дзякуем партыі нашай любімай***
***За нашы цудоўныя дні.***

Ну, ясна, што раней было "дзякуем роднаму Сталіну". І рыфма была — першы і трэці радок рыфмаваліся, а цяпер — не. Спяшаліся, мабыць, не было калі падшукаць.

Я перачытаў усе тэксты буквара, асабліва ж уважліва — вершаваныя. Кажу: тэксты, бо вершамі назваць іх не магу, бо паэзія ў іх і не начавала.

***На вежах слаўнага Крэмля***
***Ярчэй усе зоры свецяць.***
***Святло іх бачыць уся зямля —***
***Дарослыя і дзеці.***

Вось такая паэзія. Да таго ж — у адной страфе двойчы згвалчана "у" складовае: вучыцца, дзеткі, мілагучнасці мовы, музыцы радка.

Або:

***Крэмлёўскія зоры над намі гараць,***
***Святлу іх паўсюды прайсці.***
***Радзіма цудоўная ёсць у рабят —***
***І лепш за яе не знайсці.***

Гэта — непісьменны і нязграбны пераклад верш з рускага буквара: "Чудесная Родина есть у ребят — и лучше ее не найти". Там была рыфма: горят — ребят, тут: гараць — рабят. Ну і што? Беларускія дзеткі праглынуць і гэткую. Галоўнае, што "рабяты" засталіся. Буквар без "рабят"? Не пайдзёць! Пра шчаслівае дзяцінства "рабят" у абодвух выданнях вершаў многа. "Мы, зямлі савецкай дзеці, шчаслівей за ўсіх на свеце". Зноў жа — непісьменны пераклад з рускай. Або: "А на ёлачцы зялёнай Цацак, лялек мільёны". Наце вам, дзеткі! На адной ялінцы — мільёны лялек. Лялек!

***Ярка ззяюць шчасцем вочы***
***У малога Петруся.***
***Ён вучыцца вельмі хоча***
***Лепш за Колю, Міхася.***

Гэта ўжо арыгінальны беларускі шэдэўр паэзіі і педагогікі. Як і два вершы наступныя. Адзін называецца "Трактарны завод":

*(Працяг на стар. 14—15)*



ЧАСАПІС

## “Лісты ў Хельсінкі”

**Новай кнізе народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна “Лісты ў Хельсінкі”, што пабачыла свет дзякуючы “Беларускаму кнігазбору”, бадай, няма аналагаў. Вядома, перапіска знакамітых пісьменнікаў выклікае вялікую цікавасць і ў даследчыкаў літаратуры, і ў чытачоў. А многія памятаюць, што выдавецтва “Художественная литература” паспела**




**выпусціць некалькі такіх кніг. Не кажучы аб тым, што эпісталярная спадчына займае дастойнае месца ў Зборах твораў многіх аўтараў. Але змест зборніка Р. Барадуліна — не звычайныя лісты, а пісьмы вершаваныя, адпраўленыя Рыгорам Іванавічам у 1998—1999 гадах народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву, які тады, як чытач ведае, знаходзіўся ў Фінляндыі. Свайго роду адказам на гэтыя пасланні душы і сэрца ўспрымаюцца малюнкі, выкананыя Васілём Уладзіміравічам за мяжой. Некалькі штрыхоў з яго тагачаснага жыцця, але штрыхоў надзіва выразных, схопленых, несумненна, дакладна. Барадулінскіх жа лістоў больш за сорак. Шаснаццаць з іх адпраўлены ў Фінляндыю з Вушачы (у гэтым і іншых выпадках будзем прытрымлівацца аўтарскага арыгінала). Дваццаць восем пісалася ў Мінску, апошні застаўся недасланым.**

**Паўтара года — перапіскі. Наконт гэтага сам В. Быкаў у невялічкім уступе сведчыць: “Вядома, што ростань абвастрае пачуцці — да каханай, сябра або Радзімы — і часам нараджае шэдэўры вершаванай паэтычнай думкі. У гэтай невялічкай кніжцы безьліч самых сур’ёзных думак і самай высокай паэзіі чалавечага існаваньня”. А пачуццё Радзімы, як на маю думку, асабліва глыбока раскрыта ў “Лісце трэйцім” з Ушачаў:**

***Край перакуленых нябёсаў —***
***Гэта там,***
***Дзе першы гром***
***Куляецца на лугавіне,***
***Дзе ў сіяроў і ў падарожных***
***Позірк сіні,***
***Дзе рэчка нанач***
***Нешта шэпча чаратам.***

**А “край перакуленых нябёсаў” для паэта і там, “дзе родна туляцца // Магіла пры магіле, // Куды самім вярнуцца // Хочацца на схіле // Нам...”**

**Паэт застаецца паэтам у любых абставінах. Зразумела, калі ён сапраўдны паэт, а талент ягоны з такіх, што з’яўляецца рэдкасцю нават у час, калі “паэтаў болей, чым гусей”. А гэтак патлумачыў герой аднаго з гумарыстычных вершаў украінца П. Глазавога, чаму цяпер не пішуць гусінымі пер’ямі. Вершаваныя лісты Р. Барадуліна, гэта — тое высокае майстэрства, якому хочацца па-добраму зайздросціць. Каторы ні возьмеш, барадулінскае слова дыхае сваёй нерушавай вабнасцю. Паэзія Р. Барадуліна, для прыкладу, таксама з Ушачаў у “Лісце пятым”, дыхае Радзімай:**

***Іспас,***
***Што яблычным імем завецца.***
***Прапахлі яблыкамі крыжы.***
***Шапчу сваёй палахлівай вейцы:***
***Ня калышы слязу, ня дрыжы.***
***Сьлязою яблык дрыжыць на галіне.***
***Раса дрыжыць на смутнай траве.***
***Хмурынка лёгкая на ўспаміне***
***У памяць незабыцьця плыве...***

**А гэта “Ліст другі”, пасланы з Мінска. У яго іншая інтанацыя. У ім — праўда, ад якой нікуды не дзенешся: “Час возьмецца хрумстаць салому, // Калі мурог даскубе. // Ніхто не патрэбен нікому, // Апроч самога сябе. // Патрэбен, // Каб з ціхай журбою // Адно зразумець-такі, // Што людзі ўсе // Спаміж сабою — // Халодныя сваякі...” Трывожна на сэрцы паэта і ад таго, што “народу болей, чым людзей”. Усцешна, бо сярод людзей — Чалавек, якому ён і адрасуе свае лісты. А хто В. Быкаў для Р. Барадуліна, відаць з радкоў, што стаяць эпіграфам да гэтай кнігі: “Будуць часам ідалы раструшчаны, // Сьвет разумны стоміцца ад крыкаў. Васільком у жыце Беларушчыны // Назаўсёды застанецца Быкаў!”**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КРЫТЫКА

# Схаваўшыся пад дажджом

*Так хочацца мне*
*Сказаць табе штосьці на вушка,*
*Але не магу: бо мне сорамна вельмі.*
**(Алкей, “Да Сапфо”)**

Ну, не так, каб ужо зусім, як Алкею, але ўсё адно — дзень пры дні адкладвалася на потым... На заўтра, на паслязаўтра...

Усё хадзіў з гэтай гожай кніжачкай у партфелі, з гэтай абложнай вусцішна-мінорнай музыкай у душы, што сыходзіла ад яе, як ходзяць цнатлівыя закамплексаваныя падлеткі паўз асветленае начнікам акно паўпадвальнай кватэры... дзе, як бы незнарок замарудзіўшы, можна ўбачыць, нібы ў мільгаючым несфакусіраваным кінакадры, такія-сякія алюзіі інтымнага і ўнутрана-псіхалагічнага жыцця пастаяльца, што сам не цікавіцца нашым знадворным заваконным бытаваннем у гэтым сённяшнім, далёкім ад яго, свеце...

Што ж, ПАЭЗІЯ, як і ўсякая праўда, — рэч глыбока інтымная. Яе немагчыма пісаць плакатнымі пёрамі, калі, вядома, хочаш, каб як у таго Катула, “твае забавы лічылі за справы”...

З аўтаркай згаданага мной паэтычнага зборніка “Антычны дождж” Валянцінай Аксак я знаёмы яшчэ да першых яе вершаваных кніжак. І хоць землякі з ёю па малой радзіме, але знаёмства наша адбылося праз ейнага мужа, вядомага сёння шырокай беларускай публіцы гісторыка, адраджэнца і літаратара Уладзіміра Арлова. Было тое ўжо даўнавата, напрыканцы 80-ых, яшчэ падчас іх сталага жыхарства ў схімізаваным Наваполацку, дзе, гасцюючы ў іх, са смакам і асалодай даведаўся я пра яе “пекныя” кухарскія здольнасці, але нават і ў далёкіх подумках чамусьці не ўгадваў яе паэтычных схільнасцяў і, як цяпер выявілася, глыбокага таленту... Ці то ўсё тое было так адмыслова прыхавана і ўтоена ад чужога вока і вуха, ці то ў мяне ў самога з гэтым “відавочныя” праблемы...

Зрэшты, калі ўжо быць шчырым да канца, то тыя першыя яе паэтычныя кніжачкі, выдадзеныя яшчэ за *Шушкевічавым* суверэнным часам, падаліся мне проста данінай агульнанацыянальнаму “хобі” — складанню вершаў.

Паэты — вядомая справа, несусветныя эгаісты і, апроч сябе ў літаратуры, рэдка заўважаюць каго іншага. Такім калісьці быў і я. “Цвінтар” і “Капліца” — так называліся тыя зборнічкі — былі для майго ўспрымання занадта “выпукла-акрэсленымі” нават у сваіх назовах.

Але і там ужо, манатонная, як восеньскі дождж за вакном ці вячэрняя служба ў храме, музыка забытых, ды аднакроўных айчынных слоў зачаравала чытача ў патаемныя сутарэнні чалавечай, а найперш жаночай душы... Ужо былі спробы чараваць і... расчароўваць.

***Травы, мне невядомае, нарвала,***
***Заместа кветак сунула ў збанок...***

*Валянціна АКСАК, “Антычны дождж”, Вільня, 1999 г.*

Гэта цытата з “Цвінтара”, калі яшчэ пісалася як пішацца, без крытычнага ўнутранага цэнзара, без параўнальных — з іншымі — вызначэнняў (у мяне так, а ў іх гэтак)...

А ўжо ў 1994 годзе ў “Капліцы” паэтка, як на споведзі, пытаецца ў свайго чытача-духоўніка, а найперш у самой сябе:

***Не пішуцца вершы. Мо словаў бракуе?***
***А мо мае думкі — не ў ладзе з душой?***
***Ці ўсё, што займела на гэтым вяку я,***
***У несамавіты скруціла сувой?***

Яшчэ толькі пытанні. Няма адказаў. Не выспелі. Груба кажучы, каб паспавядацца — трэба саграшыць. І той грэх усвядоміць...

Вось новая кніжка Валянціны Аксак, на мой погляд, і ёсць тая *выспелая* споведзь. І дзеля гэтага ў кантэкст зборніка, як адзінага лёсатвора, уводзіцца паралельны міфа-метафарычны свет, у які пераносіцца наш аўтар з усімі сваімі сённяшнімі адчуваннямі: пакутамі, летуценнямі, спадзяваннямі і расчараваннямі...

І вось ужо я, не меншы грэшнік, спадарыня Валянціна, —

***На зломе бязлітасна мулкай маркоты***
***чытаю твой твор —***
***летуценні былога.***

Магчыма, што я памыляюся, але, мне здаецца, апошнім часам, апроч Людмілы Рублеўскай з яе “Старасвецкімі міфамі горада Б.”, ніхто з беларускіх літаратараў не “хадзіў” так далёка ў мінулае — за высокай паднебнай мудрасцю. Аказваецца, антычны свет настолькі зваблівы для жыцця сучаснага чалавека, наколькі сам чалавек падрыхтаваны да *перажывання* некаторых калізій свайго прамінулага. Тым больш, што сама Валянціна Аксак — гісторык, хоць і *“марны”*, як яна трошкі какетліва заяўляе ў анатацыі да зборніка.

Наколькі нам вядома, паэты антычнасці дэкламавалі свае творы пад акампанемент струнных інструментаў — ліры, арфы, кіфары, а падчас і духавых, што было складаней, — жалейкі альбо флейты. Вядома, што сёння нам цяжка сабе ўявіць, скажам, вялікіх паэтаў Элады Алкея і Сапфо, а тым больш каго з нашых сучасных паэтаў, дэкламуючых вершы з гуслямі на грудзях... Аднак жа слухаем сваіх бардаў Камоцкага і Шалкевіча з вялікім задавальненнем...

На маю думку, дык антычнасць і сённяшні посткамуністычны час адносна параўнальныя эпохі (забавы, віно, эротыка — “не хлеба, а зрелищ!”).

Валянціна Аксак таксама пачынае сваю паэтычную споведзь з музычнага “пралогу”: “Мне падарылі вінаград — // лазы галінку, // кволы дубчык, // а з ім — // хоць віланэлу грай, // in vino veritas// гадуючы...” І трэба сказаць, што гэтая ціхая ненавязлівая музыка, яе “мінорны задумлівы лад”, гучыць на працягу ўсяго паэтычнага зборніка, ажно да “хваласпеваў” напрыканцы...

Праўда, трошкі стамляе сваёй аднастайнасцю ўмоўная кампутарная цэнтроўка вершаваных строф, радкоў і паасобных слоў, як бы перастварачы традыцыйную класічна зарыфмаваную паэтычную форму ў адвольна-мастацкую, верлібравую. Даволі часта гэты зрокавы (візуальны) падман адносна чытача спрацоўвае, і паэтцы, як калісьці і яе старажытным калегам, удаецца *выдаць* звычайнае за новае. Ды яна гэтага й не хавае:

***Старую вопратку***
***на мадэрновы лад***
***ніцую...***

Калі ёсць талент, то ён відзён ва ўсім. І тут трэба аддаць належнае густу і майстэрству нашай паэткі як жанчыне, якой прыгожае ўдаецца не толькі ў пераносным (паэтычным), а і ў прамым (бытавым) сэнсе. Але, пазайздросціўшы ў адным, паспачуваем у іншым, бо, прызнаецца нам паэтка, “як адзінокая валторна // ў незнаёмай пушчы, // разгублена блукае // мой голас // у мёртвым горадзе, // які высокія // актавы трушчыць”...

Метафарычна закадзіраванае жыццё аўтаркі, што да драбніц тоеснае “жыццю” яе гераіні, паўстае перад чытачом — і сваім зместам і формаю — настолькі аголена і ясна, як сонца з-за цёмных хмар, што падчас слепіць вочы занадта цікаўным.

***Калі я гляджу на цябе,***
***Дзіёніс,***
***такога ў мяне закаханага,***
***што нават і сам Апалон***
***табе пазайздросціць,***
***я думаю:***
***юны,***
***пасланы ты мне пакараннем***
***за ложа***
***раскрытае некалі старцу.***

Альбо — наадварот — з іншага боку гледжання:

***Прачнуўшыся***
***ад маладога пацалунка,***
***я ведала,***
***што лягу спаць***
***пры костках тлелых...***

І ўжо — да зусім, здавалася б, немагчымага, да самай што ні на ёсць таямніцы Паэзіі: “Калі аднойчы // ты прачнешся // ў чужых абдымках, // то ведай: // гэта нічога не азначае // акром таго, // што родныя рукі // так сумуюць // па нечым целе, // ажно й з табою // згубілі засцярогу”. Які вытанчаны стыль пісьма — своеасаблівыя *арэлі рэўнасці,* дзе па той бок, як рэха, у адказ *спадаюць з успаміну* радкі спадара Арлова з яго “Фаўны сноў”:

***Мы сустрэнемся на белым аркушы,***
***не пазнаючы адзін аднаго...***

Бадай, пасля Яўгеніі Янішчыц ды Раісы Баравіковай, нікому з сучасных беларускіх паэтэс так натуральна не давалася лірыка кахання. Не, нават нешта больш інтымна-пранізлівае — лірыка любові... І вось сёння — Валянціна Аксак апынаецца ў тым *кліне,* ужо не на ўзлёце нават, а як бы змірыўшыся з выракам лёту...

***...вердыкт на адзіноту вынесе палова***
***мяне самой —***




# Крыніца, што абуджае людскасць

Не паспелі ў мяне як след улегчыся ўражанні ад кнігі Міколы Макарцова “Беларусь святкуе”, а ў падарунак атрымаў чарговую з даравальным надпісам. І трэба ж было так надарыцца, што абедзве па сутнасці дапаўняюць адна адну. М. Макарцоў, як чытач ведае, прапанаваў сцэнарыі народных свят і абрадаў. У кнізе ж Яўгена Адамовіча “Рана на Івана”, выпушчанай выдавецтвам “Беларуская навука”, расказваецца як даўнія народныя святы апошнім часам у нашай краіне адраджаюцца, знаходзячы ўсё больш прыхільнікаў на розных узроўнях: ад супрацоўнікаў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь да прадстаўнікоў мясцовай улады. І, канечне, саміх удзельнікаў ды гасцей гэтых маляўнічых відовішчаў. Дарэчы, Я. Адамовіч не прамінае і святы, сцэнарыі да якіх пісаў, а пасля задуманае ўвасабляў у жыццё, М. Макарцоў.

Аднак перш чым гаварыць пра саму кнігу, нельга не сказаць колькі ўхвальных слоў у адрас выдавецтва “Беларуская навука”. Як вядома, яно акадэмічнае, з’яўляецца свайго роду наступнікам “Навукі і тэхнікі”, што плённа працавала не адзін дзесятак гадоў. Але “Навуцы і тэхніцы” было значна лягчэй. Тагачаснае фінансавае становішча ў рэспубліцы дазваляла выпускаць у год пад трыста назваў кніг і іншых выданняў. Цяпер не заўсёды і паўсотні набіраецца. Зразумела, пры такім складаным становішчы трэба сем разоў адмераць, перш чым адзін раз адрэзаць. І кіраўніцтва “Беларускай навукі” на чале з дырэктарам Людмілай Пятровай прымае ўсе захады, каб асабліва неабходная літаратура своечасова пабачыла свет. Не памылілася яно і даючы зялёнае святло кнізе Я. Адамовіча, якая, несумненна, будзе запатрабавана і даследчыкамі фальклору, і студэнтамі ВНУ, і навучэнцамі вучылішчаў культуры і мастацтва. Не кажучы, што можа стаць своеасаблівым дапаможнікам у арганізацыі і правядзенні розных святаў. І каму, як не акадэмічнаму выдавецтву, дбаць пра такія выданні?!

Кніга ж Я. Адамовіча такая, што яе хочацца не толькі чытаць, але і перачытваць. Аўтар піша захоплена, прыводзіць цікавыя назіранні, робіць значныя абагульненні. І расказваючы ў першую чаргу пра ход святаў, не абмяжоўваецца гэтым. У адных выпадках падрабязна гаворыць, як вялася падрыхтоўка; у другіх, імкнучыся лепш перадаць атмасферу святочнасці, расказвае пра паводзіны гасцей: як рэагуюць яны на тое, што адбываецца, наколькі блізка ўспрымаюць усё, які водгук знаходзіць святочнае дзейства ў душах. А відовішчы, што становяцца масавымі, бясследна не праходзяць. І як тут не пагадзіцца з Я. Адамовічам: “Кожнае свята, асабліва фальклорнае, ды калі яшчэ яно добра зроблена, — гэта тая гаючая крыніца для душы, якая абуджае ў чалавеку людскасць, усмешку і вясёлы настрой. Цела ж пачынае налівацца зухаватым здароўем. А ўсё разам робіць чалавека на свяце артыстам. А і сапраўды, бо ці ўсё толькі клопат і клопат пра тое, як жыць заўтра. Помніцца, яшчэ зусім нядаўна нам зайздросцілі замежнікі ў тым, што мы не думаем пра заўтрашні дзень, і ў тым, што мы не ведаем, як жывём, а таму шчаслівыя людзі”.

Нарысы, артыкулы, рэпартажы з лірычнымі адступленнямі, якія заўсёды да месца і нясуць у сабе зарад узнёсласці, аптымізму, што сабраны пад адной вокладкай, напісаны Я. Адамовічам у апошнія дзесяць гадоў, самы ранні пазначаны 1991 годам. З многімі з іх чытач знаёмы па публікацыях на старонках часопіса “Тэатральная Беларусь”, што пазней быў перайменаваны ў “Тэатральную творчасць”, а цяпер, на жаль, спыніў выхад. Але сабраныя разам, яны пачынаюць гучаць па-новаму, успрымаюцца цэласна, а ў выніку атрымліваецца ўсхваляваны аповед аб тым, як адбываецца духоўнае адраджэнне нацыі, а памкненні лепшых прадстаўнікоў яе вярнуцца да вытокаў, усвядоміць значнасць іх і жыццядайную сілу, знаходзяць паслядоўнікаў. Тым самым ідзе і вяртанне гістарычнай памяці.

Яўген Адамовіч скампанаваў матэрыялы такім чынам, што атрымалася тыпова акадэмічнае выданне з абавязковымі “Уступам” і “Заключэннем”, паміж якімі — раздзелы, што закранаюць асобныя аспекты праблемы: “Народныя святы”, “Сучасныя святы”, “У беларусаў далёкага замежжа”. Але што да самой гаворкі, як адзначалася мімаходзь вышэй, яна хоць навукова-аргументаваная і выверанная, пазбаўлена той залішняй абцяжаранасці спецыяльнымі тэрмінамі, што нярэдка спадарожнічае навуковым працам, а тым самым ад такіх кніг “адпужваюцца”, няхай і ненарокам, многія патэнцыяльныя чытачы, якім хочацца даходлівасці.

Няма патрэбы вылучаць які-небудзь матэрыял, паколькі кожны з іх па-свойму цікавы, багаты фактамі. Тым няменш падрабязней хочацца пагаварыць пра першы ў раздзеле “Народныя святы”, водгалас якога гучыць і ў назве кнігі — “Ой, рана на Івана сонца гуляла...”. І вось чаму: у ім Я. Адамовіч вяртае ў 1991 год, калі з 6 на 7 ліпеня прайшло Першае Усебеларускае Купалле. Менавіта адсюль трэба весці адлік часу, скіраванага на адраджэнне народных святаў у культурным жыцці рэспублікі. А тыя, што праходзілі ўслед за Першым Усебеларускім Купаллем, не маглі не праводзіцца, не ўлічваючы першых набыткаў, а ў чымсьці і пралікаў.

“Рыхтаваць свята, — сведчыць Я. Адамовіч, — пачыналі традыцыйна. На першых прыступках падрыхтоўкі ў лютым быў створаны аргкамітэт. Узначаліў яго першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Гілеп. Поруч з ім за справу ўзяліся вядомыя і невядомыя фалькларысты, навукоўцы, творчыя людзі — рэжысёры, мастакі, музыкі, адміністрацыя, гаспадарнікі. Старшы навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Сяржук Вітушка прапанаваў культа-

***яе Erato клікалі***
***ў антычным свеце.***

Не хапае хіба што нерва, аголенага, як дрот пад токам, ахматаўскага садамазахісцкага жэсту: "Муж хлестал меня узорчатым, // Вдвое сложенным ремнем", а — "пануе" пэўная ўнутраная пакутная зацятасць жанчыны, якая ведае сабе немалую *цану*... І, можа, якраз праз гэта — праз трыванне дзеля галоўнага — і выяўляецца ў рэшце рэшт той *сумесны* творчы лёс, нераўнуючы як у "Смыка і скрыпкі" Інакенція Аненскага:

***И было мукою для них,***
***Что людям музыкой казалось.***

А зрэшты:

***Хто гэта выдумаў***
***пра кволасць***
***натураў датклівых? —***

пытаецца, Бог ведае ў каго, паэтка і сама ж абвяргае гэтую ўласную "выдумку" сваім асабістым жыццём у сям'і, сяброўне, грамадстве і паэзіі...

Праўда, найчасцей усё тое, што дзеецца па-за яе ўласным мастацкім светам, — адцемваецца, адмяжоўваецца ў пэўнай меры, падаецца наўзбоч і ўскосна як бы тонкім незаўважным пункцірам... Там, нібы ў *сваім* антычным часе, *упісаны* ёю і такія нашыя дзеі і даты, як "27 ліпеня", "Рэферэндум" і нават *сёмухабазылёўская* лекцыя, прачытаная ейнаму сыну Багдану за паўгадзіны да недазволенага мітынгу... І як бы апраўдваючыся за свае гэтыя *не свае* шарыя дні, піша яна адносна папярэдне згаданага:

***Можа быць***
***мне здасца шарым дзень***
***ты не вер тады***
***ў мае высновы —***
***проста мне на вочы набрыдзе***
***сцень***
***ад карламарксавае споўды.***

Тым больш, што наша паэтка, у дадатак да ўсяго іншага, яшчэ ўмудрылася й прапісацца на вуліцы таго самага, як і ейны муж барадатага, Карла Маркса. Тут ужо міжволі паверыш такім прызнанням: "бо й смешна ж, — // праўда? — гаварыць // пра атачэнне музаў // ля пліты варыўнай // ці ў сужэнскім ложку"... альбо, дадамо, каля будынка былога ЦК КПБ...

Нікольні не адпрэчваючы "гаспадарчай раздражнёнасці", парадуемся самой ПАЭЗІІ, якая чорт ведае з чаго і адкуль узнікае! Не нашыя гэта чытацкія праблемы. Мы можам толькі "со-чувствовать" (а ўсё ж не "спачуваць") паэтцы, якой надыходзіць пара "збіраць параскіданыя камяні", каб быць дарэшты шчырай не толькі перад сабою й людзьмі, але і перад мамай, як перад Богам:

***не ўмею я рабіць***
***шчаслівы выгляд***
***на пажоўклым ржышчы...***
***Ты плачаш,***
***мама,***
***і кніжачак маіх***
***ніколі не чытаеш,***
***і вось стаім мы ўдзвюх***
***на гэтым голым полі,***
***аднолькавыя слёзы соляць***
***розныя загоны.***

А мне, недзе ў падсвядомасці, гучала дысанансам на працягу ўсёй кніжкі яшчэ адна шчымліва-мінорная мелодыя. Як у сне, накрывала яна мяне з галавой мокрым салёным прыбоем чалавечай тугі... Адкуль, чыё?.. Аднойчы, ідучы на працу і абыходзячы ў пераходзе метро на Круглай яшчэ не старых гадоў зношаную жыццём жабрачку і не маючы што даць ёй, — я і ўспомніў той дваццацігадовай даўнасці "Сон" *калісьці нашага* Пятра Кошаля:

***Меня хоронят под Архангельском,***
***в такой неурожайный год.***
***Меж скособоченными хатами***
***телега по грязи плывет.***
***И ты, смешная, нездоровая,***
***ловя губами серый дождь,***
***уже поломанной, юродивой***
***за мной бессмысленно идешь.***

***А год такой неурожайный...***

Менавіта падобны надрыўны матыў жыцця і смерці "прабіваўся" мне скрозь гожую вязь метафорыкі большасці "антычных" настрояў паэткі. А, магчыма, гэта толькі мой самотны пожад — паяднаць несумяшчальнае, зыходзячы з таго, што ўсё змесціцца ў вечнай бездані, не зважаючы на час, *год, ураджай* і *недарод...*

Сапраўднаму Паэту заўжды бракавала ўвагі й любові. Мала хто з вялікіх быў шчаслівым чалавекам у сваім зямным жыцці. Таму Творца і прагне пагалоскі, вядомасці, пашаноты, любові і славы, як бы кампенсуючы чытацкай прыхільнасцю да сваёй працы недахоп той увагі й любові, якой яму бракавала ў асабістым жыцці...

*"Пабудаваць дом, выгадаваць дзіцё, пасадзіць дрэва"* — гэта прыгожая патэтыка савецкага часу для простых людзей. Мажліва, што для "проста-чалавека" гэтага ў жыцці й дастаткова, але — не для "чалавека-творцы".

Таму можна пагаджацца, а можна й не пагаджацца і вось з гэтымі высокімі высновамі паэткі:

***Не маю права памерці,***
***бо не збудавала храм,***
***у якім мяне***
***адспяваюць.***

Калі ў падтэксце верша маецца на ўвазе храм — як кніга, а тыя, хто адспяваюць, — гэта тыя, што прачытаюць, то, як кажуць словаўкрасныя праваслаўныя святары: *многая лета!*

А найлепш было б мне гэты опус, пачаўшы яго эпіграфам з вядомага антыка Алкея, скончыць мудрымі словамі яго вялікай сучасніцы Сапфо, паколькі абое, як сведчаць вучоныя, былі адзін да аднаго, мякка кажучы, неабыякавымі (ды ўжо ж, ведаючы схільнасці Сапфо і норавы таго часу, як зрэшты й нашага):

***...і вось-вось як быццам***
***з жыццём я развітваюся.***
***Трывай, трывай: занадта далёка***
***зайшло ўсё...***

Таму прыхільнікам адмысловай паэзіі я настойліва раю патрапіць пад гэты "Антычны дождж" Валянціны Аксак, каб, як той Дзіёніс, захмялеўшы ад прыгажосці й вабноты, напрыканцы кніжкі толькі вусцішна прашаптаць, магчыма, тое, што так і не сказаў Алкей Сапфо: "Ах, мой Божа, // чаму ж то ўжо дно"?!

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

вую гару Радагошча", пасля абследавання якой і сышліся на тым, што лепшага месца не знойдзеш: "Поруч з гарою ляжыць зямля Крэшчаніцы, дзе 1003 гады назад нашы продкі прынялі хрышчэнне, і зусім недалёка адсюль першая старажытная сталіца Вялікага княства Літоўскага — Навагрудак. Мабыць, і культавая гара Радагошча, і зямля блізкага і далёкага наваколляў, і недалёкае возера Свіцязь, напоўнены колішнім вясёлым духам продкаў, натхнялі мясцовых жыхароў і гасцей на вясёлы настрой і жаданне паўдзельнічаць у свяце".

Праўда, у працэсе падрыхтоўкі да свята ўзнікла небяспека, што, паколькі шмат жадаючых прыняць удзел, яно можа ператварыцца "ў зарганізаваны вялікі канцэрт". Таму вырашылі надта не афішаваць яго, "але раённыя ўлады падышлі да гэтага пытання пасвойму, а ў выніку сабраліся тысячы людзей". Магчыма, сяму-таму можа падацца, што такія падрабязнасці лішнія, але, калі прачытаеш увесь матэрыял, упэўніваешся, што Я. Адамовіч зрабіў правільна, расказаўшы не толькі пра свята, а і ўзнавіўшы працэс падрыхтоўкі да яго. З аднаго боку, відавочна, якіх вялікіх высілкаў патрабуе ўсё, калі справа не пускаецца на самацёк, а з другога, бачна, што пры правядзенні масавых відовішчаў няма і быць не можа чагосьці другаснага. І калі ўсё будзе зроблена як след, наступнікам лягчэй.

А наколькі добры пачатак дае жаданыя вынікі, бачна і па святкаванні Купалля ў 1992 годзе ("Тураўскае Купалле"). Запрашае Я. Адамовіч наведаць і нашых суайчыннікаў за мяжой ("Беларускае Купалле на Беласточчыне"). У раздзеле "Народныя святы" і некалькі матэрыялаў, што расказваюць, як адраджаецца яшчэ адно старажытнае свята, якое, як і Купалле, сваімі карэннямі пачынаецца ў сівой даўніне ("Давыд-гарадоцкія калядкі", "А месяц глядзеў, а месяц дзівіўся... Мінскія Каляды", "Ой, Калядачкі — бліны-ладачкі! Другія Мінскія Каляды", "Паехала Каляда, калядуючы..." і іншыя). А яшчэ аўтар кнігі "Рана на Івана" запрашае на Гуканне вясны ("Ой, вясна-маці, хадзі к нам гуляці!"), а пасля памянуць продкаў ("Радаўніца з Хрэсным ходам").

Важна памятаць, узнаўляць, прадаўжаць добрае старое, аднак няменш важна ведаць, што новы час падказвае свае святы. Але нельга забываць, што яны набудуць непаўторнасць, адметнасць, стануць самабытнымі, калі будуць праведзены разумна, а не проста дзеля птушачкі. Я. Адамовіч упэўнены (і з ім трэба пагадзіцца), што "сучасныя святы найлепшым чынам сведчаць пра культурны ўзровень грамадства і з'яўляюцца нібы барометрам нацыянальнага развіцця, якое залежыць не толькі ад палітычных абставін у краіне, але і ад таго, наколькі свядома здзяйсняецца ажыўленне гістарычнай памяці і выкарыстоўваюцца духоўныя набыткі мінуўшчыны". Таму ў раздзеле "Сучасныя святы" "звяртае ўвагу на перапляценне сучасных і мінулых пластоў беларускай культуры, на ўзаемадзеянне прафесійнага і фальклорнага тэатральнага мастацтваў, на рэжысуру і мастацкі ўзровень афармлення свят, на мясцовы каларыт і ўмельства ўдзельнікаў-аматараў мастацкай самадзейнасці, фальклорных гуртоў, прафесійных артыстаў і калектываў". А знаёміць пры гэтым з рознымі святамі: з каляндарнымі, што звязаны з Днямі беларускага пісьменства, з творчымі ("Водар сцэнічнага хараства" і "Свята тэатральнай радасці"), з юбілейнымі ("Багрымава восень", "Тэатральнае ўваскрашэнне мінуўшчыны", "Стагоддзе Бараўской школы"). Не абыходзіць і фестывальных святаў. Адно з іх, гарманістаў, ("Пастаўскія пералівы", матэрыял напісаны разам з У. Мамонькам) сёння стала традыцыйным.

Да месца і трэці раздзел, змест якога склалі падарожныя нарысы "У Польшчу да беларусаў", "З мюнхенскіх успамінаў" і "З далёкай вандроўкі". Апошні напісаны на падставе ўражанняў, пачэрпнутых у час наведвання Злучаных Штатаў Амерыкі, сустрэч з беларусамі. Хоць тэматычна згаданыя матэрыялы крыху і адасоблены ад гаворкі, што вядзецца ў цэлым, але яны вельмі багатыя на пазнавальны матэрыял. І той, што тычыцца беларускага жыцця ў замежжы, і падзеі ваеннай пары, як у нарысе "З далёкай вандроўкі".

А яшчэ кніга наўздзіў багата ілюстравана. Няхай здымкі і чорна-белыя, але іх больш за сто. Здымкі гэтыя — добрае дапаўненне, бо дазваляюць убачыць шмат з таго, пра што так захоплена расказвае Я. Адамовіч.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# "І пайду да светлых я вытокаў..."

Па вялікім рахунку, мастак усё жыццё піша не проста адну кнігу, ён піша яе пра сябе. З тых аўтараў, якія асабліва не адступаюць ад абранай на пачатку творчага шляху тэматыкі, прытрымліваюцца заўсёднага асэнсавання біяграфічнага матэрыялу, трэба назваць і Міколу Купрэева.

Пасля з'яўлення ў друку за апошнія пяць гадоў яго паэтычных "Правінцыйных фантазій" (1995), празаічных "Дзіцячых гульняў пасля вайны" ("Крыніца", 1995, N 8), "Імгненне светлага" ("Крыніца", 1996, NN 5—6), аповесці "На вуліцы Карла Маркса з Паэтам" ("Крыніца", 1997, N 12) пісьменнік нечакана прадстаў, раскрыўся перад сённяшнім чытачом як сапраўдная мастацкая з'ява, прыход якой недзе ўжо быў прадрачоны першай кнігай аўтара — яго "Непазбежнасцю" (1967).

Несумненна тое, што нараджэнне "Палескай элегіі" М. Купрэева ("Крыніца", 1999, NN 7—8) таксама абумоўлена ўзаеманепарыўнасцю жыццёвага і творчага, шчырай прыхільнасцю мастака да ранейшых ідэалаў. Пачатак, выток аповесці без цяжкасці адшукваецца ў тым жа паэтычным зборніку праз прызнанне-перакананне аўтара: "Гімнаў не будзе. Шэптам грымне элегія". Сапраўды, гераічная форма, зычнасць інтанацый ніколі асабліва не прыцягвалі М. Купрэева. Між тым усё, што зроблена ім, сведчыць не толькі пра глыбіню мастакоўскага светаспасціжэння, але і пра выключную непарыўнасць, шчыльную пераплеценасць асабовага — раней перажытага і сучаснага — з агульначалавечымі клопатамі і трывогамі. У гэтым сэнсе пазіцыя пісьменніка цалкам адпавядае сфармуляванаму А. Адамовічам асноўнаму патрабаванню да творчай асобы: "У пісьменніка павінен быць нізкі балявы парог".

Сваю грамадзянскую неабыякавасць, свой чалавечы несупынны боль "вечны вандроўнік" (паводле В. Сахарчука) выяўляе сцішана, без знешняй экзальтацыі. І ўсё ж яго душэўная ўзрушанасць, часам хаваючыся за іронію, помслівую саркастычнасць, не цураецца ўласнай горкай памяці, не саромеецца скупой мужчынскай слязы, урачыстасці стансаў ды мінору элегіі. Веданне прыроды, арганічная знітаванасць з яе светам дазваляюць пісьменніку адшукаць у акаляючай рэчаіснасці адпаведныя ўнутранаму стану свайго героя-апавядальніка канкрэтныя вобразныя праявы. Яго Толя Кухараў — ужо даўно Анатоль Хведаравіч, які, блукаючы неўладкаванымі жыццёвымі пуцявінамі, сілкуючы свой дух "правінцыйнымі фантазіямі", здолеў не на чужой мудрасці ўпэўніцца:

***Дарога назад панішчана,***
***Мост над глыбокай ракой.***

Магчыма, гэтым абвострана-шчымлівым веданнем незваротнасці часу, немагчымасці нешта змяніць у ранейшым жыцці, таксама як і не сагнуцца пад цяжарам яго выпрабаванняў, не параніцца ад яго ўдараў, тлумачыцца зварот пісьменніка да скразнога ў апавядальнай плыні аповесці вобраза падбітай, скалечанай птушкі. Чалавек з кульбай і паранены журавель шукаюць узаемападтрымкі, паразумення не толькі з прычыны вымушанасці, безвыходнасці сітуацыі, але і з першаімгненнага ўгадвання адно ў адным сябе, хоць герой напачатку не жадае ў гэтым прызнацца. "Але ж я не падбіты і не птушка... А, можа, і падбіты? Толькі не хачу ведць гэтага..."

Тым не менш, там, у патаемных сховах душы, Кухараў перакананы, што ў сваім асяродку такога пранізлівага пачуцця роднасці, такога падабенства ці нават тоеснасці некаму яму ніколі не даводзілася перажываць. Парадаксальнасць з'явы можна растлумачыць хіба тым, што ў сваім, чалавечым, свеце герой пісьменніка — незразумелы для іншых, самотны, чужы. Яго свет — сама прырода, ён напоўнены ёю дарэшты, з яе чэрпае сілы, п'е натхненне, жыве ёю. Народжаны і ўзгадаваны гэтай стыхіяй, Анатоль Хведаравіч атрымлівае рэдкае права даверу: далучыцца да дзівоснае сагі лесу, да песні песняў яго насельнікаў.

Душа героя элегіі баліць ад болю і адчаю прыроды, якая ўжо на яго памяці перажывае няспыннае знішчэнне праз смерць колішняй вірлівай і чыстай рэчкі Бобрык, знявечанасць Морачы, калецтва Ясельды, жураўля на зямлі, а не ў небе, чорныя цяжкія замкі на пакінутых вясковых хатах. Прычым чалавечая жорсткасць, звярынасць натуры выяўляюцца не толькі праз безадказнае стаўленне да датклівага свету прыроды, але і ў адносінах да сябе падобных. У людскім свеце, дзе столькі набрыдзі, пацукоў, на агіднай сутнасці якіх ужо засяроджваўся ў сваім рамане Ю. Станкевіч, без усялякай прыхаванасці квітнеюць зло, насілле, падман. Тут "умеюць адбіваць, асабліва рукамі — спраўна, дакладна і — без знакаў на целе", патрапляюць выводзіць з раўнавагі і пазбаўляць спакою самых бяскрыўдных. Часам нават давер птушкі чалавеку ўспрымаецца тут як выклік, пратэст уладзе. "И почему это птица стоит, не улетает, не боится человека? Что с ней?"

Варта ўдакладніць, што наступнае пераражэнне, відавочнае пераўвасабленне абмежаванага казёншчынай капітана міліцыі з пісталетам і дубінкай, што прыехаў для сур'ёзнай размовы з падазроным беларускамоўным пісакам па даносе нядаўняга сабутыльніка, у чулага і простага хлопца з Клеччыны адбудзецца не праз уплыў іншага чалавека. Гэты цуд здзейсніць птушка, якая ў апошнюю хвіліну перад смерцю, абраўшы яе для сябе сама пасля страты пары і ранення, пакладзе на руку Міхайлы сваю маленькую галаву і тым самым, праз бязмерны давер, выратуе яго ад людской чэрствасці і бяспамяцтва, абудзіць у яго душы, праб'ецца праз напластаванні непатрэбнага, наноснага да самага сутнаснага, глыбіннага. Назіранні за такімі істотнымі зменамі героя даюць падставы для вываду пра тое, што "гэта яшчэ не словы песні, якая кожным чалавекам пяецца раз у жыцці, што ў гэтага чалавека яшчэ не хапае слоў, словы толькі пачынаюць з'яўляцца, але сама мелодыя ўжо знойдзена..."

Наогул, прага сваёй мелодыі, пошукі яе з'яўляюцца вельмі важнымі для герояў пісьменніка. Не для аднаго капітана міліцыі мудры прыродны свет прадстае тым чуйным камертонам, які здольны наладзіць стан душы на патрэбнае гучанне, выклікаць-высекчы ў ёй жарынку шчырае мелодыі, пранізлівае яснасці ў спасціжэнні ўласнай недасканаласці і адчайнае патрэбы ў далучэнні да гармоніі, святла гэтай лясной краіны. Тых, хто не здольны нарадзіць блізкую да акрэсленай мелодыю, хто не здольны адказаць на спрадвечнае пытанне кані, сугучны М. Купрэеву рускі празаік В. Астаф'еў характарызуе так: "А ўжо нічые вы... Сіроты вы, што растуць у сіроцкіх сёлах і гарадах, вакол страшэнных дымам і хімічнай заразай зыходзячых заводаў, сярод сіроцкіх палёў, лугоў і сенакосаў. І сіротамі вас зрабілі бацькі вашы".

Такога праклёну больш за ўсё баіцца віж і калгасны вартаўнік у адной асобе Янко Іванавіч. Падбіты жыццём, зламаны не сталіншчынай, а ціхай і сытай брэжнеўшчынай толькі за бяскрыўдную прыпеўку, з рэдкім пачуццём гумару, ён не жадае аддаць на здзекі грызунам такога ж, як сам, падбітага жураўля. "Сёлетні вырай ужо не для яго. І трэба схаваць птушку ў зямлі. Бо як памрэ — знюхаюць труп, нахлынуць сюды ўсе пацукі. Жудасць бярэ, як пацукі расцягаюць птушку, да перайка. Не, жураўля трэба схаваць у зямлі. Але яго трэба знайсці і застрэліць. Каб не пакутаваў". Ды толькі мудрая птушка не дазволіць Янку прыняць на душу яшчэ адзін грэх — сваё забойства. Навошта? Хай ужо іншыя абрынуліся на яе, на ўсю прыроду. Яна загіне сама. І шлях чалавека на каленях, паўзком, да схаванай Кухаравым мёртвай птушкі, свядома ўчынены Анатолем Хведаравічам шлях прыніжэння змучанага і без таго прыніжанага ўласным лёсам палешука адначасова робіцца шляхам яго кары, пакаяння і даравання. Лес, які ведае і любіць Янко Іванавіч, куды, як у храм, заўсёды хаваўся гэты адораны на слова, на чуйнасць да роднай моўнай стыхіі чалавек, хаваўся найперш ад балючай праўды пра сябе і іншых, даруе яму, прымае яго плач, а таксама просьбу-шэпт пра дараванне-сведчанне ачышчэння.

Думаецца, што прыцягальнасць твораў і герояў М. Купрэева вынікае якраз з іх кранальнай спавядальнасці, здольнасці гаварыць "тужліва, няголасна, роспачна", выбачацца за свае і чужыя грахі. У тым ліку за зразумелае па прычыне маладосці няўменне адкрыта перажываць, "плакаць над трунай", развітваючыся назаўжды з аднакласнікам Пецем. Гэтая даўняя бязвінная віна, дакор-перасмед з прыадкрытага вока мёртвага равесніка нечакана ажывуць, паўторацца для Кухарава праз нямое пытанне з прыжмуранага вока забітага жураўля: "...за што ж вы мяне, людзі?"

Ужо ніколі не пазбавіцца Анатолю Хведаравічу ад пачуцця сораму і вінаватасці перад былым найлепшым сябрам, дысідэнтам, а цяпер бічом Юрам. "Плакаў я — бо вельмі горка і балюча было мне не з-за яго, не з-за Юры, а з-за сябе: чаму не падышоў да яго на рынку, чаму не сышоў з аўтобуса перад шлагбаўмам, перад Юрам на камені, перад яго слязой?.." Заўсёды з героем, разам з памяццю пра незабыўны дарунак начы любові, горкі боль, крыўда немкі Эльзы, з якой ён сустрэўся ў маладосці, "уздымаючы цаліну" ў Казахстане. Яшчэ больш вострыя, неадступныя яны ад успамінаў пра пакрыўджаную сваімі ж аднакурсніцу Тоню, у каханні да якой так і не здолеў, не адважыўся прызнацца і ў родныя мясціны якой — да самога сябе — і праз гады імкнецца вярнуцца.

І савецкая немка, што не выракаецца сваіх каранёў, і абражаная, гнаная за нацыянальную свядомасць студэнтка з заходнебеларускага горада — абедзве яны — падбітыя, пакалечаныя птушкі. Іх лёс нагадваюць Кухараву лёс усяго нашага народа, тое, што "мы, беларусы, даўно і цяжка падбітыя і ледзь трымаемся на сваіх крылах і вось-вось упадзём — як тыя аслабелыя птушкі..."

"Уцёкамі ў горка-светлую маладосць ад такой магчымай бяды, вядома, ніяк не выратавацца. Цудоўна разумеючы гэта, М. Купрэеў складае сваю "Палескую элегію", каб вярнуць нас да вытокаў, каб даць магчымасць на зваротным шляху ад іх усвядоміць і хоць бы паспрабаваць выправіць ранейшыя памылкі.

**Вольга ШЫНКАРЭНКА**

## “Ластаўка”

Яе ведае чытач, які любіць паэзію Ларысы Геніюш, Ларыса Антонаўна пісала і для дзяцей. Хоць і не часта, друкавалася ў перыёдыцы, выдала кнігі “Казкі для Міхаські” (1972) і “Добрай раніцы, Алесь!” (1976). Цяпер з гэтымі творамі, а таксама з асобнымі “дарослымі” вершамі Л. Геніюш, што выклічуць цікавасць і ў юных чытачоў, можна пазнаёміцца ў кнізе “Ласткаўка”, якую выдавецтва “Юнацтва” выпусціла да 90-годдзя з дня нараджэння пісьменніцы. Кніжка, дарэчы, цудоўна аформлена мастачкай Г. Хінка-Янушкевіч, выдадзена на



добрай паперы, а ўкладзена У. Мазго, які з’яўляецца і аўтарам прадмовы “Удумныя вочы суседчыны”. У. Мазго прыязна гаворыць пра Л. Геніюш як чалавека і паэта, прыгадвае, як у свой час Ларыса Антонаўна падтрымала яго першыя творчыя крокі ўхвальным словам. Арганічна ўваходзіць у прадмову і верш У. Мазго, з радкоў якога паўстае воблік пясняркі. Творы ж Л. Геніюш прадстаўлены ў раздзелах “Казкі для Міхаські”, “Добрай раніцы, Алесь!” і “Мая крыніца”. Першыя два — старонкі аднайменных кніжак. Пішучы гэтыя вершы, Л. Геніюш, пастаянна бачыла перад сабой канкрэтных дзетак — сваіх унукаў, таго ж Міхаську і Алеся. А каб яны раслі хлопчыкамі дапытлівымі, расказвала бабуля Ларыса даходліва, імкнулася зразумець іх мары, запатрабаванні. Давер жа найперш там, дзе ўсё проста, зразумела. Напрыклад, верш “Тарзан” — паэтычны абразок, узяты з жыцця. І не толькі вясковага, але і гарадскога. Хіба ж не ўбачыш ля драўлянага дома, якіх па-ранейшаму шмат у невялікіх раённых цэнтрах, падобных Зэльве, такое:

*Наш цюцька Тарзанчык*
*З’еў хлеба акрайчык,*
*Дзве булкі,*
*Пяць бульбін,*
*Адзін абаранчык,*
*Ўсе косці без мяса*
*І скуркі з каўбасак,*
*Курыны лапкі,*
*Кісель*
*І аладкі.*
*І дрэмле “гаротны” —*
*Як цюцька галодны.*

Маленькія героі Л. Геніюш паяднаны з прыродай. Гэтую любоў да наваколля яна перадавала ім пад уражаннямі ўласнага маленства, праведзенага ў Жлобаўцы. Памятала, яшчэ як памятала, наколькі прагне душа яднання з наваколлем, як усё радуе і вабіць маленькага чалавека. І верш, які даў назву яе другому зборніку для дзяцей — “Добрай раніцы, Алесь!”, нарадзіўся як свайго роду водгалас аб тым, што засталося далёка за небакраем гадоў.

Калісь маленькая Ларыска як мага хутчэй спяшалася выбегчы ранкам за вароты сялібы, а цяпер, здаецца, наваколле вітае з новым днём гарэзу Алеську:

*Гожы пеўнік на жэрдку залез.*
*Кукарэкае, крыллем лапоча.*
*Добрай раніцы, мілы Алесь!*
*Дарагі, працавіты мой хлопчык!*

Ларыса Геніюш, як увогуле ці не ўсе дзіцячыя пісьменнікі, вучыла дзетак быць смелымі, нічога не баяцца. А тут яны павінны браць прыклад са сваіх сяброў, сярод якіх, безумоўна, і звяры. Таго ж зайкі, каторы, калі з’яўляецца неабходнасць, гатовы пастаяць за сябе. Падобная сітуацыя пакладзена ў аснову верша “Зубры”. Ідуць лясныя веліканы, кожны іх баіцца, “саступаюць усе ім з дарогі: і мядзведзі, і злыя ваўкі зразу кідаюцца ў баі”. Але зайка не спалохаўся: “Толькі зайчык адзін не баіцца. // Скача, скача ля светлай крыніцы”.

Вершы Л. Геніюш, што ўвайшлі ў кнігу “Ластаўка”, светлыя, аптымістычныя. Яны вучаць любіць сваю краіну, яе прыроду. Яны пашыраюць свет маленства, робячы яго яшчэ больш непаўторным і вабным.

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ПАЭЗІЯ

Алесь РАЗАНАЎ



# Жалеза

*“Жалезу” папярэднічалі “Гліна” і “Камень”: з імі яно ўтварае паэтычна-анталагічную трыяду, якая, каб здзейсніцца, запатрабавала ад аўтара сваіх выяўленчых сродкаў, сваіх падыходаў да таго, што хацела вымавіцца.*

*Паэзія мысліць не проста думкамі, а — істотамі, і тут няма асаблівай розніцы, хто — п р а т а т ы п: гістарычная асоба, прыкладны прадмет, ці быццёвая субстанцыя, — паэтычнае мысленне надзяляе іх сваімі ўласцівасцямі, ці, інакш, дзейсніцца імі.*

*Не ведаю, да чаго больш спадае Трыяда: да варыянту сучаснага эпасу ці да магчымай перадпадставы магчымай айчыннай філасофіі. Пэўна, пра гэта не ведае і сам твор. Аднак ён ужо ёсць і здольны ўдзельнічаць у выбары рэчаіснасці.*

*Прапаную “ЛіМу” раздзелы з “Жалеза”.*

**Аўтар**

1

***З усіх канцоў свету***
***Сабраліся пасланцы,***
***І кожны***
***Прынёс з сабой словы***
***Пра мір і вайну,***
***Пра жыццё і смерць***
***І пра з’яву,***
***Што ўсё злучае сабою, —***
***Пра чалавека…***

***А нехта***
***Стаяў, адвярнуўшыся тварам***
***У кут,***
***І называўся ж а л е з а.***

7

***Здружваеш дружбаю***
***Незвычайнай,***
***Якая сягае за межы***
***Досведу і развагі,***
***Людзей,***
***Раз’яднаных зацятаю бітвай***
***Н а  м ы  і  я н ы.***

***Так самі***
***Не могуць яны раз’яднацца,***
***Так самі***
***Не могуць яны здружыцца.***

9

***Увечар***
***Паўстала перада мной***
***Неадольнай сцяной,***
***А ўранку***
***Паклалася ў рукі***
***Ключамі.***

***Удзень замахнулася на мяне***
***Мечам і дзідаю,***
***А ўначы***
***Апранула ў латы.***

***Пакуль***
***Раўнаважыць жалеза адну***
***Здольнасць другою,***
***Мёртвы не мёртвы —***
***Аднак***
***Пабуду ў гасцях у смерці,***
***Жывы не жывы —***
***Аднак***
***Пагутару з Богам.***

13

***Змест адасобіўся***
***Ад прадмета,***
***Мера — ад з’явы.***

***Не можам***
***Самі вярнуцца дамоў***
***І клічам***
***Жалеза на дапамогу.***

***Вяртае жалеза***
***Прадметам тойсамы змест,***
***Але ён***
***Змяняе самі прадметы,***
***З’явам***
***Дае туюсамую меру,***
***Але яна***
***Зычачвае самі***

***З’явы.***

17

***Час напластоўваецца***
***На час,***
***Парушэнне***
***Кладзецца на парушэнне.***

***Не паспявае***
***Мінулае стаць мінулым,***
***І ў сарцавіне***
***Збіраецца боль…***

***Чакаем***
***Жалезных навін,***
***Жадаем***
***Жалезнай праўды.***

25

***Палічаныя:***
***Паміж***
***Сівымі прароцтвамі***
***І засцярогаю,***
***Што зазірае ў вокны…***

***Ці ўжо***
***Лічбы дамовіліся канчаткова,***
***Калі з ж ы н а ц ь чалавека,***
***Ці яшчэ ўсё***
***Ўзгадняюцца і чакаюць***
***Згоды ад чалавека?***

***Але жалеза***
***Тут.***

26

***Прадаў золата,***
***Прадаў срэбра,***
***Купіў жалеза.***

***Купіўшы жалеза,***
***Пайшоў з ім на тых,***
***Каму прадалося***
***Срэбра і золата,***
***І прымусіў***
***Вярнуцца назад свой скарб.***

***Але ў неба***
***Птушкаю вымкнуў крык,***
***А ў зямлю***
***Кроў пацякла***

***Раўчукамі.***

27

***Запальваліся і згасалі***
***Уначы ліхтары,***
***Грымліва***
***Расшчэплівалася і зноў***
***Сашчэплівалася жалеза,***
***І паўставала***
***З начной глыбіні***
***І была цямнейшай за ноч***
***Нейчая постаць,***
***Якая не мела***

***Цела.***

28

***Наўпроці адно аднаго:***
***Але роўнасць —***
***Выклік.***

***Перш чым аб’явіцца вынік,***
***Належыць***
***Узяць і аддаць***
***І ўтрымаць раўнавагу***
***Між тым, што даецца,***
***І тым, што бярэцца…***

***Двое братоў***
***Выпраўляюцца ў поле,***
***А з імі —***

***Жалеза.***

29

***Прачнуўся,***
***Калі было поцемна,***
***І не мог***
***Даўмецца спрасонку,***
***Якая гэта пара.***

***Невыразна***
***Знаўкол вымалёўваліся прадметы,***
***І ў сне***
***Трызнілі людзі.***

***Адно не спала***
***Жалеза.***

***“Табе яшчэ нельга***
***Бачыць такое.***
***Ты мусіш***
***Яшчэ раз заснуць***
***І яшчэ раз прачнуцца…” —***

***Засцерагло і ўклала***
***Мяне ў мой ранейшы***

***Сон.***

30

***У цёмным і светлым:***

***Кожны***
***Мае сабе свой твар,***
***Ды без твару людзі.***

***Што каму хто***
***Зычыць уголас —***
***Прыходзіць само,***
***А тое,***
***Што зычыцца ўпотай,***
***Нясе жалеза.***

32

***У кучу з усіх бакоў***
***Зносілі і скідалі***
***Жалеза.***

***Але калі вырастала***
***Упоравень з намі куча,***
***Адумваліся***
***І зноўку***
***Яе разбіралі на часткі***

***І на кавалкі.***

36

***Выявы ўзышлі —***
***І ў сабе схавалі,***
***Што мусілі паказаць.***

***Кулакамі***
***Тру вочы.***

***Дзе тут анёл,***
***Дзе арол,***
***Дзе свіння,***
***Дзе сабака,***
***А дзе вужака,***
***А дзе чалавек?***

***“У людзях, —***
***Жалеза кажа. —***
***І ў людзях***
***Усе яны неўзабаве***
***Увойдуць у новы***

***Рай”.***

39

***Ляжалі някораныя***
***Палі,***
***Стаялі парушаныя***
***Сядзібы.***
***І то заміраў,***
***То спяшаўся надзвычай***
***Час,***

***А натоўпы***
***Дарогамі і бездарожжам***
***Ішлі адусюль***
***Д а  м е ж а ў:***

***Там людзі***
***Ваююць жалезам,***
***Жалеза вавае***

***Людзьмі.***

41

***Я не хацеў з ім***
***Хаўрусаваць,***
***Я не хацеў з ім***
***Варагаваць,***
***Я не хацеў аб ім***
***Думаць.***

***Але ўсё роўна***
***Ў мяне высвятляюць***
***Кожнаю справаздачай,***
***Распытваюць***
***Кожным жыццёпісам,***
***Дзе тады быў я,***
***Калі жалеза***
***Рушыла ў свой пераможны паход***
***На ўсход,***
***Што я тады рабіў,***
***Калі насаджала***
***Жалеза ў дзяржаве свой лад,***
***Што думаў,***
***Калі жалеза***
***Высноўвала неабходнасць***

***Вялікай перабудовы.***

43

*Пачатак нявечыцца*
*Ў спраўджаным.*

*І хоць змест*
*Меціць: тут — шчырасць,*
*Тут — цэласнасць,*
*Спеў*
*Ужо не жыве*
*Ў іхніх гнёздах.*

*Ці знойдзецца хто,*
*Каго б не зыначыў вынік*
*І не раздвоіла адлюстраванне?*

*Па-свойму*
*Людзі маўчаць,*
*І маўчыць*
*Жалеза па-свойму.*

45

*Побач,*
*Але не намі,*
*Дзейсніцца свет:*
*Небяспека*
*З захаду і з усходу.*

*Мы ўжо не можам*
*Дайсці да канца:*
*Затаптаны*
*Відушчыя сцежкі,*
*І месцы, дзе Бог*
*Дзяліўся сабою з людзьмі,*
*Не на месцы.*

*Мы кажам навобмацак,*
*А жалеза*
*Злучае са сказам*
*Сказ.*

48

*Магчымасць прыводзіла*
*Да перашкоды:*

*У ёй*
*Сляпое з'ядноўвалася*
*З відушчым,*
*Суцэльнае — са шматразовым...*

*Але калі*
*Перашкода адольвалася,*
*З таго боку*
*Усё выглядала наадварот:*
*Сляпое аказвалася*
*Відушчым,*
*Суцэльнае — шматразовым,*
*І там,*
*Дзе яснела і выдавала*
*Сваю няўступную цвёрдасць*
*Жалеза,*
*Падаў*
*У цёмную глыб*

*Прагал.*

51

*Ловячы водгук,*
*Чуйна*
*Прыходзім і адыходзім,*
*І кажам словы,*
*Якія таксама —*
*Водгук.*

*Але калі*
*Займае паверхня ўвагу*
*І хібы*
*Урошчваюцца ў перашкоды —*

*У лядах*
*Селяцца прывіды*
*І насяляе*
*Жалеза лес.*

52

*Дагэтуль — шматлюдны,*
*Адгэтуль — бязлюдны,*
*Дагэтуль — у позірках,*
*Словах,*
*Руках,*
*Адгэтуль — сам...*

*А жалеза*
*Ходзіць па полі*
*І кроіць межы:*

*Ці хопіць*
*Таго, што настала,*
*На тое, што настае?*

53

*Калі я ў здабытак*
*Узяў багацце —*
*Вышыні*
*Павысіліся*
*І паніжэлі нізіны;*

*Калі ўзяў славу —*
*Зацвіў*
*Камень і заспявала*
*Дрэва;*

*Але калі*
*Узяў у здабытак пакуту —*
*Ў жалезе*
*Паадмыкаліся сховы*
*І вочы*
*Расплюшчыліся*

*У сноў.*

57

*Настала —*
*І чалавек*
*Падаўся адначасова*
*У славу і ў ганьбу,*
*У моц і ў немач,*
*У неўміручасць і ў смерць...*

*Такія*
*Розныя постаці,*
*Але тое самае раздарожжа,*
*Такія розныя долі,*
*Але той самы*

*Дол.*

58

*У змове з нязведаным:*

*Адымае*
*Жалеза, што маю.*

*Мушу*
*Заняць свой пасад,*
*Займець*
*Сваё княства.*

*Але цяпер*
*Пярэдадзень,*
*І чалавек —*

*Жалеза і скура.*

59

*Круг накладаўся*
*На круг.*

*— Навошта*
*Тое, што ёсць,*
*Ёсць гэтакім, як яно ёсць?.. —*
*Пытаўся*
*У Некага той,*
*Хто пытаўся.*

*Гліна*
*Паказвала шлях ад краю*
*Да краю,*
*Камень*
*Маўчаў пра спрадвечнае.*

*А жалеза*
*Сябе аддзяліла ад месца*
*І павяло*
*Свет да апошняй*

*Мэты.*

61

*Само дапаможацца:*

*Дзіда*
*Шпурляецца і ляціць —*
*Быццам вісіць на месцы.*

*Малое з вялікім,*
*Крывое з простым,*
*Нямоглае з дужым,*
*Нягеглае са знакамітым*
*Раўняе трыванне.*

*Даходзіць*
*Жалеза да сарцавіны,*
*Час — да канца.*

62

*Пытаецца чалавек*
*У жалеза:*
*Дзе чалавек?*
*А жалеза*
*Пытаецца: дзе жалеза? —*
*У чалавека.*

*То карацеюць*
*Між імі адлегласці,*
*То даўжэюць,*
*І то знаходзяць*
*Яны адно аднаго,*
*То трацяць:*

*Жалеза —*
*На скрыжаванні,*
*На роскрыжы —*
*Чалавек.*

Уладзімір МАЗГО



# Тая сустрэча птушкай трапеча...

•

*З усіх дарог*
*заўжды вярнуся*
*Да шчырай рэчанькі адной,*
*Якая ўжо даўно ў хаўрусе,*
*На час нягледзячы,*
*са мной.*
*У светлых хвалях акунуся,*
*Нібы ў мінулае ўвайду.*
*І ва ўспамінах захлынуся,*
*Разважна гледзячы ў ваду.*

*Вось тут*
*часінаю далёкай*
*Лавіў удачу*
*рыбаком.*
*І у грыбным бары*
*галёкаў*
*Шчаслівым самым грыбніком.*

*Рака далёкага маленства*
*Знікае ў далях*
*раўчуком,*
*А я знаходжу падабенства*
*З тым*
*прынямонскім*
*хлапчуком.*

## У Дзярэчыне

*П. М. Марціноўскаму*

*Нібыта сад,*
*узорнае*
*Звісае неба зорнае*
*Лагодным летнім вечарам*
*Над сціщаным*
*Дзярэчынам.*

*Пах яблынь*
*хмеліць соладка.*
*А поўня*
*ззяе золатам,*
*Як скарб князёў Сапегаў.*
*І нават зорка Вега*
*Падміргвае па-змоўніцку*
*Чароўнай суразмоўніцай.*

*Над садам*
*нічка падае,*
*Маленькая гарэзніца,*
*І нашы сэрцы радуе:*
*Што загадалі —*
*здзейсніцца!..*

## Дарожнае

*Мінск — Садовы — Смалявічы...*
*Так імчым —*
*займае дых.*
*Электрычка звонка лічыць*
*Кіламетры,*
*як гады.*

*Набірае абароты*
*Час —*
*імклівы машыніст —*
*За чарговым паваротам*
*Звечарэлай цішыні.*

*Кліча дальняя дарога*
*Наш запознены цягнік,*
*І звісае аброгам*
*Над зямлёю маладзік.*

•

*Помніш,*
*Вясновым і сонечным ранкам*
*Стрэліся мы з табой?..Помніш:*
*Альтанка*
*І рук калыханка,*
*Ды пачуццяў прыбой?..*

*Нешта казала.*
*Толькі з вакзала*
*За даляглядз нябёс*
*Нашы спатканні*
*І спадзяванні*
*Поезд вясны*
*Панёс.*

*Толькі знай:*
*Вернецца зноў*
*Наш май!..*
*Тая сустрэча*
*Птушкай трапеча,*
*Ты яе не трымай.*

*Зорныя ночы*
*І шчасця світанкі, —*
*Светла нам так было!*
*Любыя вочы*
*І хвалі Зальвянкі, —*
*Некуды ўсё сплыло.*
*Ведаю знікла*
*Ўсё незваротна,*
*Чым даражыў спярша.*
*Толькі самотна*
*Невераготна*
*Верыць мая душа...*

*Толькі знай:*
*Вернецца зноў*
*Наш май!..*
*Тая сустрэча*
*Птушкай трапеча,*
*Ты яе не трымай.*

## Аднакурсніца

*дзяўчатам філфака прысвячаю*

*Зноўку нашы пагляды сустрэліся*
*Нечакана пагодлівым днём —*
*Успаміны мае разгарэліся,*
*Апякаючы сэрца агнём.*

*Ты квітнела,*
*Дзяўчыначка юная,*
*Як калісьці шмат вёсен назад,*
*Не асенняя,*
*Нават не сумная,*
*А такая —*
*Як ранішні сад.*

*Аднакурсніца,*
*Незабыўная,*
*Быццам раніца салаўіная.*
*Ах, равесніца,*
*Ах, спакусніца —*
*Аднакурсніца!..*

*Мы блукалі з табою па горадзе*
*І чыталі на памяць радкі.*
*Мы купаліся разам*
*У золаце*
*Развітальных лістоў трапяткіх.*

*Як раней,*
*Ідучы на экзамены,*
*Я хацеў да цябе зазірнуць —*
*Не пазналі мяне*
*Дочкі маміны,*
*Бо мінулае нам*
*Не вярнуць...*

•

*Я ласкава промні кратаў*
*Валасоў тваіх.*
*Гэта толькі наша свята,*
*Свята для дваіх.*

*Сэрцы біліся крылата,*
*А сусвет аціх.*
*Гэта толькі наша свята,*
*Свята для дваіх...*

*Засылаў сватоў у хату*
*Да цябе жаніх.*
*Гэта толькі наша свята,*
*Свята для дваіх...*

*Галасамі немаўлятаў*
*Забаўляла слых*
*Гэта толькі наша свята,*
*Свята для дваіх...*



*Фота В. МАЙСЮКА*

## Полацкі "Птушыны рай"



**У пачатку ліпеня ў выставачнай зале Полацкага музея кнігадрукавання адбылося адкрыццё другой персанальнай выставы полацкай габеленшчыцы Таццяны Козік. Назвала мастачка сваю выставу "Птушыны рай".**

**...Кіламетраў за дваццаць з нечым ад Полацка ў паўднёва-ўсходнім накірунку ляжыць невялікае возера Туроўля. У сярэдзіне лета яно — суцэльныя зараснікі трысьнягу і рагозу, на глыбейшых месцах — цэлыя палі белых і жоўтых гарлачыкаў, а водарасцяў столькі, што весляванне**



**робіцца складанай справай. Птушак тут незлічоная колькасць, розных — ад лебедзяў і качак да чаек і камышовак. Першыя словы, якія прыходзяць у галаву, калі трапляеш сюды, — "птушыны рай".**

**"Птушыным раем" называўся адзін з габеленаў Таццяны Козік, выстаўлены яшчэ на першай яе выставе. Ідэя, у яго закладзеная, аказалася настолькі моцнай і жыццяздольнай, што дала пачатак цэлай серыі новых работ. На іх — птушкі. Гэтыя птушкі стылізаваны, яны адно суцэльнае парыванне ў пэўным накірунку, птушкі-праблiскі, птушкі-маланкі. Адчуванне палёту, вольнага існавання ў сонечных промнях і родным небе дакладна перададзена мастачкай у такой "цяжкой" ва ўсіх сэнсах тэхніцы, як габелен.**

**Ваўняныя ніты, з якімі працуе Таццяна, — матэрыял не схільны да легкаважнасці, легуценнасці. Большасць габеленшчыкаў любяць увогуле яркія, насычаныя колеры. Т. Козік аддае перавагу пастэльным, мяккім танам. Яе каляровая гама ў асноўным блакітна-вохрыстая. Калі ў работах першай паловы 90-ых мастачка часта выкарыстоўвала для выяўлення формы і рытму прапрацоўку чорным колерам, то ў апошніх работах чорны амаль што адсутнічае. Малюнак не пераважае над жывапіснасцю, колеравыя пераходы ўдала спалучаюцца з графічнымі элементамі, якія падкрэсліваюць складаны, амаль заўсёды напружаны рытм работ.**

**На адкрыцці выставы, акрамя традыцыйных віншаванняў ад арганізатараў і калег, прагучалі вершы полацкіх паэтаў — Алеся Аркуша, Леры Сом, Ірыны Дарафейчук. А апошнім нечаканым і вельмі прыгожым штрыхом стаў паказ мадэляў трыкатажнага жаночага адзення: мадэльеры Іаланта Шведава, Ірына Прахарэнка (вытворчае аб'яднанне "Чараўніцы", г. Віцебск), Ірына Бруснікіна (вытворчае аб'яднанне "Унікум", г. Наваполацк) прадэманстравалі свае калекцыі "Між двух стагоддзяў", "Следам за ветрам" і "Крылы колеру лёну".**

**А. КРАСОЎСКАЯ**

*На здымках: Т. Козік; "Адчуць на сваіх крылах залатую цеплыню".*

ФЕСТЫВАЛІ

# Што маем — трэба берагчы

## НАШ СУРАЗМОЎЦА — НАЧАЛЬНІК АДДЗЕЛА ЎСТАНОЎ КУЛЬТУРЫ І НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ ТАДЭВУШ СТРУЖЭЦКІ

**— Адбыўся фестываль народна-інструментальнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік". Ён быў ужо трынаццаты па ліку, дзевяты год запар праводзіўся ў Паставах, прычым пяты раз — у рангу міжнароднага. Сталасць традыцый, грунтоўнасць арганізатарскага досведу, пэўнасць канцэпцыі — гэта заўсёды адзначаеш, апынуўшыся ў атмасферы пастаўскага свята. У той жа час, Тадэвуш Іванавіч, вы, старшыня аргкамітэта і прэзідэнт фестывалю, штораз хвалюецеся — як творчы чалавек перад прэм'ерай...**

— Поспех кожнага фестывалю ў немалой ступені залежыць і ад гледачоў: наколькі яны зацікаўленыя, падрыхтаваныя, актыўныя. З аднаго боку, у Паставах такой праблемы няма, бо фестываль мае сваю аўдыторыю, і штогод сотні, а, можа, і тысячы жыхароў раёна чакаюць сустрэчы з мастацтвам. З другога... У Паставы кожнае лета прыязджаюць дзесяткі новых музычных калектываў, публіка ўзбагачае свой слухацкі досвед, параўноўвае, выпрацоўвае пэўныя крытэрыі, робіцца пераборлівай. Гэта і вымушае арганізатараў хвалявацца, адказна і сур'ёзна падыходзіць да фарміравання праграмы кожнага наступнага фестывалю. Некалькі разоў запар глядзець адно і тое ж людзі не будуць, паўтарацца нельга. У той жа час, шукаючы новае, трэба захоўваць традыцыі. Праграма павінна ўдасканальвацца, не адыходзячы ад агульнай канцэпцыі. Дарэчы, сёлета яна вызначалася своеасаблівым дэвізам: "Народная музычная культура на мяжы тысячагоддзяў". Прынамсі, гэта паўплывала на адбор удзельнікаў. Сярод іх былі разнапланавыя народна-інструментальныя калектывы: вясковыя, гарадскія, аўтэнтычныя і акадэмічныя па манеры выканання, традыцыйныя паводле інструментальнага складу і ўтвораныя з нядаўна адроджаных унікальных старадаўніх інструментаў; былі індывідуальныя выканаўцы і нават рок-музыкі.

**— Паводле статыстыкі, сёлетні фестываль "Звіняць цымбалы і гармонік" сабраў каля 400 удзельнікаў. Апроч дэлегацый з усіх абласцей нашай краіны, былі фальклорны ансамбль і капэла народных інструментаў з Летувы; два дзіцячыя калектывы з Расіі, са Смаленшчыны ды з Пскоўшчыны; ансамбль "Чорвона калына" з Нежына і Трыо бандурыстак інстытута мастацтваў Ровенскага дзяржаўнага гуманітарнага універсітэта прадстаўлялі Украіну, прыехаў і калектыў з аўтаномнай рэспублікі Крым. Па-за конкурсам, у якасці гасцей, выступалі знаёмыя пастаўчанам беларуская выканаўцы: народны ансамбль старадаўняй музыкі "Кантрадансе" (Баранавічы), "Паазер'е" з Паставаў, Ансамбль салістаў Акадэмічнага народнага аркестра імя Жыновіча. Яшчэ — ансамбль харэаграфічных і музычных мініяцюр "Бліскавіца", з якім не так даўно "ЛіМ" пазнаёміў сваіх чытачоў і які пачынае набываць папулярнасць. І "Гуды" — суполка беларускіх народных духавых інструментаў, створаная нядаўна пры Беларускім універсітэце культуры па ініцыятыве Уладзіміра Грома...**

— Вось бачыце: на падставе толькі гэтага пераліку можна разважаць пра повязь традыцыйнага і новага — як у праграме фестывалю, так і ў народнай музычнай культуры на мяжы тысячагоддзяў. Дарэчы, фестывальны дэвіз даў назву творчай лабараторыі, заняткі ў якой сабралі ўсіх зацікаўленых даследчыкаў і практыкаў, прафесійных выканаўцаў і аматараў. Адметнасць канцэпцыі фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік" якраз у тым, каб не толькі даць магчымасць яго ўдзельнікам паказаць свае дасягненні ды пацешыць публіку, але і скарыстаць свята для абмену досведам, як нагоду для прафесійнай вучобы і ўдасканалення выканаўчага майстэрства. Таму творчая лабараторыя — неад'емная частка праграмы.

Сёлета яе чыннікі пастараліся зрабіць экскурс у развіццё народнай музыкі на працягу апошніх стагоддзяў, вялі гаворку пра найбольш характэрныя тэндэнцыі, пра гісторыю бытавання тых ці іншых музычных інструментаў. Ансамбль "Паазер'е" пад кіраўніцтвам Анатоля Собаля паказаўся гэтым разам у новым, пашыраным складзе і годна, як сапраўдны пераемнік, прадставіў традыцыйны рэпертуар легендарнага ўжо Груздаўскага цымбальнага аркестра. Вельмі ўдала выступіў новы ансамбль беларускіх народных духавых інструментаў, створаны Уладзімірам Громам: грунтоўны тэарэтычны аналіз дапаўняла унікальнае гучанне старадаўніх беларускіх драўляных труб, акарын, ансамбляў дудароў, жалейшчыкаў... Кіраўнікі народных калектываў, пабываўшы на занятках лабараторыі, атрымалі каштоўны ўрок стаўлення да традыцый, падказку таго, як можна і неабходна выкарыстоўваць у сучаснай, жывой народна-інструментальнай музыцы яе старадаўнія набыткі.

Дэвіз "Народная музычная культура на мяжы тысячагоддзяў" адчуваўся і ў кожнай канцэртнай праграме. У пастаўскім касцёле, напрыклад, гучала старадаўняя беларуская і класічная музыка. Храм быў перапоўнены. А як слухалі, як прымалі выступленне ансамбля "Кантрадансе" пад кіраўніцтвам Андрэя Канстанцінава, Трыо бандурыстак з Украіны, лютніста з Пінска Юрыя Дубнавіцкага, які сам аднавіў-змайстраваў гэты цудоўны старадаўні інструмент, калісьці распаўсюджаны і на Беларусі! Ксёндз, які прысутнічаў на канцэрце, выказаў задавальненне і, звярнуўшыся да людзей, шчырым прыгожым словам вызначыў ролю музыкі ў духоўным жыцці, сувязь рэлігійнага жыцця з музычнай культурай.

Прэзентацыя беларускага рок-праекта трошкі з недаверам успрымалася кансерватыўнай, пераважна немаладой, часткай публікі, затое імпанавала моладзі, пра якую нельга забывацца. Зрэшты, "Народны альбом", які прагучаў на вечаровай плошчы ў Паставах (пасля яго першай прэзентацыі — у сталічнай зале "Мінск"), фестывальную канцэпцыю зусім не парушыў: стылізаваная рок-выканаўцамі традыцыйная музыка 30-40-х гадоў дэманстравала своеасаблівую галіну фальклору на мяжы дзвюх эпох.

Асобна трэба сказаць пра канцэрт званавай музыкі, які ўпершыню адбыўся ў Паставах. Выкарыстанне звона як музычнага інструмента мае глыбокія карані ў народнай культуры і звязана не толькі з культавымі рытуаламі. Вось і канцэртныя нумары "Пастаўскіх перазвонаў", прычым, з кваліфікаваным каментарыем, былі выкананы на спецыяльнай перасоўнай установцы прадстаўнікамі школы званароў, створанай пры Мінскім епархіяльным упраўленні. А яшчэ гэтым канцэртам ушанавалі мы памяць Васіля Чэпіка, які на пачатку сёлетняга года загінуў у аўтакатастрофе.

Як старшыня Пастаўскага райвыканкама ён шмат зрабіў, каб фестываль стала прапісаўся ў гэтым прыгожым старадаўнім горадзе. Па яго ініцыятыве быў пабудаваны амфітэатр у гарадскім парку, аднаўлены старадаўні вадзяны млын і ў ім адкрыты Дом рамёстваў... Лічу, мы прынялі ўзважанае і мудрае рашэнне, калі не паддаліся разгубленасці і не адмянілі фестываль — гэта ж таксама даніна памяці чалавеку, які ў самых цяжкіх эканамічных варунках знаходзіў сродкі на падтрымку добрай традыцыі...

**— Тадэвуш Іванавіч, добрыя традыцыі заўсёды трымаюцца на добрай "камандзе". Я не бяруся пералічваць усіх актывістаў аргкамітэта і чальцоў журы: іх нашы сталыя чытачы ведаюць з публікацый пра мінулыя фестывалі. Нязменныя суддзі на чале з маэстра Міхалам Казінцом і яго намеснікам Міхасём Дрынеўскім. Намеснікі старшыні аргкамітэта Мікалай Пашынскі ды Ала Кейзік, дырэктар фестывалю Наталля Булавінцава...**

— Вельмі радуе, што мы знайшлі разуменне і падтрымку з боку Ванды Януковіч, якая нядаўна стала старшынёй Пастаўскага райвыканкама. І тое, што вакол фестывалю згуртаваўся актыў аднадумцаў, дапамагае яму не толькі выжыць, але і развівацца.

Які яшчэ фестываль мае такое сталае і кваліфікаванае журы: 5 прафесараў, некалькі артыстаў з ганаровымі званнямі і кандыдатаў мастацтвазнаўства, ці не ўсе самі кіруюць музычнымі калектывамі! З году ў год назіраючы за творчым узроўнем конкурсных праграм, яны маюць магчымасць падтрымліваць высокі ацэнкавы крытэрый і стымуляваць прафесійны рост кіраўнікоў калектываў. Якім чынам? Заахвочваючы рэгіянальныя асаблівасці выканання фальклору, рэпертуарную арыгінальнасць, сцэнічную культуру. Задача журы — падтрымаць самыя цікавыя, адметныя калектывы.

**— І што паказаў сёлетні конкурс "Хто каго?"**

— Тое, што ёсць рух наперад. Кіраўнікі калектываў больш прафесійна і адказна ставяцца да сваёй справы, ужо амаль няма выпадковага і недарэчнага ў выкарыстанні музычных інструментаў, тэматычнага матэрыялу і да т. п. Не было такіх ансамбляў, якія б значна адрозніваліся ў горшы бок. А ўсіх новых цікавых удзельнікаў нават цяжка пераплічыць.

Гэтым разам вызначыліся чатыры лаўрэаты. Ансамбль "Рагнеда" Заслаўскага ГДК (мастацкі кіраўнік Уладзімір Гінько, музыч-



*Фота М. ЖЫЛІНСКАЙ*

ны — Сяргей Каралёў) — з непаўторным інструментальным складам і рэпертуарам. "Радуніца" з Мазыра (мастацкі кіраўнік — Уладзімір Барэйша) — з амаль акадэмічнай грунтоўнасцю, добрым вакалам, выдатнымі інструментоўкамі. "Таўкачыкі" — узорны ансамбль Полацкай школы мастацтваў (мастацкі кіраўнік Ірына Гальцова) — з разнастайным наборам музычных інструментаў, з выключна рэгіянальным рэпертуарам, з даволі высокай сцэнічнай культурай.

Вызначыліся майстэрствам і густам прыпевачніцы Надзея Марозава (Салігорск), Ганна Макравусава (Лёзненскі раён), гарманісты Вячаслаў Пакумейка (Верцялішкі, Гродзеншчына) ды Сяргей Каралёў (Заслаўе).

У ліку дыпламантаў — лідскі "Фестываль", аркестр народных інструментаў БДУ, ганцавіцкая "Талака" ды інш.

Канцэпцыі фестывалю адпавядалі і тры галоўныя прызы, выраблены майстрамі — удзельнікамі пастаўскага свята Уладзімірам Громам і Віктарам Кульпіным. Гэта драўляная труба, дуда і набор акарын для ансамбля, выстраеных паводле гукавога шэрагу. Спадзяёмся, што лаўрэаты ўдала скарыстаюць гэтыя навінкі ў сваіх будучых праграмах. А сімпатычны прыз, выраблены галоўным мастаком Мазырскай фабрыкі мастацкіх вырабаў Міхалам Ласкоўскім, — керамічная кампазіцыя з трыма заліхвацкімі музыкамі, цымбалістам, гарманістам ды скрыпачом — мусіць, захаваецца і ў далейшым, як сімвал нашага фестывалю.

**— "Пастаўскі баль", феерверк "Агні спадчыны", літаратурна-музычнае свята, прысвечанае 100-годдзю ўраджэнца Пастаўшчыны Уладзіміра Дубоўкі, выступленні ўдзельнікаў фестывалю перад вяскоўцамі раёна, кірмаш народных рамёстваў, гала-канцэрт... А хтосьці скажа: "Не да свята!"**

— І я сустракаў крытыкаў: маўляў, складанае жыццё, несвоечасовыя выплаты заробкаў, а вы тут фестывалі праводзіце. Але такіх — няшмат, і крытыка іх неабгрунтаваная.

Няздобра, калі фестываль праходзіць як шараговае мерапрыемства, без прадуманай канцэпцыі, сур'ёзнай мэты і перспектывы. Калі кансультацыі экспертаў падмяняе адвольная фантазія рэжысёра, якая вандруе з фестывалю на фестываль. Ненармальна, калі ў краіне адначасова праводзіцца некалькі роднасных, у жанравых адносінах, фестываляў, дзе пажадана прысутнасць адных і тых жа спецыялістаў. Ненармальна, калі пачынаецца нейкая мода на міжнародныя фестывалі мясцовага маштабу, без узгаднення з Міністэрствам культуры, і з-за чыіхсьці амбіцый дыскрэдытуецца ідэя...

Калі я ўбачу, што ў арганізацыі пастаўскага фестывалю нельга будзе зрабіць кроку наперад, мы яго праводзіць не будзем. Пакуль жа ён застаецца адным з найбольш цікавых — і для прафесійных музыкантаў, і для аматараў, і для навукоўцаў, і для гледачоў. Абмежаваныя матэрыяльныя магчымасці не дазваляюць пашыраць яго геаграфію ці тэрмін правядзення, але ж можна развіваць углыб, шукаючы новыя ідэі. Наступным разам плануем засяродзіцца на цымбалах: з гэтым інструментам звязана столькі праблем: і мастацкіх, і вытворчых. У планах — выпуск аўдыё- і відэакасет з матэрыяламі фестывалю, іх распаўсюджванне сярод спецыялістаў. Абавязкова трэба стварыць у Паставах музейную экспазіцыю, якая адлюстроўвала б і захоўвала гісторыю фестывалю. Дарэчы, частка экспанатаў ужо сабрана, некаторыя з іх перададзены і ў час фестывалю.

Калі ж глядзець на ўсё з пазіцыі складанасцяў жыцця і несвоечасовасці выплаты заробкаў, тады можна ўвогуле нічога не праводзіць і нават зусім не працаваць. Дзякуй мудрым кіраўнікам, якія бачаць перспектыву і дбаюць пра яе. Так, цяжка. Але ж людзі жывуць. І яны павінны зведаць хвіліны радасці сёння, і мець зарад аптымізму на заўтра. І пазбаўляць іх такой магчымасці — недаравальна! Людзі сем'ямі збіраюцца на гэтае свята. Калгаснік, можа, раз на год мае магчымасць урачыста "выйсці ў свет", апрануць на канцэрт свой лепшы касцюм, незапатрабаваны ў звычайныя дні: не толькі ж дзеля мазольнай працы жыве чалавек!

Фестываль, які грунтуецца на родным нацыянальным мастацтве, на беларускім слове, узвышае годнасць людзей, іх свядомасць. Важна, каб зварухнулася штосьці ўнутры і ўспомніў чалавек, што ён — беларус і жыве ў еўрапейскай краіне, якая мае годнае мастацтва.

Дык, можа, варта дзеля гэтага і працаваць зараз, не чакаючы, пакуль "зробіцца лягчэй"? Не захаваем сёння, што маем, — згубім традыцыю. А потым, спахапіўшыся, будзем ладзіць фальклорныя экспедыцыі ды вышукваць, калі што застанецца... Такі горкі вопыт у нашай гісторыі ўжо быў... Пакуль жа, дзякуй Богу, пастаўскі фестываль жыве, стымулюе народную творчасць, і людзі нават прысвячаюць яму свае песні.

**Гутарыла С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: Тадэвуш СТРУЖЭЦКІ ў фестывальнай атмасферы.*

ТВОРЦА

# Зінаіда МАЖЭЙКА: "Усё даецца з боем..."

***Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі. Доктар мастацтвазнаўства. Вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Член трох творчых саюзаў — кінематаграфістаў, кампазітараў і музычных дзеячаў. Лаўрэат прэміі акадэміка Асаф'ева, дыпламант Міжнародных кінафестываляў...***

***Яе прозвішча — ў кембрыджскім даведніку "Жанчына года 1992-га". І вось амерыканскі біяграфічны інстытут міжнародных даследаванняў абвясціў Зінаіду Мажэйку чалавекам года 2000.***



**— Чытачам "Літаратуры і мастацтва", бадай, не трэба цябе прадстаўляць. Хто сёння не ведае Зінаіду Мажэйку! Але я маю асаблівы гонар павіншаваць цябе, Зіна. Страшна падумаць, што амаль паўстагоддзя праляцела з таго часу, як лёс звёў нас на першым курсе журфака. Праўда, ты, быццам метэор, прамільгнула сярод нас, нават не ўцямілі, адкуль узялася і куды праз год знікла, але ў маёй душы след пакінула.**

— Госпадзе, і сапраўды хутка паўстагоддзя! А здаецца, так нядаўна было тое. Вы ўжо здалі ўступныя экзамены, а мае дакументы ўсё яшчэ ляжалі ў Ленінградскім марскім вучылішчы. Маю юнацкую мару аб марскіх падарожжах разбурыў вестыбулярны апарат. Дзякаваць богу, быў залаты медаль аб заканчэнні адной з аршанскіх сярэдніх школ, і на журфак мяне прынялі пазней без экзаменаў. Ужо йшлі заняткі, калі я прыйшла і села дзесьці непадалёк ад цябе. Пасля лекцый мы з табой зноў і зноў цялёпалі на Грушаўку — абедзве жылі там на прыватных кватэрах. І ў тэатры разам бегалі. Памятаеш?

**— А як жа! Ты неяк адразу пачала прывучаць мяне да оперы, якую я тады яшчэ не надта разумела, і было мне смешна, як ты плакала на арыі Ленскага. Але хутка студэнцкае жыццё зусім завірыла цябе.**

— Яшчэ б! Запісалася ва ўсе гурткі і секцыі ды яшчэ ў Дом афіцэраў бегала — іграла на акардэоне. Шмат куды і не паспявала. Праўда, у дэканаце ўшчувалі за гэта не мяне, а аднафамільца Сашу Мажэйку, старэйшага за нас на некалькі курсаў. Во было смеху!

**— Пасмяяцца ўмелі. Помніш аб'яву ў вестыбюлі? "Хто знайшоў 21-шы том твораў Адама Мальдзіса? Вярніце на першы журфак..." Увесь факультэт рагатаў. А сёння наш Адам Мальдзіс сапраўды сусветна вядомы вучоны. Наш Анатоль Вярцінскі — знакаміты паэт. Ігар Дабралюбаў — выдатны рэжысёр.**

— Сапраўды, у гады вучобы мне шанцавала трапляць у асяроддзе вундэркіндаў. У школе вучылася ў адным класе з цяперашнім акадэмікам Андрэем Ганчарэнкам, у кансерваторыі — са славутым кампазітарам Ігарам Лучанком.

**— Аказваецца, і сама вундэркіндам была, Зіначка. Хаця і пятляла: з мараходкі — ва універсітэт, з журфака — у тэатральна-мастацкі інстытут, адтуль — у кансерваторыю...**

— На тэарэтыка-кампазітарскае аддзяленне кансерваторыі я кінулася, не дачакаўшыся адкрыцця рэжысёрскага аддзялення ў тэатральна-мастацкім інстытуце. К гэтаму часу (праз два гады) мой залаты медаль ужо не дзейнічаў, і ўступныя экзамены давялося, у рэшце рэшт, здаваць нароўні з усімі. І найбольш хваляванняў было са спецпрадметамі. Музыка хаця і была яшчэ адной маёй страсцю, але сістэмнай музычнай падрыхтоўкі ў мяне не было. Бацька кадравы афіцэр, дзе мы толькі ні жылі. Музычная школа была не ўсюды. У Маладзечне яшчэ ў раннім дзяцінстве вучылася іграць на віяланчэлі. У Доме афіцэраў, ужо ў студэнцкія гады, іграла на акардэоне. У музычным вучылішчы прайшла курс агульнага фартэпіяна. А тут такі конкурс! На наша аддзяленне прымалі ўсяго чатырох прэтэндэнтаў, і сярод іх, як я ўжо казала, Ігар Лучанок, мой новы аднакурснік.

**— І кансерваторыя аказалася якраз тым, чаго прагнула твая няўрымслівая душа?**

— Вельмі хутка ў кансерваторскай фальклорнай экспедыцыі зразумела, што здолею спалучаць музыку з падарожжамі, няхай сабе і не марскімі, затое палескімі балотнымі. Тут можна знайсці прымяненне і сваім журналісцкім, і рэжысёрскім памкненням — у пошуках сапраўдных скарбаў самабытнага народнага мастацтва. І як пазней высветлілася, менавіта ў гэтым аказаўся навуковы сэнс майго жыцця. Гэты сэнс мне асвяцілі мае папярэднікі — сусветна вядомыя ленінградскія этнамузыколагі муж і жонка Яўгені Гіпіус і Зінаіда Эвальд. Яшчэ ў 1930-я гады яны працавалі ў нас на Палессі. На жаль, Зінаіда Віктараўна памерла ў час ленінградскай блакады, не завяршыўшы сваю справу. А Яўгені Уладзіміравіч пасля вайны пераехаў у Маскву і ў 60-х гадах стаў маім навуковым кіраўніком, такім, як раней у гады вучобы ў кансерваторыі была Лідзія Саулаўна Мухарынская.

**— Я ведаю, што ў Маскве ты бліскуча абараніла абедзве дысертацыі і годна працягваеш справу сваіх настаўнікаў. Гадоў шэсць ці сем таму на тэлеэкранах адзін за адным ішлі твае этнамузычныя фільмы, я не прапусціла ніводнага з іх. А цяпер бачу на кніжнай паліцы фаліянты розных фарматаў у рознакаляровых вокладках. Таксама справа твайго жыцця?**

— Можаш нават пагартаць. Пяць аналітычных зборнікаў, тры манаграфіі. Звярні ўвагу і на "Песні Беларускага Палесся" Зінаіды Эвальд. Па яе даўніх накідах і чарнавых нататках я склала і тэксталагічна падрыхтавала да друку зборнік у памяць аб сваёй папярэдніцы. Зірні і на нашу калектыўную манаграфію "Беларуская этнамузыкалогія — нарысы гісторыі XIX—XX стст.", дзе мной напісана сем раздзелаў.

На дзіва самой сабе, нават летась удалося выдаць работы і ў акадэміі, і на кінастудыі. Гэта аналітычны аўтарскі зборнік сумесна з калегай Тамарай Варфаламеевай "Песні Беларускага Паднепроўя". Ён завяршае серыю музычных даследчых зборнікаў, прысвечаных песенным сістэмам Палесся, Паазер'я, Панямоння, Падняпроўя. Гэта і яшчэ адна, ужо сёмая этнамузычная кінастужка "Рух зямлі", знятая на кінастудыі "Беларусьфільм". Стужка аб трагічным лёсе народных самародкаў, выдатных спевакоў — тонежскага пастуха Сцяпана Дубейкі і Міхася Басякова, унука даўніх сібірскіх перасяленцаў з Магілёўшчыны.

**— Зіна, ды як жа ты здолела ўзняць такі пласт народнай нацыянальнай культуры?**

— Цяпер ужо і самой не верыцца, што здолела. Але маладая была, учэпістая. І з альпіністамі спраўлялася Каўказскія горы штурмаваць. Пагляздзі. Вось мой альпіністкі значок. Дарагая рэліквія, якую я захоўваю нароўні з дзяржаўнымі ўзнагародамі. Можа, якраз альпіністкая загартоўка і дапамагала мне ў маіх бясконцых вандроўках. На працягу болей як трыццаці гадоў ад вёскі да вёскі пешшу, на трактарах, нават верталётах абласіла амаль усе раёны Палесся, Паазер'я, Падняпроўя ў пошуках народных мастацкіх скарбаў, самародных майстроў народнага спеву.

Але вельмі хутка сутыкнулася з тым, што афіцыйная культурная палітыка толькі дэкларуе пастаянную любоў да фальклору. У чым толькі мяне ні вінавацілі, якіх ярлыкоў ні прышывалі! Нават у тым, што з'яўляюся паслядоўніцай Рыгора Шырмы. Помню 1968 год. Наладзілі мы з Верай Палтаран і Ксаняй Куляшовай этнамузычны канцэрт у Саюзе пісьменнікаў — абвінавацілі ў нацыяналізме. У 1972-ім зняла першы музычна-этнаграфічны фільм "Палескія калядкі" — пасыпаліся папрокі, што прапаведую рэлігію. У 1979-ым і 1982-ім зняла вядомыя табе "Галасы вякоў" і "Памяць стагоддзяў" пра веснавыя, летнія, восеньскія і зімовыя песенныя абрады і звычаі — навалiліся з крытыкай, што ўслаўляю старамодную, аджыўшую, "бесперспектыўную" вёску. У 1986 годзе, калі выйшла кінастужка "Палескія вяселлі", мае апаненты нібы прыгавор падпісалі — выступаю супраць антыалкагольнай кампаніі. А ў 1994-ым, калі выйшаў на экраны фільм "Крывыя вечары", пачалі ўшчуваць (вось парадокс!) за надта атэістычную падачу.

Словам, усё даецца з боем.

**— Але час мяняецца. Калі пачалося адраджэнне, то табе, як кажуць, і карты ў рукі.**

— На жаль, ідэя адраджэння так і не разгарнулася. А страцілі мы шмат чаго. З настальгіяй цяпер успамінаю дзейнасць Усесаюзнай фальклорнай камісіі пры былым Саюзе кампазітараў СССР. Мы знаходзіліся ў пастаянным творчым кантакце, сустракаліся з калегамі ў Маскве і Ленінградзе, у Кіеве і Алма-Аце, у Мінску, Ерэване, Прыбалтыцы... Сёння магу толькі прыгадваць, як выступала на міжнародных форумах у Польшчы, Балгарыі, Югаславіі, Швейцарыі, Германіі, Злучаных Штатах Амерыкі. Тыя гады лічу срэбным векам нашай музычнай фалькларыстыкі. А цяпер і дзяржава на мелі, і мы ў жабрацтве. Ужо колькі гадоў сядзім у самаізаляцыі.

Але сумаваць аб даўнім, дарагім усё роўна што бедаваць пра маладыя гады, якія ўжо не вернеш. Сёння становіцца страшна, каб не страціць і нашу Беларусь, як страцілі Савецкі Саюз. Ці ты, можа, спадзяешся на наш саюз з Расіяй?

Але ж гэта самападман. У былым Саюзе пры ўсім засіллі Масквы ўсё ж існавала нейкае раўнапраўе пятнаццаці рэспублік. А цяпер трэба быць наіўным, каб спадзявацца на раўнапраўнасць вялікай і багатай на рэсурсы Расіі з беднай і невялікай Беларуссю. Калі сказаць па-фальклорнаму, то Масква — будзе покуць, а Беларусь — калідор. Дык ці ж хочацца апынуцца ў калідоры?

**— Слухаю я цябе, Зіна, і адчуваю, як зноў прачынаецца ў табе Стралец, пад сузор'ем якога ты нарадзілася.**

— Ды ён і не засынаў ніколі. Як жартуе мой муж, я ўсё жыццё адстрэльваюся. Бо не ўмею трымаць нос па ветры. Пастаянна мяне нешта кранае, узрушвае. Вось уключу тэлевізар, гляджу, што робіцца ў Чачні, а ў вушах зноў і зноў гучыць песня Уладзіміра Высоцкага аб паляванні на ваўкоў з верталётаў. Помніш — "аблажылі мяне, аблажылі"?.. Або праходжу міма Дома літаратара — столькі там цікавых вечарын праведзена! — і сэрца сціскаецца ад болю. Замест нашага Дома літаратараў — нейкі казённы "аб'ект Фрунзе, 5". І хаця я застаюся атэісткай, але ў такіх выпадках прызываю Хрыста, каб ён хварасцінай павыганяў гандляроў з гэтага храма творчасці.

Так што ты маеш рацыю — я сапраўды Стралец і маё крэда: на вайне — як на вайне...

**— Дык хай жа беражэ цябе Бог, Зінаіда Якаўлеўна! Яшчэ раз віншую і дзякую за сустрэчу.**

**Гутарыла
Аляксандра ЗАХАРЭНКА**

## Няцяжкая ноша гадоў

ГЕНАДЗЮ ТУМАШУ — 60



**Нарадзіўся Генадзь Тумаш (ад нараджэння Яўген Змітравіч Тумас) 28 ліпеня 1940 года ў вёсцы Кукшавічы Дзяржынскага раёна. У 1964 годзе скончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў выкладчыкам рускай і беларускай мовы і літаратуры Татаршчынскай сярэдняй школы Дзяржынскага раёна, малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР, рэдактарам на Беларускім тэлебачанні, загадчыкам сектара Літаратурнага музея Якуба Коласа, намеснікам дырэктара Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі...**

**Вершы пачаў пісаць падчас студэнцтва. Упершыню надрукаваўся ў чацвёртым нумары часопіса "Маладосць" за 1963 год: "Радасцю поўняцца грудзі...", "Мне дваццаць два", "Спатканне", "Роднай маці" і іншыя творы. Першай сваёй кнігай паэзіі "Лінкос" (1970) засведчыў аб сабе як аб літаратары з уласнымі тэмамі. І ў паэтычнай творчасці, і ў публіцыстычнай Г. Тумаша хвалююць пытанні нацыянальнага Адраджэння, духоўнасці. Хораша зарэкамендаваў сябе і як перакладчык, літаратуразнаўца. Шмат надае ўвагі даследаванню жыцця і творчасці Якуба Коласа, а пачаткам работы Г. Тумаша ў гэтай важнай справе стала кніга "Родны бераг песняра", што пабачыла свет у 1982 годзе. Працуе і ў галіне прозы.**

**Віншуем Яўгена Змітравіча з 60-годдзем! Жадаем яму і надалей жыццёвых і творчых поспехаў!**

## "Выпрабаваньне развоем"




**Алесь Аркуш — паэт, эсэіст, ідыёлаг Таварыства вольных літаратараў, заснавальнік выдавецкай суполкі "Полацкае ляда", выдавец альманаха "Ксэракс Беларусі" і часопіса "Калосьсе". Нехта, чытаючы гэты пералік, скажа, што ці не занадта гучна ўсё гэта. Для некага і занадта, але за гэтым пералікам стаяць канкрэтныя справы, якія ўвасоблены ў тых жа нумарах альманаха "Ксэракс Беларусі" і часопіса "Калосьсе", кнігах Леаніда Галубовіча, Юрыя Гуменюка, Ігара Сідарука і іншых, што выйшлі ў свет, дзякуючы стараннюАлеся Аркуша. Аднак Алесь Аркуш займаецца не толькі выдавецкай справай. У яго на рахунку пяць паэтычных зборнікаў. І вось нядаўна выдавецкая суполка "Полацкае ляда" ў серыі "Літаратурныя штудзіі" выпусціла яго новую кнігу "Выпрабаваньне развоем", якая стала сёмай кнігай "Бібліятэкі часопіса "Калосьсе". У выданне ўключаны тэксты, якія ў 90-ых гадах друкаваліся ў газетах "Літаратура і мастацтва", "Наша Ніва", "Культура" (у дадатку да тыднёвіка — літаратурна-філасофскім сшытку "ЗНО"), часопісе "Czas kultury" (Познань) і іншых. Прадмову "Гісторыя аднаго канцэптуальнага бунту" да кнігі напісаў Валянцін Акудовіч.**

**В. А.**

## "ЛіМ"-ФОТА

*Класічны Бетховен,*
*класічны Глінка*
*Глядзяць*
*са школьнае сцяны...*
*"Наперад, музыкі:*
*вунь там — сцяжынка*
*Да беларускай даўпіны!"*

*Самотны Бетховен,*
*стамлёны Глінка.*
*Адзін — на захад, другі —*
*на ўсход...*
*Нам трэба знаходзіць*
*сваю сцяжынку*
*І, як па нотах,*
*іграць без нот.*



*Мастацкі кіраўнік фестывалю "Музы Нясвіжа" народны артыст Беларусі Міхал ФІНБЕРГ на сустрэчы ў нясвіжскай музычнай школе.*

*Фота Віктара СТРАЛКОЎСКАГА*

АДГАЛОСКІ

# "Ў імя людства..."

*Ў імя людства, людскога шчасця*
*І духу творчага зямлі —*
*Праклясце шэршню ўсякай масці*
*І панству — ўласніку раллі!*

Уладзімір Жылка... Вялікі беларускі паэт-адраджэнец і чалавек трагічна кароткага жыццёвага шляху, тыповага для беларускай літаратуры 30-х гадоў.

У прыведзеных радках яго апошняй паэмы, як у кропельцы вады, увасоблены і высокія гуманістычныя ідэалы мастака-эстэта, яго агіда да "шэршняў усякай масці", і яго сацыяльныя ідэалы з непахіснай верай у справядлівасць, у будучы шчаслівы лёс беларуса — гаспадара сваёй зямлі... Усё гэта ў спадчыне Жылкі памнажана на вялікую, ахвярную любоў паэта-выгнанніка да Бацькаўшчыны. Безнадзейна хворы, слабы фізічна, але моцны духоўна, паэт-рамантык у апошнія дні свайго жыцця быў перакананы, што будзе ўсім "у краі маім утульна"...

Радкі Жылкі і тое, што звязана з нашым усведамленнем яго лёсу і ацэнкамі яго творчасці, згадаліся ў сувязі з лімаўскімі інфармацыямі аб святкаванні паэтавага стагоддзя. Уважліва яшчэ раз перачытаўшы старонкі, напісаныя рознымі аўтарамі пра Жылку, пераканалася: самым праніклівым, дасведчаным і ў нечым духоўна і эстэтычна блізкім паэту быў і застаецца літаратуразнаўца Уладзімір Калеснік. (У каго ўзнікне жаданне паспрачацца са мной, раю перачытаць яго). Нікому іншаму, а менавіта У. Калесніку ўдалося так чуйна, уражліва і глыбока перачытаць і асэнсаваць кожны жылкаўскі радок, кожны твор, і даць ім кампетэнтную, сучасную навуковую ацэнку. Менавіта У. Калеснік многа год вывучаў, даследаваў у архівах, па эпісталярнай спадчыне розных людзей многія абставіны жыцця паэта, стасункі Жылкі з яго сучаснікамі. Літаратуразнаўца доказна абгрунтаваў ідэйна-эстэтычную сугучнасць паэзіі Жылкі з еўрапейскім мадэрнізмам і вызваленча-гуманістычнымі традыцыямі сусветнай літаратуры. Ён раскрыў даследчыкам і чытачам наватарскі сэнс многіх вобразаў-сімвалаў у выяўленчай сістэме паэта. Менавіта У. Калеснік найбольш тонка і далікатна прааналізаваў тэму кахання ў спадчыне Жылкі, трапна назваў яго шукальнікам харастваў, красы і волі. Гэты назіральны даследчык заўважыў у грамадзянскай лірыцы паэта гімны бітвам і рэквіемы паразам...

Старонкі У. Калесніка пра Жылку, яго месца і уклад у гісторыю беларускага прыгожага пісьменства, ва ўзбагачэнне філасофска-эстэтычнага і патрыятычна-гуманістычнага зместу беларускай літаратуры павінны стаць духоўным, інтэлектуальным набыткам новых пакаленняў філолагаў, гуманітарыяў. Яны заслугоўваюць пашанотнага, удзячнага асэнсавання навукоўцамі новай генерацыі, бо яны — узор таго, якім павінна быць жылказнаўства. Не пераболыпу, сцвярджаючы, што напісанае У. Калеснікам застанецца не толькі як узор бліскучай калеснікаўскай метадалогіі, але і ў якасці падказкі адметных і перспектыўных кірункаў сучаснаму навуковаму літаратуразнаўству.

На жаль, іншыя, хто піша сёння пра Жылку, застаюцца пакуль што толькі інтэрпрэтатарамі творчасці і паэта і таго, што ўжо напісана пра яго. Кожны з іх яшчэ толькі шукае новага, уласнага Жылку. Напрыклад, незразумела, чаму МФ "Беларускі кнігазбор", даверыўшы складанне томіка "Уладзімір Жылка" Міхасю Скоблу, праігнараваў матэрыялы і даследаванні У. Калесніка. Я маю на ўвазе артыкул "Лёсу наперакор", змешчаны ў апошняй кнізе і апошняй працы Уладзіміра Андрэевіча "Уладзімір Жылка. Творы" (Мн., 1966), найбольш поўным выданні спадчыны Жылкі, клапатліва збіраным У. Калеснікам усё жыццё. Чаму нельга было змясціць артыкул "Лёсу наперакор" у залатой серыі, тым самым засведчыўшы нашу людскасць, нашу ўдзячную памяць да навукоўца. Або, зыходзячы з меркаванняў элементарнай этыкі, той самай людскасці, можна было б змясціць побач артыкулы і У. Калесніка, і ўкладальніка. Складальніку Жылкавага томіка з "Беларускага кнігазбору", што выйшаў у 1998 годзе, было лёгка ісці па шырокай, дбайна і дасведчана расцярэбленай дарозе жылказнаўства, маючы перад сабой згаданую Калеснікаву кнігу 1996 года. З апошніх жыццёвых намаганняў гэты сумленны і таленавіты даследчык рупіўся, збіраючы літаральна па радку творы, лісты, дзённікі пісьменніка, успаміны пра яго, вёў шырокае ліставанне з сучаснікамі і раднёй паэта, па драбніцы беражліва і зацікаўлена збіраў усё, што было звязана з лёсам і творчасцю Жылкі.

Пагартайце яшчэ раз кнігу У. Калесніка "Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычныя традыцыі ў беларускай паэзіі" (Мн., 1977), публікацыі "Пражскі эпісталярый", ужо згаданую кнігу "Уладзімір Жылка. Творы", укладальнікам і аўтарам прадмовы да якой ён быў....

Менавіта ён, дасведчаны і эстэтычна чулы даследчык, дакладна і гарманічна "ўпісаў" Жылку ў гісторыю беларускай літаратуры і яе тагачасны ідэалагічна складаны кантэкст.

На жаль, зноў забыліся пра гэта, выдаючы "Гісторыю беларускай літаратуры" (Т. 2), дзе ў адпаведнасці з відавочным навуковым укладам аўтарам раздзела "Уладзімір Жылка" павінен быў значыцца У. Калеснік. Жыве ж яшчэ ў Брэсце, нястомна працуе ў Навукова-асветным цэнтры імя У. Калесніка Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта, парадкуючы літаратурную спадчыну і архівы Уладзіміра Андрэевіча, Зося Міхайлаўна Калеснік. Яна б з адказнасцю і ўдзячнасцю падрыхтавала да друку адпаведны раздзел. І гэта было б вельмі разумна і па-людску. Бо, паўтаруся, калеснікаўскія ацэнкі, вывады, навукова-эстэтычныя дыфініцыі адносна Жылкі (як і адносна многіх іншых літаратурных постацей і эстэтычных з'яў) яшчэ доўга будуць актуальнымі і свежымі, і большасці з нас да іх узроўню яшчэ расці і расці.

Застаецца наракаць на нашу кароткую памяць яшчэ і таму, што ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" па невядомых прычынах затрымліваецца выданне трохтомніка У. Калесніка. Рукапіс першага тома ўжо колькі год ляжыць там, хоць выхад яго быў запланаваны яшчэ на 1998 год.

Напісалася гэта не толькі таму, што мы ў Брэсце па-ранейшаму любім Уладзіміра Андрэевіча, шануем светлую і высокую памяць пра вядомага беларускага навукоўца. Пішу дзеля таго, што можна выказаць словамі Жылкі, — "у імя людства", у імя чалавечнасці. І самае галоўнае — у імя беларускай літаратуры, да якой многія чытачы і аўтары "ЛіМа" маюць непасрэднае дачыненне.

**Зоя МЕЛЬНІКАВА**

*г. Брэст*

КАНФЕРЭНЦЫІ

# "Усім вядомы вам Каспяровіч..."

"Будзем разам!" — менавіта такі лейтматыў гучаў у час правядзення навуковай канферэнцыі, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння Міколы Каспяровіча.

Канферэнцыю распачаў старшыня Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь Аляксандр Міхальчанка. На тэму "Дакументы Міколы Каспяровіча ў беларускіх архівах" выступіла Ганна Запартыка. "Слова пра бацьку" прамовіў сын краязнаўцы — Алесь Каспяровіч (доктар тэхнічных навук, жыве і працуе ў Новасібірску). Іван Германовіч (ён ці не першы вярнуў з забыцця імя Каспяровіча) выступіў з досыць грунтоўным дакладам "Мікола Каспяровіч. Жыццё і дзейнасць".

Аляксей Каўка (Масква) прадставіў прысутным своеасаблівае сапраўды мастацка-публіцыстычнае эсэ "Мой Мікола Каспяровіч". Тэма даклада Зоры Кіпель і Вітаўта Кіпеля (ЗША) — "Беларускі друк на Захадзе". Тэму повязі М. Каспяровіча з Захадам, ролі краязнаўца ў мовазнаўстве працягнуў Зміцер Саўка (ЗША).

Вялікую ролю ў арганізацыі канферэнцыі і ўвогуле ўсіх мерапрыемстваў у знак 100-годдзя М. Каспяровіча адыграў намеснік дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны Віталь Скалабан. Гісторык Уладзімір Ляхоўскі выступіў з дакладам "Мікола Каспяровіч у 1918—1920 гг.". Архівіст Аляксандра Гесь расказала пра слуцкі перыяд у жыцці краязнаўца. Тэма паведамлення Алеся Карлюкевіча — "Мікола Каспяровіч у судакрананні з Пухаўшчынай". Таццяна Кекелева расказала пра музейна-экспазіцыйную працу ў БДАМЛіМ.

**Алесь ГЛУШКА**

# Суцяшэнне гісторыяй

## РОЗДУМ З НАГОДЫ ВЫХАДУ Ў СВЕТ "ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ. Ч. І. СА СТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА КАНЦА XVIII ст. КУРС ЛЕКЦЫЙ"

*Пасля таго, як рассеяліся хмары тугі, я ўбачыў неба і паспрабаваў пазнаць сваю лекарку. І калі я ўважліва паглядзеў на яе, то пазнаў маю карміцельку Філасофію, пад апекай якой я знаходзіўся з юнацкіх гадоў.*

**Севярын БАЭЦЫЙ**
**"Суцяшэнне філасофіяй"**

**Спасціжэнне гістарычнай ісціны.** Чалавеку ўласціва імкненне да ісціны, таксама, як імкненне да дабра і прыгажосці. **Дух яго не суцешыцца, пакуль гэтую ісціну не здабудзе.** Вельмі доўга мы вывучалі не сапраўдную гісторыю Беларусі, а ідэалізаванае, скажонае ўяўленне пра яе. Многія інтэрпрэтацыі вынікалі не з фактаў, а з зададзеных ідэалагічных установак, стэрэатыпаў. Некаторыя гістарычныя з'явы наогул павінны былі інтэрпрэтавацца "так і не інакш". Аднак у апошняе дзесяцігоддзе сітуацыя істотна мяняецца. Сцвярджаецца пэўная свабода даследчыцкай дзейнасці, у навуковы абарот уключаюцца і шырока выкарыстоўваюцца новыя крыніцы, працы гісторыкаў, якія раней былі забаронены. Галоўнае ж — з'явілася і актыўна дзейнічае "новая хваля" гісторыкаў, пазбаўленых старых ідэалагічных прымхаў і фобій, аўтараў шматлікіх манаграфій, падручнікаў, артыкулаў, у якіх перагледжваюцца і па-новаму, больш менш адэкватна трактуюцца кардынальныя праблемы беларускай гісторыі, адчуваецца яскрава выяўленая спроба філасофскай рэфлексіі над айчынным гістарычным працэсам.

Да ліку такіх прац адносіцца курс лекцый "Гісторыя Беларусі. Частка першая. Са старажытных часоў да канца XVIII ст." (Мн., 2000), падрыхтаваны калектывам выкладчыкаў кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы ў складзе І. Крэня (кіраўнік), І. Коўкеля, С. Марозавай, С. Сяльверставай, І. Фёдарава. Адзначым таксама, што з 36 лекцый падручніка 30 належаць С. Марозавай. Што ўяўляе сабою гэты падручнік, якімі навукова-педагагічнымі якасцямі ён адзначаецца, наколькі ён адэкватна адлюстроўвае рэальны гістарычны працэс, як ён уплывае на фарміраванне гістарычнай, грамадзянскай і нацыянальнай свядомасці студэнтаў і наогул чытачоў і, нарэшце, якія думкі прыходзяць у сувязі з праблемамі, што вырашаюцца ў дадзенай грунтоўнай, навукова аб'ектыўнай і каштоўнай працы?!

**Беларусацэнтрычны падыход.** Дадзены падручнік абагульняе ўсе тыя навуковыя напрацоўкі, якія былі ў апошнія дзесяцігоддзі зроблены беларускімі гісторыкамі, філосафамі, літаратарамі, філолагамі, мастацтвазнаўцамі. Ва ўступе да падручніка І. Крэнь пастулюе зыходны метадалагічны прынцып, якім кіраваўся аўтарскі калектыў: **вывучэнне гісторыі Беларусі павінна зыходзіць з нацыянальных пазіцый беларускага народа,** патрыятычных адносін да сваёй Бацькаўшчыны. Гэта вельмі важны прынцып і, на жаль, беларускія даследчыкі, у прыватнасці гісторыкі, не заўсёды яго прытрымліваліся. Быў час, была эпоха, калі ў гістарычнай навуцы, ды і наогул у гуманітарыстыцы Беларусі панаваў **масквацэнтрычны падыход.** Сутнасць гэтага падыходу ў тым, што беларуская гісторыя трактавалася такім чынам, **як яна бачылася з Масквы**, з "муроў Крамля", з пункту гледжання эканамічных, палітычных, духоўна-культурных інтарэсаў Рускай дзяржавы, а потым і Расійскай імперыі. Возьмем такую з'яву, як Лівонская, або Інфлянцкая вайна 1558—1583 гг. Ва ўсіх савецкіх падручніках ад школьных да вэнэушных можна было прачытаць, што гэта справядлівая барацьба Расіі за выхад да берагоў Балтыйскага мора, пераадоленне эканамічна-культурнай ізаляцыі ад Заходняй Еўропы. Але замоўчвалася, што войска Івана IV спустошыла Мсціслаўшчыну, ваколіцы Шклова, Оршы, Віцебска і інш. Быў узяты і разрабаваны Полацк, раскрадзена бібліятэка Сафійскага сабора, забіта шмат жыхароў, вывезена ў палон больш як ІІ тысяч палачан і г.д. Замоўчвалася, што з пункту гледжання беларускага народа гэта была агрэсія, якая пагражала ВКЛ стратай дзяржаўнай незалежнасці. Таксама, з масквацэнтрычных пазіцый трактаваліся вайна 1654—1667 гг., Паўночная вайна, падзелы Рэчы Паспалітай і шматлікія іншыя гістарычныя падзеі. "Варта зазначыць, — піша С. Марозава, — што ўсе папярэднія дзесяцігоддзі і нават стагоддзі гісторыя ўзаемаадносін ВКЛ і Маскоўскай Русі разглядалася з масквацэнтрычных пазіцый. І да гэтага часу большасць рускіх гісторыкаў перакананы, што насельніцтва беларускіх і ўкраінскіх зямель падзяляла менавіта маскоўскую праграму аб'яднання і з нецярпеннем чакала моманту, калі "чужаземная" (літоўская) улада зменіцца маскоўскай. Далучэнне зямель і княстваў да маскоўскіх уладанняў заўсёды лічылася з'явай глыбока прагрэсіўнай. Маскоўскія князі паўставалі са старонак іх твораў як збіральнікі, а літоўскія князі — як чужаземныя заваёўнікі. Гістарычная навука доўгі час не прызнавала Навагрудак, а за ім Вільню як адзін з патэнцыяльных цэнтраў аб'яднання зямель былой Кіеўскай Русі. Між тым, яшчэ ў 60-я гады XX ст. І. Грэкаў паказаў, што і ВКЛ, і Вялікае княства Маскоўскае фактычна выступалі з адной праграмай — праграмай аб'яднання ўсіх усходнеславянскіх зямель". Больш таго, як адзначалі М. Любаўскі і У. Антановіч, **вялікім князям літоўскім належыць прыярытэт у палітыцы "збірання рускіх зямель"**. Міндоўг пачаў, а Альгерд і Вітаўт завяршылі стварэнне беларуска-ўкраінска-літоўскай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага — якое распасціралася з поўначы на поўдзень — ад Балтыйскага да Чорнага мора, а з захаду да ўсходу — ад Зах. Буга да Угры, Акі і вытокаў Сейма. Дарэчы, у падручніку правільна сказана, што маскоўскі князь Іван Каліта пачаў збіраць рускія землі ўслед за Навагрудкам і Вільняй.

У свядомасці людзей, павярхоўна знаёмых з рэаліямі беларускай гісторыі, паняцце "вялікі князь літоўскі" ўспрымаецца як прадстаўнік дзяржаўнай улады літувіскага этнасу. Але гэта, як даказалі беларускія гісторыкі (а перад імі і дарэвалюцыйныя рускія) глыбока памылковае меркаванне. Вялікія князі літоўскія з'яўляліся прадстаўнікамі дзяржаўнай улады не столькі літувіскага, але беларускага і ўкраінскага этнасаў. Да таго ж, як сведчаць першакрыніцы, у прыватнасці, "Хроніка Літоўская і Жамойцкая", "Хроніка Быхаўца" і іншыя, **правячая ў ВКЛ дынастыя ў значнай ступені была абеларушана.** Альгерд ад першай жонкі, віцебскай князёўны, меў шэсць сыноў, большасць з якіх была выхавана ў праваслаўі. Ягайла быў напалову славянінам, напалову літувісам і г.д. І наогул, як вядома, у ВКЛ дамінавалі беларуская культура і беларуская мова.

Разам з тым, трэба памятаць, што навука-гісторыя — жанчына вельмі далікатная і крыўдлівая. Сцвярджаючы гістарычную праўду, прыярытэт нацыянальных інтарэсаў, трэба паважліва, цярпіма адносіцца да гістарычных інтэрпрэтацый, якія зыходзяць з боку прадстаўнікоў іншага народа або апанентаў.

**Дыялагічны характар інтэрпрэтацыі гістарычнага працэсу.** Адсюль вынікае наступная характэрная рыса, якой, на наш погляд, павінна адзначацца кожнае сучаснае, аб'ектыўнае, праўдзівае даследаванне, навуковая праца, падручнік. Гэта — **дыялагічнасць, дапушчальнасць іншых, адметных трактовак і пунктаў гледжання, пэўны навуковы плюралізм (зразумела, абгрунтаваны), адмова ад прэтэнзій на манаполію сваіх меркаванняў.** Навука гісторыі не аўтарытарны маналог, а дыялог раўнапраўных даследчыкаў. Дзякуй Богу, мы паступова пазбаўляемся ад "абэцэдаршчыны" ў гістарычнай навуцы, або ад прэтэнзій лічыць сваё меркаванне "ісцінай у апошняй інстанцыі". Не толькі манаграфіі, артыкулы, але і падручнікі прадстаўляюць розныя навуковыя падыходы да вырашэння той або іншай гістарычнай праблемы. Студэнты, вучні і наогул кожны інтэлігентны чалавек павінны ведаць, што ў гістарычнай навуцы не можа быць канчаткова вырашаных пытанняў, што гістарычная ісціна не столькі вынік, колькі працэс, пошук.

Менавіта дадзенай рысай адзначаецца праца гродзенскіх аўтараў. Аналізуючы пачатак дзейнасці стваральніка беларуска-літоўскай дзяржавы Міндоўга, С. Марозава прадстаўляе чытачу розныя меркаванні наконт яго палітычнага паходжання: адны лічаць, што ён прыйшоў у Навагрудак **як заваёўнік**, другія — перакананы, што ён быў **запрошаны** мясцовай беларускай знаццю на княжанне. Сама С. Марозава лічыць, што ніякімі пісьмовымі крыніцамі не пацвярджаецца старая тэза аб літувіскай каланізацыі Наваградчыны і Гарадзеншчыны як пачатку ўтварэння Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Міндоўг увайшоў у Навагрудак "не сілай, а са згоды яго жыхароў", папярэдне прыняўшы "веру хрысціянскую ад Усходу з многімі сваімі баярамі". Нетрадыцыйна трактуецца ў падручніку пазіцыя вялікага князя Ягайлы ў ваенным канфлікце паміж вялікім князем Маскоўскім Дзмітрыем Іванавічам і цёмнікам Мамаем, правіцелем Крымскай арды. С. Марозава адмаўляецца ад катэгарычнай ацэнкі дзейнасці Ягайлы як здрадніцкай, што існавала ў афіцыйнай расійскай, савецкай гістарыяграфіі, якая глядзела на дадзеную, вельмі складаную палітычную з'яву з пазіцыі Маскоўскай дзяржавы. С. Марозава выказвае шэраг гіпотэз на гэты конт: вялікі князь літоўскі хутчэй за ўсё ўхіліўся ад дапамогі Мамаю пад уплывам беларуска-літоўскай праваслаўнай апазіцыі ў яго войску; Ягайла не быў шчыры, абяцаючы Мамаю падтрымку, і свядома марудзіў, даючы магчымасць Дзмітрыю атрымаць перамогу; вялікі князь літоўскі чакаў, на чый бок схіліцца поспех, каб не апынуцца ў пройгрышы. І сапраўды, сітуацыя з Ягайлам даволі таямнічая і неадназначная. Ягайла з'яўляўся выразнікам дзяржаўных інтарэсаў ВКЛ, асноўным палітычным апанентам якога на Усходзе было Маскоўскае княства. Зразумела, што ён не быў зацікаўлены ва ўмацаванні апошняга і з гэтага пункту гледжання пазіцыя Ягайлы гістарычна апраўдана. Што тычыцца хаўрусу з мангола-татарамі, то на гэты хаўрус на працягу гісторыі не вагаючыся ішлі як літоўскія, так і вялікія князі Маскоўскія, што пераканаўча паказана ў падручніку. У прыватнасці, адзначаецца, што Іван III пастаянна падбухторваў крымскага хана Менглі-Гірэя на ўварванні ў межы ВКЛ.

**Канцэптуальнасць, або філасафічнасць як абавязковая ўмова гістарычнай працы.** Гісторыя, як справядліва адзначаюць многія выдатныя прадстаўнікі дадзенай навукі, гэта перш за ўсё **разуменне сэнсу.** Без выяўлення філасофскага зместу айчыннай гісторыі, яе канцэптуальнай сутнасці нельга ўявіць сапраўдны шлях народа ў прасторы і часе, яго асноватворныя сацыяльна-эканамічныя, грамадска-палітычныя, дзяржаўныя, духоўна-культурныя каштоўнасці і ідэалы, яго будучыню, мэту і сэнс яго ісціннага гістарычнага быцця, нельга пазбавіцца неадэкватнай інтэрпрэтацыі мінулага і сучаснага. Без філасофскага абагульнення гісторыя застаецца нагрувашчваннем фактаў і з'яў. І нарэшце, без філасофіі айчыннай, у прыватнасці беларускай, гісторыі немагчымы адэкватная грамадзянская, нацыянальная самасвядомасць, веданне народам сваёй сапраўднай гістарычнай рэтраспектывы і перспектывы.

Прыблізна з другой паловы XIX—пачатку XX ст. беларускія грамадскія дзеячы, гісторыкі, літаратары, філолагі (К. Каліноўскі, Ф. Багушэвіч, М. Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас, Я. Карскі, В. Ластоўскі, М. Доўнар-Запольскі, Ус. Ігнатоўскі, А. Цвікевіч, М. Гарэцкі, І. Абдзіраловіч (Канчэўскі) і іншыя, а разам з імі і знакаміты расійскі гісторык, рэктар Маскоўскага універсітэта М. Любаўскі) пачынаюць асэнсоўваць гістарычны шлях Беларусі як самастойнай дзяржаўна-культурнай адзінкі. Дадзеныя намаганні як у Беларусі, з пэўнымі перашкодамі, так і за мяжой працягваюцца ў наступным, але ж істотна яны актывізуюцца ў беларускай гістарыяграфіі з канца 80-ых гг. XX ст. Менавіта ў гэты перыяд творы беларускіх гісторыкаў набываюць яскрава выяўленую канцэптуальнасць, у выніку чаго айчынная гісторыя з'яўляецца перад чытачом у сваім адноўленым, адэкватным выглядзе. Значны крок на шляху канцэптуальна-філасофскага асэнсавання айчыннай гісторыі зроблены аўтарамі падручніка, які разглядаецца. Перш за ўсё гэта адносіцца да раздзелаў, напісаных С. Марозавай.

І ўсё ж, на наш погляд, сучаснай гістарычнай навуцы Беларусі не стае канцэптуальнасці, або філасафічнасці. Наспела неабходнасць стварэння ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі **групы, а потым і аддзела філасофіі гісторыі**, які б даследаваў тэарэтычныя і метадалагічныя праблемы айчыннага гістарычнага працэсу.

**Станаўленне нацыянальнай дзяржаўнасці і культуры — галоўная праблема айчыннай гісторыі.** На працягу шматвяковай гісторыі вызначыліся ўмовы цывілізаванага быцця кожнага без выключэння народа, асноватворныя, базавыя каштоўнасці чалавечага існавання (эфектыўная эканоміка, правы і свабоды асобы і г.д.). Але ёсць каштоўнасці, якія сярод іншых маюць пяршынствуючае значэнне, з'яўляюцца звышкаштоўнасцямі, або conditio sine qua non, г. зн. абавязковай, галоўнай умовай, а больш сцісла, перадумовай гістарычнага існавання народа. **Каштоўнасці гэтыя — дзяржаўная незалежнасць і нацыянальная культура.**

Гісторыя пераканаўча сведчыць, што, страціўшы сваю палітычную незалежнасць, сваю дзяржаўнасць, народ страчвае сваю свабоду, сваю духоўнасць, нацыянальную культуру, родную мову і ў рэшце рэшт асімілюецца іншым або іншымі народамі (палабскія славяне, прусы і інш.). І нават, калі народ і застаецца ў гісторыі ў якасці этнасу, ён непазбежна трапляе ў духоўны заняпад, у значнай ступені страчвае свой творчы патэнцыял, пазбаўляецца свайго самабытнага менталітэту, засвойвае культуру, каштоўнасці, ідэалы, мову больш моцнага народа, пад пратэктаратам і ўплывам якога ён вымушаны існаваць.

Погляд на айчынную гісторыю гродзенскіх вучоных сведчыць пра складаны, цяжкі, цярністы шлях беларускага народа ў стварэнні ўласнай дзяржаўнасці і культуры, барацьбе за сваю палітычную і духоўную свабоду. Палітычны геній вялікіх князёў літоўскіх выявіўся ва ўсведамленні той ідэі, што без моцнай дзяржаўнасці ў этнаса, народа няма будучыні. Менавіта на збудаванне такой дзяржаўнасці была накіравана вялікая энергія Міндоўга, Гедыміна, Альгерда, Вітаўта, Ягайлы і іншых. Як вынікае з працы, якая аналізуецца, у сваім гістарычным развіцці беларуская дзяржаўнасць прайшла праз некалькі этапаў. **Першы этап** (прыблізна VII-XI стст.) — племянная дзяржаўнасць, або элементарныя ўладныя інстытуты племянных супольнасцей (крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, валынян, яцвягаў і інш.), якія з'явіліся падставай фарміравання беларускай народнасці. **Другі этап** (X — першая палова XIII ст.) — княжацка-вечавая дзяржаўнасць у межах Кіеўскай Русі, носьбітамі якой былі беларускія княствы і землі, і перш за ўсё Полацкае княства, або дзяржава. **Трэці этап** — (другая пал. XIII — першая пал. XVI ст.) — інтэграваная беларуска-ўкраінска-літоўская дзяржава, або Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. У сваю чаргу, гэты этап складваецца з двух перыядаў: дакрэўскага (да Крэўскай уніі 1385 г.) і паслякрэўскага. **Чацвёрты этап** (1569 г., Люблінская унія — канец XVIII ст.) — існаванне ВКЛ, у тым ліку Беларусі, у складзе Рэчы Паспалітай, або федэратыўнага дзяржаўнага ўтварэння, у якім беларуска-літоўская дзяржава (украінскія землі ўвайшлі ў склад Польшчы) захоўвала пэўную палітычную незалежнасць (асобную адміністрацыю, войска, фінансавую сістэму, заканадаўства, судовы апарат, беларускую мову ў якасці дзяржаўнай і інш.). Падручнік, які аналізуецца, з'яўляецца першай часткай "Гісторыі Беларусі" і завяршаецца падзеламі Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) і інкарпарацыяй Беларусі ў склад Расійскай імперыі. З гэтых падзей пачынаецца **пяты этап** — канчатковай страты інтэграванай дзяржаўнасці, які цягнецца прыблізна да 1917 г. Каб агульная карціна была поўнай, адзначым існаванне **шостага этапу** (1918—1990), які пачынаецца з першых спроб аднаўлення беларускай дзяржаўнасці (БНР і інш.) і характарызуецца існаваннем абмежаванай дзяржаўнай незалежнасці БССР у складзе СССР. І нарэшце, **сёмы этап** (з 1990 г.) — здабыццё Беларуссю **поўнага дзяржаўнага суверэнітэту** (Дэкларацыя аб Дзяржаўным суверэнітэце ад 27.07.1990 г., перайменаванне БССР у Рэспубліку Беларусь — 19.09.1991 г.).

Барацьбу за ўласную дзяржаўнасць у той або іншай канкрэтна-гістарычнай форме беларускі народ вёў на працягу ўсёй сваёй гісторыі. Але драматычны, а больш сцісла, трагічны характар гэтая барацьба набыла, як паказана ў аналізуемым падручніку, у другой палове XVIII ст. Выкарыстаўшы сітуацыю, якая склалася ў Рэчы Паспалітай, Расія, Прусія і Аўстрыя здзейснілі адзін за другім тры падзелы, у выніку якіх беларускія землі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі. Была страчана хоць і адносная, недасканалая, але ж рэальна існуючая беларуска-літоўская інтэграваная дзяржаўнасць. Дакумент, які выйшаў з табару Тадэвуша Касцюшкі, выкрываў, як адзначае С. Я. Сяльверстава, сапраўдныя матывы і памкненні дзяржаў-падзельнікаў: "Няма такой хлусні, прытворства і падману, якімі не зганьбілі б сябе гэтыя два ўрады (Расія і Прусія. — **С. П.**). Пад выдуманымі прычынамі, хлуслівымі і бессэнсоўнымі, карыстацца якімі пасуе адным толькі тыранам, дагаджаючы на самой справе толькі сваёй ненажэрнай сквапнасці і жаданню распаўсюдзіць панаванне тыраніі на суседнія народы..."

Знікненне з геаграфічнай карты некалі магутнай і цывілізаванай дзяржавы, якой з'яўлялася Рэч Паспалітая, — асобная праблема для філасофіі гісторыі. Нягледзячы на тое, што на гэтую тэму напісаны горы гістарычных твораў, сутнасць гэтага знікнення недастаткова высветлена і асэнсавана. Несумненна, што аднымі з галоўных прычын з'яўляецца адмова ўрада Рэчы Паспалітай ад прынцыпу верацярпімасці, сацыяльны эгаізм феадальнай эліты — магнатаў і шляхты, палітычная дэградацыя пануючага класа, пазбаўленага ідэі "агульнага дабра", грамадскага і дзяржаўнага адзінства.

Трэба адзначыць, што эканамічная і палітычная гісторыя Беларусі прадстаўлена ў падручніку больш сучасна, чым духоўна-культурная. Выкладанне апошняй хоць і адзначаецца навізной, але яму не стае, на наш погляд, канцэптуальнасці, філасафічнасці, агульнай аб'ядноўваючай ідэі. Змест гэтай ідэі, мяркую, зводзіцца да наступнага. Страціўшы незалежнасць, народ можа яе зноў заваяваць. Страціўшы нацыянальную культуру, родную мову народ перастае існаваць як этнас, нацыя. Чаму адрадзіліся як народ, нацыя балгары пасля шматвяковага турэцкага іга? Таму, што яны захавалі сваю нацыянальную культуру, сваю духоўнасць — веру, родную мову, пісьменнасць, мастацтва і г.д. Разам з тым, рэальная гісторыя сведчыць, што духоўна-культурнае развіццё народа, нацыі вельмі цесна і непасрэдна знітавана з наяўнасцю або адсутнасцю нацыянальнай дзяржаўнасці. Толькі ва ўмовах нацыянальнай дзяржаўнасці можа паўнацэнна і эфектыўна функцыянаваць і развівацца нацыянальная культура, пра што таксама сведчыць гераічная і пакутлівая гісторыя беларускага народа. **Дзяржаўная незалежнасць і нацыянальная культура, неад'емным атрыбутам якой з'яўляецца родная мова — гэта дзве асноватворныя, дыялектычна звязаныя паміж сабой умовы паўнацэннага і шчаслівага існавання кожнага без выключэння народа.**

У заключэнні адзначым, што першая частка "Гісторыі Беларусі", якую мы прааналізавалі ў самым агульным выглядзе, з'яўляецца адным з лепшых сучасных падручнікаў па айчыннай гісторыі. Будзем чакаць выхаду ў свет другой часткі.

**С. ПАДОКШЫН,**
**доктар філасофскіх навук,**
**вядучы навуковы супрацоўнік**
**Інстытута філасофіі НАН Беларусі**

## "Крыж памяці"




**Не можа не цешыць тое, што ў нашых выдавецтвах, нягледзячы на неспрыяльны час, не перастае выходзіць менавіта беларуская літаратура, як мастацкая, гэтак і энцыклапедычна-даведчага плана. Напрыклад, не так даўно свет пабачыў гісторыка-храналагічны зборнік "Крыж памяці". Аўтарам праекта і складальнікам стаў гісторык і пісьменнік Кастусь Тарасаў. Змест кнігі — у падзагалоўку: "Кароткі спіс войнаў, паўстанняў, рэпрэсій, катастроф, якія выпалі на лёс Беларусі за тысячагоддзе".**

**Напачатку ў выглядзе ўступу даецца кароткі раздзел "Легендарныя часы" з такімі доўгатэрміновымі працэсамі як міграцыя на Беларусь славянскіх плямён і асіміляцыя імі ранейшых насельнікаў гэтай тэрыторыі. Першай датай уласнабеларускіх "чорных" падзей пазначаны 980-ы год, калі наўгародскае войска на чале з Уладзімірам Святаславічам разам з атрадамі варагаў, чудзі і меры здзейснілі напад на Полацк, падчас якога быў забіты князь Рагвалод і ўчынены гвалт над Рагнедай. Апошняя старонка "Крыжа памяці" канчаецца датай 30 траўня 1999 года, калі ў падземным пераходзе мінскай станцыі метро "Няміга" трагічна загінулі 53 юнакі і дзяўчыны. А паміж гэтымі датамі — болей за тысячу падзей. Прычым спіс нездарма названы "кароткім" — гэта, натуральна, не ўсё. Але і яно жахае. Так, асобнымі радкамі можна згадаць кожную з 628 спаленых фашыстамі разам з жыхарамі беларускіх вёсак. А многае проста не ўвайшло ў гэты мартыралог нацыі. Як, напрыклад, узрыў на мінскім заводзе радыёфутаралаў у 1972-ім. Таму і сам К. Тарасаў кажа, што ў будучым абавязкова з'явяцца дапоўненыя перавыданні "Крыжа памяці". Галоўнае, што ёсць зачын.**

**Трэба адзначыць, што ў кнізе абсалютна слушна гаворыцца не толькі пра войны і паўстанні, калі беларусы вынішчаліся ў фізічным сэнсе, а і пра іншыя трагічныя падзеі, якія нанеслі шкоду беларускай нацыі — ад рабункаў расейскімі войскамі Нясвіжскага замка да пастановы ЦК КПБ 1959 года "Аб далейшым развіцці сістэмы народнай адукацыі ў Беларускай ССР", паводле якой беларуская мова станавілася прадметам неабавязковага вывучэння ў школе.**

**Разам з тым кніжка гэтая напісана не дзеля таго, каб лішні раз пагаласіць над сукупнасцю трагічных датаў і фактаў шматпакутнага беларускага народа, а каб яе асэнсаваць.**

**К. П.**

## Памёр у блакадным Ленінградзе

**Творчая спадчына Янкі Бобрыка — нешматлікая. У 1926 годзе разам з Алесем Звонакам і Янкам Туміловічам выдаў кнігу вершаў "Пунсовае ранне". У 1930 годзе часопіс "Маладняк" надрукаваў яго паэму "Галіна". Асобныя творы Я. Бобрыка можна напаткаць у зборніку "Мы іх не забудзем", іншых калектыўных выданнях. А памёр паэт 25 жніўня 1942 года ў блакадным Ленінградзе. Нарадзіўся ж 21 ліпеня 1905-га ў мястэчку Глуск. Скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, настаўнічаў у Клімавіцкім раёне. У 1931 годзе скончыў аспірантуру Акадэміі мастацтвазнаўства ў Ленінградзе. Быў навуковым супрацоўнікам гэтай акадэміі, працаваў рэдактарам кінастудыі Белдзяржкіно, рэдактарам Упраўлення па справах мастацтваў Ленінградскага гарвыканкама. З першымі вершамі выступіў у 1924 годзе.**

## Загінула ў мінскім гета

**У 1941 годзе ў мінскім гета абарвалася жыццё пісьменніцы Сары Каган. А нарадзілася яна 3 ліпеня 1885 года ў вёсцы Максімавічы цяперашняга Клічаўскага раёна. Загадвала бібліятэкай у Бабруйску. У 1935 годзе пераехала ў Мінск. Працавала ў бібліятэчным калектары, вучылася на вячэрнім аддзяленні філалагічнага факультэта педінстытута. Пісала на мове ідыш. Першыя вершы апублікавала ў газеце "Акцябэр". Выдала кнігі паэзіі "У дарозе" (1934), "Мая радзіма" (1938), "Нашы людзі" (1940), зборнік прозы "Першая прэмія" (1938). У перакладзе З. Бядулі на беларускай мове пабачыла свет кніга С. Каган "Апавяданні" (1940).**

# Быў час, быў век, была эпоха

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

***Пад Мінскам, між лясоў,***
***Дзе рос густы асот,***
***Калгасам трактароў***
***Шмат выкуе завод.***

Другі — "Ля станка":

***Ад гудка і да гудка,***
***З ранняе часіны,***
***Тут стаіць каля станка***
***Малады хлапчына.***
***Лепшым токарам слыве,***
***Аб рабоце дбае.***
***Кожны дзень хлапец па дзве***
***Нормы выпаўняе.***

І колькі ж няшчасных дзетак па гэтай бездапаможна зарыфмаванай газетчыне вучыліся разумець, што такое паэзія? Буквар жа, паўтараю, істотна не мяняўся дзесяткі гадоў.

Пасля прачытання вершаванай прадукцыі ў букварах 1950-ых закарцела мне паглядзець школьныя чытанкі перадваенных гадоў, успомніць, па якіх узорах паэзіі вучылася адчуваць і разумець мастацкае слова наша пакаленне — на самым пачатку свайго жыццёвага шляху. Пайшоў у бібліятэку і ўзяў знаёмыя мне выданні. Не буду спыняцца на ўсіх, а прайдуся толькі па старонках адной з іх — чытанкі для 2-га класа. Адкрываецца вершам "За вучобу":

***Ударна працуюць***
***Бацькі на заводах,***
***Каб выканаць планы***
***Вялікай работы.***

На такім жа ўзроўні, з такімі ж "паэтычнымі вобразамі", з такімі ж "дакладнымі, звонкімі, прыгожымі рыфмамі" (заводах — работы) — увесь верш. Зусім да пары яму верш "Свята перамог" (чамусьці менавіта так: не перамогі, а перамог):

***Дзень у дзень няспынна***
***Уперад мы ідзём.***
***Творым калектыўна***
***Новае жыццё.***
***Шмат яшчэ работы***
***Трэба нам канчаць, —***
***З большаю ахвотай***
***Будзем працаваць.***

Цудоўна, проста цудоўна! — і па вобразнасці, і па мове, і па майстэрству, — ва ўсіх адносінах. Самы раз чытаць і завучваць на памяць, выхоўваць у сабе чуццё паэзіі, мастацкага густу, што мы, другакласнікі 1939-га года, і рабілі. У такім жа стылі, такою ж мовай напісаны верш "Сяўба":

***Спераду трактар,***
***Нібы важаты,***
***Важна шагае,***
***Пыхціць зухатава.***

І верш гэтай жа тэмы "Раней і цяпер":

***Па першаму знаку,***
***Па першаму слову***
***Усе трактары***
***Да работы гатовы.***

І верш "Паравоз":

***Зноў бягуць назад вагоны***
***З бульбай, хлебам, лесам, лёнам,***
***Цераз пушчы і балоты***
***Для рабочых і заводаў.***

І верш "У школе":

***У школе так слаўна:***
***Разліта цяплынь,***
***Радамі расстаўлены***
***Парты, сталы.***
***І тут вось, за працай,***
***За чыткаю кніг***
***Мацнее, расце***
***Малады будаўнік.***

Уяўляю, як успрымае гэтую "паэзію" і што пры гэтым думае сённяшні чытач. "Ды падобнае бязглуздае графаманскае крэмзанне, думае, і ў раённай газеце друкаваць няможна! Нават у насценнай змяшчаць такое не варта! Ну а ў падручніку па літаратуры... ды гэта ж варварства, гэта здзек над душою дзіцяці!.." Так, правільна, гэта быў самы што ні ёсць здзек і гвалт над розумам і сэрцам школьніка, гвалт над мовай, над усякім здаровым сэнсам наогул. Але чаго здзіўляцца? Калі здзекаваліся з усяго народа, дык чаму не здзекавацца з дзіцяці? Калі гвалтавалі душы мільёнаў дарослых, дык чаму вызваляць ад гэтага гвалту мільёны душ малышоў і непаўналетніх? Чым раней іх згвалціш, зломіш і растопчаш — тым лепш будзе для рэжыму, тым больш верныя слугі панарастуць.

Аднак жа хачу яшчэ падаць тут хоць адну страфу з верша "Гарод". О, гэны незабыўны "Гарод"! Дагэтуль помню, які я быў шчаслівы і як ганарыўся ў той дзень, калі не толькі атрымаў за яго "выдатна" (па-цяперашняму — пяцёрку), але і вельмі высокую пахвалу ад настаўніцы. Помню, як яна павадзіла пальцам па журнале, затым назвала маё прозвішча і сказала: "Ідзі да дошкі і раскажы сцішок". Менавіта так гаварылі ў нас: раскажы сцішок. Слова "верш" не было нават у лексіконе настаўніцы. І я выйшаў і на высокім эмацыянальным уздыме прадэкламаваў:

***Аралі, садзілі, палолі, —***
***А вось і збіраць ужо час.***
***Гародніны будзе нямала***
***Сяголета мецъ наш калгас.***

Помню, што мяне ўразіла слова "сяголета". У нашым баку гаварылі "сёлета". Можа, таму і ўразіла, што толькі ў гэтым "сяголета" і была паэзія?

Вось такімі "сцішкамі" далучалі нас, школьнікаў 30—40-х гадоў, да літаратуры, да паэзіі, да духоўнай культуры ўвогуле. Не далучалі, вядома, а адлучалі, забівалі ў душы і тыя пачаткі паэтычнага бачання свету, што даюцца ад нараджэння.

На шчасце, сярод падобных "сцішкоў" траляліся ў чытанках і ўзоры сапраўднай паэтычнай класікі, вершы хрэстаматыйныя ў самым высокім значэнні слова. Праўда, у гэтай чытанцы, якую я цытую, іх зусім мала. "Зіма" ("Надышлі маразы...") Якуба Коласа, яго ж "Ручай" ("Між алешын, кустоў...") і яго ж "Дуб" ("Сілачом стаіць..."). Неверагодна, але гэта і ўсё. Праўда, змешчаны яшчэ "Мужычок з **нагаток**" М. Някрасава, але ў вельмі бездапаможным перакладзе ("Ногцік" не рыфмавалася, дык хай будзе рускае "ноготок"). Астатняе, што я не цытаваў з надрукаванага ў ёй вершаванымі "слупкамі", — гэта зноў жа тэксты для ідэалагічнай апрацоўкі школьнікаў: "Чырвонаармейская песня" ("Зара камуны узнялася свяціць над намі заўсягды"), "Жалобны марш" (памяці У. І. Леніна), антырэлігійная сатыра К. Крапівы "Калядная размова" і "Шагай, атрад!".

Дарэчы, наконт гэтага "шагай". Па ўсім бачна, што пасля рэформы правапісу 1933-га года свядома і мэтанакіравана ўзяліся насаджаць у беларускай літаратурнай мове русізмы. Адно ў вершах гэтай чытанкі: і "важна шагае", і "шагаючы чынна", і "хутчэй зашагаў", і нават загнанае ў загаловак "Шагай, атрад!". Так і **шагалі**. І **шагаем** дагэтуль. З трасянкай на сцягу і вуснах. Але гэта ўжо тэма для асобнай размовы: аб русіфікацыі, аб засмечванні мовы небеларускай лексікай...

Мне ж гэтым разам хацелася на канкрэтных прыкладах паказаць, што рабілася ў нашай школе, у нашай педагагічнай навуцы ў часы сталінскай дыктатуры, у часы поўнай адсутнасці свабоды слова, ва ўмовах палітычнай і духоўнай цэнзуры, — паказаць, праз якія завалы хлусні і фальшу, невуцтва і пачварства патрэбна было прабівацца жывому, не знявечанаму і не скалечанаму слову да жывой душы чалавечай. Як "лёгка" было ісці і падымацца да вяршынь сусветнай культуры, засвоіўшы яшчэ ў першыя школьныя гады такую "паэтычную класіку", набыўшы такі "эстэтычны" грунт. Не ведаючы гэтага, не ўсведамляючы гэтага, немагчыма па-сапраўднаму зразумець той складаны, той невясёлы, той трагічны час. І незайздросны лёс тых, каму выпала ў ім жыць. У тым ліку і лёс яго паэтаў.

*2000.*

## "Пад Ленінскім сцягам... пад Сталінскім сонцам..."

ХРОНІКА БЕЛАРУСКІХ літаратурных часопісаў 20-ых гадоў сведчыць, што маладыя беларускія і ўкраінскія пісьменнікі той пары досыць часта кантактаваліся між сабою, абменьваліся дэлегацыямі, літаратурнымі старонкамі, публікацыямі перакладаў, сябравалі асабіста. У прыватнасці, узаемна засімпатызавалі тады адзін другому (як аказалася — на ўсё жыццё) два вельмі таленавітыя Уладзіміры — украінец Валадымыр Сасюра і беларус Уладзімер Дубоўка (у той час яго імя пісалася менавіта так — Уладзімер). Гэта якраз тады з-пад пяра Сасюры — бадай ці не самага пяшчотнага лірыка ва ўкраінскай паэзіі XX стагоддзя — вылецелі крылатыя радкі: "Білорусь ти моя, Білорусь! Сіньоока сестра України!.."

Лёс двух паэтаў склаўся неаднолькава. Ул. Дубоўка яшчэ ў 1930-ым быў арыштаваны і сасланы ў Сібір як "нацдэм" і "контррэвалюцыянер", "вораг савецкай улады і народа"; хоць і ацалеў там, на поўначы дзікай, але ў Беларусь ужо ніколі так і не вярнуўся, пасля ссылкі дажываў свае дні ў Маскве, адкуль яго "энкавэдзісты" і забралі. Сасюру такое зведаць, на шчасце, не давялося, ён жыў і працаваў на радзіме аж да канчыны ў 1965-ым (за выняткам двух гадоў нямецкай акупацыі), у 30—50-я гады вельмі шмат пісаў і друкаваўся, за кнігу "Каб сады шумелі" (1947) атрымаў Сталінскую прэмію (пазней яна будзе названа Дзяржаўнай прэміяй СССР), быў узнагароджаны ордэнам Леніна, меў шмат іншых дзяржаўных узнагарод. Адным словам, тады, калі Дубоўка дзесь у канцлагеры рабіў сталяром і мулярам (дзякаваць Богу і за гэта — бо мог бы мардавацца ў каменяломнях), Сасюра цешыўся вядомасцю і славай як адзін з "найкрашчых" песняроў Савецкай Краіны. Але, але... Але ёсць у творчай біяграфіі гэтых двух паэтаў момант, які міжволі прымушае, гаворачы пра аднаго з іх, успомніць і другога. Момант — сумны, горкі, прыкры, а перш за ўсё — трагічны, — у ім, як у люстэрку, адбілася тое самае страшнае і ганебнае, чаго метадам палітычнага і маральнага тэрору ў дачыненні да асобы творцы дабівалася таталітарна-аўтарытарная дыктатура.

Дык вось — пра гэты самы момант, ці дакладней — паралельныя моманты. У 1944 годзе У. Сасюра напісаў і апублікаваў цудоўны лірыка-патрыятычны верш "Любіце Украіну", які адыграў значную ролю ў абуджэнні родалюбных пачуццяў, у пашырэнні і грунтаванні ў грамадстве нацыянальнай самасвядомасці. Падаю дзве першыя і тры апошнія страфы гэтага твора ў перакладзе Максіма Танка (зробленым, на жаль, паспешліва і таму трохі каструбавата — у арыгінале ён больш пявучы, больш зграбны ў сінтаксісе, больш выразны інтанацыйна):

***Любіце Ўкраіну, як сонца прамень,***
***Як вецер, і травы, і воды...***
***Любіце ў святочны і радасны дзень,***
***Любіце ў часіну нягоды.***

***Любіце Ўкраіну, сваю старану,***
***У зелені, цвеце вішнёвым,***
***Яе хараство, залатую вясну,***
***Яе салаўіную мову.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Юнача! Хай смех тваёй любай звініць,***
***Будзь верным заўсёды адзінай.***
***Не зможаш ты іншых народаў любіць,***
***Не любіш калі Украіны.***

***Дзяўчына! Бы ў небе святло заранiц,***
***Любі яе кожнай хвілінай.***
***Не будзе цябе твой каханы любіць,***
***Не любіш калі Украіны.***

***Любіце у працы яе і ў баю,***
***Любіце як сонца свабоды,***
***Любіце Ўкраіну, радзіму сваю, —***
***Шчаслівы з ёй будзем заўсёды.***

Праз пяць гадоў, у канцы саракавых, "нехта" "недзе" агледзеўся, што верш Сасюры — шкодны па ідэйнай накіраванасці, а менавіта — нацыяналістычны па змесце і духу. Як гэта — "любіце Ўкраіну"?! Савецкі Саюз трэба любіць, Айчыну ўсіх народаў і народнасцяў, аб'яднаных у адно цэлае пад сцягам Кастрычніка, а не асобна ўзятую рэспубліку! Пагром быў учынены страшэнны. О, як умелі тады гэта рабіць крамлёўскія душпастыры! Не дай Бог было трапіць да іх у няміласць! Сасюра — трапіў. Малацілі яго з усіх трыбун — вусных і друкаваных — так, што адно пырскі ляцелі. Рыкашэтам даставалася нават тым, хто меў неасцярожнасць перакласці гэты верш украінскага пабраціма на сваю родную мову, — як, напрыклад, М. Танку.

Тады ж, ужо нейкі іншы "нехта" падказаў змяздрычанаму, збітаму на горкі яблык паэту: паратунак маеш толькі адзін — неадкладна напішы гэткі ж моцны верш інтэрнацыяналістычнага зместу і гучання, каб ім перакрыць тую прыкрую "памылку", — іначай не паверыць, што гэта памылка, выпадковы "зрыў", "звіх", і — сам разумееш, чым можа кончыцца... І Сасюра піша новы патрыятычны верш-гімн, ужо не "Любіце Ўкраіну", а "Любіце Айчыну", аб ідэйным змесце і мастацкім узроўні якога можна меркаваць па дзвюх наступных страфах:

***Любіце Айчыну, любіце заўжды,***
***І сёлы яе, і яе гарады.***
***Усе ёй жаданні, парывы душы***
***На светлай дарозе да ясных вяршынь.***

***Любіце Айчыну, любіце заўжды,***
***Цясней для яе мы згуртуем рады***
***Пад Ленінскім сцягам, што вечны,***
***як час,***
***Пад Сталінскім сонцам,***
***што свеціць для нас.***

**(Пераклад Р. НЯХАЯ).**

Страх, які працяў душу і сэрца паэта, быў такі моцны, такі неадступны і сіберны, што Сасюра не спыніўся на гэтай пакаяльнай пераробцы, а ў хуткім часе, у 1950-ым, піша да непрыстойнасці льсцівы панегірык "Расійскаму народу" (хаця б не падумалі, што недастаткова любіць "старэйшага брата"), а ў 1953-ім, у год смерці Сталіна, абнародвае доўгую публіцыстычную паэму "Запраданцам" — гнеўную, злосную, на ўзроўні лаянкі, анафему "ўкраінскім нацыяналістам", дакладней, тым украінцам, якія хацелі жыць у незалежнай Бацькаўшчыне, пра гэта марылі і за гэта змагаліся. Вядома ж, змагаліся і супроць ціскоў бальшавіцкай дыктатуры. Названыя і многія не названыя тут творы апальнага, растаптанага, маральна знішчанага Сасюры былі напісаны няйначай як зусім іншым паэтам, іншым чалавекам, а не аўтарам пранікнёна-узнёслага, сонечна-пяшчотнага гімна "Любіце Ўкраіну". Нягледзячы на ўсе вымушаныя прысягі паэта Вялікаму Крамлёўскаму Людаеду, чорнае кляймо на яго біяграфіі трымалася бадай ці не да 1956-га года, да



# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**Учора ў малой канцэртнай зале Палаца Рэспублікі дабрачынны канцэрт даў этнагурт "Тройца". Атрыманыя ад продажу квіткоў грошы пойдуць дзецям мінскай школы N 19, што маюць кепскі зрок. Чамусьці міжволі за ўсіх беларусаў радасна стала...**

**ЭКРАН**

**Беларускае тэлебачанне**

*28 ліпеня, пятніца, 18.00* — "Бог з табою, варагіня...", тэлеверсія аповесці Уладзіміра Караткевіча "Сівая легенда".

*1 жніўня, аўторак, 17.45* — "Я быў ротным запявалам...", тэленарыс пра ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны М. Кулакоўскага.

*5 жніўня, субота, 16.25* — "Арт-клуб" пра мастацтвазнаўцу Тацццяну Арлову.

**Відэаклуб ТБМ**

*29 ліпеня, субота, 18.00* — у сядзібе гэтай арганізацыі па Румянцава, 13 пакажуць дзіцячы фільм "Маленькі Сцюарт" з элементамі камп'ютэрнай графікі.

**ВЫСТАВЫ**

Да *15 жніўня* ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва працуюць дзве выставы: "Легенды і паданні роднага краю" (графіка, жывапіс і скульптура з фонду музея) і "Мой горад" (фотаздымкі, прысвечаныя Мінску).

# Тэатр у падвешаным стане

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі ("Вольная сцэна") — другая мельпаменаўская ўстанова пасля ТЮГа, дзе летнія вакацыі выдаліся зусім не адпачынкавымі. "Вольная сцэна" можа застацца без Валерыя Мазынскага — свайго сталага на працягу ўсіх 10 гадоў існавання мастацкага кіраўніка.

Справа ў тым, што 1 жніўня ў рэжысёра заканчваецца кантракт, а працягваць яго Міністэрства культуры лічыць "немэтазгодным", пра што міністр Аляксандр Сасноўскі і давёў дасланым у тэатр лістом. Але абсалютна без усялякіх тлумачэнняў. Прычым такое рашэнне ідзе насуперак пажаданням усяго без выключэння творчага калектыву тэатра. Не параіліся таксама, як гэта было звычайна раней, з Саюзам тэатральных дзеячаў.

Звяртаючы ўвагу ў тым ліку і на гэта, старшыня СТД, драматург Аляксей Дудараў у звароце да міністра гаворыць пра "пагібель" тэатра ў выпадку, калі ён застанецца без мастацкага кіраўніка: **"Я не перабольшваю. Замяніць загадчыка музея, бібліятэкі, нават дырэктара тэатра і то бывае не заўсёды проста. Замяніць жа мастацкага кіраўніка творчага калектыву без падрыхтоўкі, спантанна, на адных эмоцыях — гэта нанесці яму вялікую, а можа і непапраўную шкоду. Як кіраўніку тэатральнага саюза, мне вядома сітуацыя знутры, магу з усёй адказнасцю заявіць: ніводзін рэжысёр, а іх у нас зусім не багата, на пасаду Мазынскага не пойдзе з-за этычных меркаванняў. Прызначыць жа на яе паслухмянага клерка таксама немагчыма, трэба мець талент ці хаця б здольнасці... Тэатр са жніўня будзе знаходзіцца ў падвешаным стане. А як у такім стане функцыяніруюць тэатры, добра вядома з гісторыі. Варта прыгадаць калатнечу і рэжысёрскую чахарду, якая напаткала Рускі тэатр, калі палічылі "немэтазгодным" мастацкае кіраўніцтва Б. Луцэнкі. Скончылася яна толькі тады, калі Луцэнка вярнуўся...Наша краіна не такая багатая, каб раскідвацца рэжысёрамі, драматургамі і цэлымі тэатральнымі калектывамі".**

А тое, што мы можам "Вольную сцэну" згубіць, абсалютна не выключана: акцёры кажуць: калі сыдзе Мазынскі, яны "аніводнага дня з новым мастацкім кіраўніком не застануцца".

У мінулую пятніцу ў тэатры адбыўся агульны сход творчага калектыву, дзе галоўны спецыяліст аддзела тэатраў Міністэрства культуры Вацлаў Валадзько тлумачыў, чаму Валерыя Мазынскага звальняюць. Маўляў, ён не выконвае пастановачнай нормы, якую павінен рабіць мастацкі кіраўнік, гэта значыць, мала ставіць уласных спектакляў, і наогул ягоны асабісты ўклад у дзейнасць тэатра быццам бы з кожным годам усё слабейшы.

Артысты з такой ацэнкай катэгарычна нязгодныя, пра што і напісалі ў лісце да А. Сасноўскага, заклікаючы міністра культуры **"шчыра і з усёй адказнасцю адказаць на простае пытанне: хто сёння можа замяніць Мазынскага на гэтай пасадзе? Вартай кандыдатуры пры беднасці нашай рэжысуры, на вялікі жаль, мы не бачым. Дзесяць гадоў таму тэатр быў створаны менавіта Мазынскім і стаў прытулкам для беларускіх драматургаў, асабліва маладых. Не сакрэт, што нават прызнаным майстрам у гэтым жанры даводзіцца чакаць па два, тры, чатыры гады, пакуль іх твор з'явіцца на сцэне таго ж купалаўскага тэатра. На сцэну Тэатра беларускай драматургіі п'есы беларускіх аўтараў трапляюць адразу ж".** Што да спасылак на тое, што В. Мазынскі мала ставіў сам, то артысты нагадваюць, што задача мастацкага кіраўніка — вызначаць палітыку тэатра, прыцягваць лепшых драматургаў і рэжысёраў, а не самавызначацца, і заяўляюць, што будуць адстойваць мастацкага кіраўніка і "Вольную сцэну" "усімі законнымі сродкамі".

**К. П.**

Ілья ШАХРАЙ

# Абсурдзінкі

❑

Дон Кіхот сканаў...

А Санча Панса неяк Кашчэя Бессмяротнага сустрэў. З асла злез, укленчыў:

— Кашчэйчык, даражэнькі, сыграй Дон Кіхота — добрай славы набудзеш.

А ее якраз у пляскатага, як патэфонная кружэлка, Кашчэя і не хапала. І пачаў ён іграць. Іграў-іграў, аж пакуль іголка не зламалася...

Шкада Санча Панса...

❑

Геніяльны кампазітар Вагнер неяк папікнуў проста кампазітара Сен-Санса:

— У Вас таленту не хапіла б, каб атруціць Моцарта...

Сен-Санс засумаваў, стварыў геніяльную рэч "Паміраючы лебедзь" і — атруціўся...

❑

Вялікі мастак Адраджэння Тыцыян працаваў над партрэтам караля і ўпусціў пэндзаль. Каранаваная асоба палічыла за гонар узняцца і падаць той пэндзаль паважанаму майстру.

Гэтую гісторыю ведаў аўтар знакамітай карціны "Тры волаты" Васняцоў.

Магчыма, не ўсе згадаюць, што прывобразам сярэдняга волата — Ільі Мурамца — быў сам імператар Аляксандр III. І вось у час сеанса Васняцоў знарок упускае пэндзаль на падлогу. Цар, крэкчучы, нахіляецца і падае ўпушчаную рэч славутаму вернападданаму.

— Вялікі дзякуй, — адказвае на тое Васняцоў.

А трэба заўважыць, Аляксандр III быў зацяты алкаголік.

— "Дзякуй" у кішэню не нальеш, — адазваўся ён.

Васняцоў не разгубіўся і наліў яго вялікасці разбаўкі для фарбаў...

З таго часу на Русі і пачалі піць розную дрэнь...

❑

Зрэдку сустракаецца такі выраз: "І тады на шалі лёсу быў кінуты меч..."

І калі б тыя шалі знаходзіліся на паўднёвым ці паўночным полюсе, то меч заважыў бы крыху больш, чым на экватары. Гэта таму, што планета нашая — не ідэальны шар, а крыху прыплюснуты ад даўгаватага касмічнага жыцця.

І не дзіўна, што французскія штыкі ды шаблі ў Падмаскоўі здаваліся цяжэйшымі — Масква і Парыж знаходзяцца на розных шыротах.

Тое вядома было Кутузаву. Назіраючы за Барадзінскай бітвай, ён тлумачыў сваім генералам:

— Ворагі нашы — народ далікатны, да кожнага лішняга міліграма чуллівы. Пабачыце, хутка наогул яны стомяцца, сваёй зброяй у нас упраўляючыся.

Не памыліўся фельдмаршал.

❑

У пачатку дваццатага стагоддзя славутаму мільянеру Ракфелеру рабілі ўстаўную сківіцу...

І трэба ж, менавіта ў гэты час сусветна вядомы аўкцыён "Сотбі" выставіў на продаж рэліквію — зуб мудрасці Сакрата.

Не вытрываў багацей і купіў гэты зуб для сваёй штучнай "хлебарэзкі" за вялікія грошы. А ці трэба нагадваць, што вялікі філосаф старажытнай Грэцыі быў бедны, сціплы і — добры выпівака. І вось, карыстаючыся сваёй музейнай сківіцай, мільянер кінуўся ў дзівацтвы. Амаль на ўвесь свой капітал заснаваў дабрачынны фонд свайго імя. Астатнія грошы пакінуў сабе — на таннае віно. А потым наогул знік.

"Фонд Ракфелера" існуе і зараз, і пры ім — сям'я Ракфелераў. Але гэта — аднафамільцы.

## У Доме літаратара

**6 жніўня.** Літаратурныя чытанні ў Зэльве.

Рэспубліканскае свята беларускай паэзіі, прымеркаванае да 120-й гадавіны з дня нараджэння А. Блока, в. Калбы Пінскага раёна.

**25 жніўня.** Пасяджэнне рады Саюза беларускіх пісьменнікаў сумесна з Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку.

Пасяджэнне літаратурнага аб'яднання "Літаратар".

## Першы міжнародны пленэр імя Фердынанда Рушчыца

**У межах падрыхтоўкі да 130-х угодкаў (10 снежня 2000 г.) вялікага беларускага мастака Фердынанда РУШЧЫЦА**

Зямля, дзе стаяў фальварак Рушчыцаў, дзе мастак жыў і працаваў, дзе стварыў большасць сваіх твораў, збірае мастакоў з розных гарадоў Беларусі, Польшчы, Летувы. Чакаецца, што на свята з Варшавы прыедуць сын і ўнук Фердынанда Рушчыца.

Задача ўдзельнікаў пленэру — пазнаёміцца з радзімаю выдатнага мастака, прайсціся ягонымі сцежкамі. А ў выніку судакранання з крыніцаю мастацкай творчасці, зямлёю Ф. Рушчыца, народзяцца творы сучасных мастакоў — на палотнах і паперы, у камні й бронзе.

Пленэр пачнецца ў вёсцы Багданава Валожынскага раёна і будзе праходзіць па 14 жніўня у тых мясцінах, якія Ф. Рушчыц наведваў, дзе працаваў у Вішневе, Дзясятніках, Крэве, Гальшанах.

Мяркуецца стварэнне праекта адбудовы радзіннага фальварка мастака, каб на будучыню там быў дом-музей творцы. У выніку пленэру плануюцца выставы ў Гальшанах і Багданаве.

У снежаньскія юбілейныя дні адчыніцца вялікая выстава ўдзельнікаў пленэру ў адной са сталічных галерэй.

Арганізуе гэтае культурніцкае мерапрыемства Беларускі саюз мастакоў пры падтрымцы Валожынскага і Ашмянскага райвыканкамаў.

ВЕРНІСАЖ








Мал. А. ГУРСКАГА

Марцін КОЎЗКІ

## Доля праўды

Новая вобласць медыцыны "стрэсалогія". Гэта і чэргі ў магазіне, і дэфіцыт, і інфляцыя, і экалогія. Ёмістае слова "стрэсалогія".

●

Вучоныя знаходзяць у аматараў футбола нелады з мазгамі. Ёсць, значыць, нейкая сувязь паміж галавой і нагамі. Дык не ўсе ж чыны навакол гуляюць у футбол.

●

З Карэла Чапека: "Чарвяк: — Мне б толькі ведаць, што ёсць чарвякі на іншых планетах — і нічога больш не трэба".

●

Не кладзіце ўсё ў адзін кацёл, неразумныя кашавары. І не будзе ў вас такіх слоў, як "гасптавары".




ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
приёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 27.07.2000 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 3805.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12